С. П. Сахараў.

# Народная творчасьць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў.

Выпуск I.

LATVIJAS BALTKRIEVU BIEDRĪBAS IZDEVUMS
RĪGĀ 1940

S. P. Sacharov.

# Narodnaja tvorčašc Latgaļskich i Ilukstenskich bielarusau.

Vipusk I.

Spiēstuve „Zieds", Rīgā, Jumaras ielā 15.

# Уступ.

Беларусы ў Латвіі, як сталыя насельнікі краю, жывуць з сівой мінуўшчыны, галоўным чынам, ў прымежных мяйсцовасьцях Латгаліі і ў Ілукстэнскім павеце Земгаліі.

Усяго беларусаў ў Латвіі, згодна Уселатвійскіх народных перапісаў, *) было:

| | | | |
|---|---|---|---|
| ў 1920 год. | —75 650 чал., | з іх у Латгаліі і Ілукстэншчыне | 71 428 |
| „ 1925 „ | 38 010 „ | „ „ „ „ | 34 671 |
| „ 1930 „ | 36 029 „ | „ „ „ „ | 27 275 |
| „ 1935 „ | 26 867 „ | „ „ „ „ | 16 724 |

Займаюцца беларусы нямаль выключна земляробствам і толькі па гарадох заняты дробным рамесьніцтвам. Некаторая частка беларусаў-малазямельных перебралася з Латгаліі і Ілукстэншчыны ў Рыгу (згодна перапісу 1935 году ў Рызе налічвалася 4676 беларусаў) і ў іншыя гарады, дзе працуе на фабрыках і заводах. Шмат беларусаў працуе парабкамі на хутарох ўсяе Латвіі.

Латгальскіе і Ілукстэнскіе беларусы да гэтага часу захавалі характэрныя рысы свайго нацыянальна-бытавога укладу і сваю мову. Асабліва адбілася гэта ў іх духовай творчасьці-песьнях, казках, апавяданьнях, прыказках і г. д.

Многае, зразумела, пад уплывам сучаснага жыцьця, напрыклад, разсяленьня па хутарох, губляецца, шмат чаго зьмяняецца, але яшчэ многае жыве і будзе жыць.

На вялікі жаль, духовы твар і быт Латгальска-Ілукстэнскага беларуса зусім мала быў дасьледаваны ў перадваенныя часы папярэднімі этнографамі. У найвялікшых зборніках беларускага фольклёру, ў „Матеріалы...“

---

*) Згодна Усерасійскага перапісу 1897 году на тэрыторыі сучаснае Латвіі зарэгістравана было 81986 беларусаў.

П. В. Шэйна і ў „Бѣлорусскій Сборникъ“ Е. Р. Раманава, знаходзімо мы толькі некалькі запісаў. Так, ў 5-ым томе „Бѣлорусскага Сборника“ Раманава зьмешчаны замовы, запісаныя ў Ляўдэрах, а ў „Матеріалах“ Шэйна, ў томе І-ым І-й частцы на балонцы 513 зьмешчана жартаўлівая песьня „Прыляцелі пчолачкі яравыя“, запісаная ў Ілукшчыне; ў 2-й частцы таго-ж тому зьмешчаны: „Обряды погребальные Динабургскаго уѣзда“ (524-527 бал.), „Дѣды лѣтніе“ (627—628 бал.), запісаныя слухачом Віленскага вучыцельскага інстытута Савіцкім ў Малінаўцы, *) і „Прычытаньне па мужу“, запісаная у Люцыншчыне слухачом таго-ж інстытута Кунцэвічам (бал. 638).

Толькі з самаарганізацыяй беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі і пасьля наданьня ей правоў культурнае аўтаноміі ў 1921 годзе, беларуская інтэлігэнцыя, настаўніцтва і вучні былых Даўгаўпільскай і Лудзенскай беларускіх гімназіяў энэргійна ўзяліся за запісваньне этнографічнага матар'ялу сярод беларускага насельніцтва Латгаліі і Ілукстэншчыны. Гэтыя запісы часткова зьмяшчаліся ў часопісах:

„ЛАСТАУКА“ — штомесячнік Лудзенскае беларускае гімназіі, які выходзіў у 1923 і 1924 годзе на шапірографе ў Лудза; выйшла 9 нумяроў;

„ГОЛАС БЕЛАРУСА“ — газэта, якая выходзіла ў Рызе ў 1925—29 г. г.; выйшлі 61 нумары;

„ШКОЛЬНАЯ ПРАЦА“ — штомесячнік Даўгаўпільскае беларускае гімназіі, які выходзіў на шклографе ў Даўгаўпільсе з 1926 па 1929 год; выйшла 13 нумяроў;

„БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ“ — штомесячнік, які выходзіў ў Рызе з 1926 па 1934 год;

„ДУМКА БЕЛАРУСА“ — газэта, якая выходзіла ў 1930 годзе ў Даўгаўпільсу;

„ПАЧАТКОВЕЦ“ — рукапісны штомесячнік Даўгаўпільскае беларускае пачатковае школы, які выходзіў ў 1929 г. ў Даўгаўпільсу.

Некаторыя запісы выдрукаваны былі ў Беларускім календары на 1937 г., які выпушчаны быў ў Даўгаўпільсу.

Па выхадзе сваім з пасады дырэктара Даўгаўпільскае дзяржаўнае беларускае гімназіі на эмэрытуру, у 1932 годзе, мной была ўзята на сябе праца далейшага зьбіраньня этнографічнага матар'ялу сярод беларусаў Латвіі і ўпарадкаваньне ўжо сабраных матар'ялаў.

У выніку пяцігадовае працы зьявіўся ў 1938 годзе рукапісны зборнік пад назовам „Народная творчасьць Латгальскага беларуса“, у які ўвайшло 1015 рожных твораў народнае поэзіі Латгальска-Ілукстэнскіх беларусаў.

---

*) Сучасная в. Авенайя, Даугаўпільскага пав.

Жадаючы надрукаваць сабраны этнаграфічны матар'ял, я зьвярнуўся з просьбай да Думы Культурнага Фонду аб грашовай дапамозе на друкаваньне зборніку. На сходзе сваім 3 красавіка 1939 году Дума Культурнага Фонду прызначыла мне за рукапісны зборнік прэмію ў памеры 700 латаў, за якую я тутака прыношу сваю шчырую падзяку Думе Культурнага Фонду на чале з старшынёю яе — **Прэзыдентам Дзяржавы Карлісам Ульманісам.**

Прызначаная мне прэмія яшчэ больш умацавала мяне ў думцы выдрукаваць зборнік народнае творчасьці Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў, тым больш, што з часу 1938 году і да 1940 году мне ўдалося, шляхам падарожжаў ўлетку па рожных кутках Латгаліі, сабраць яшчэ каля 300 народных беларускіх твораў ды з архіву штомесячніка „Беларуская школа ў Латвіі“ ад яе б. рэдактара К. Б. Езавітава атрымана мною сабраных рожнымі асобамі яшчэ 353 запісы беларускіх народных твораў.

Зразумела, сабраны мной і маімі супрацоўнікамі фольклёрны матар'ял не абыймае ўсяго духовага багацьця латгальскага беларуса, бо яшчэ ня ўсе мяйсцовасьці, дзе жывуць беларусы, дасьледаваны, але і тое, што ўжо сабрана, зьяўляецца каштоўным матар'ялам, які дапаможа навуковым працаўнікам і усім, хто цікавіцца крыніцамі народнае творчасьці, бліжэй азнаёміцца з духовым тварам беларускае нацыянальнае меншасьці ў Латвіі, як асобнае этнічнае групы.

Стоячы на парозе 60-годзьдзя свайго жыцьця, гэты першы зборнік „Народная творчасьць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў“ прысьвячаю сваім былым вучням і вучаніцам б. Даўгаўпільскае дзяржаўнае беларускае гімназіі, а таксама і ўсім супрацоўнікам сваім гэтае колектыўнае працы.

На заканчэньне прыношу глыбокую падзяку старшыне Латвійскае Фольклёрнае Камісіі, высокапаважанаму прафэсару К. Страўбэргу, за ягоныя карысныя парады пры выданьні зборніку.

С. Сахараў.

Рыга,
Студзень 1940 году.



Сьпявачка Уршуля Нейжборт-Беляўская, С. П. Сахараў і яго дачка Галіна, якая прыймала удзел у зьбіраньні і апрацоўцы фольклёрнага матар'ялу.

# ЧАСТКА І.

## 1. Калядныя песьні.

Традыцыі калядных сьвят (ад 24 сьнежня да 6 студзеня ўключна) яшчэ ва многім захаваліся сярод беларускага жыхарства Латгаліі і Ілукстэнскага павету. Асабліва гэта назіраецца пры ўрачыстай вячэры — каляднай куцьці. Пад час Каляд ладзяцца тры куцьці: „посная“ — 24 сьнежня і 5 студзеня і „багатая“ або „шчодрая“ — перад новым годам. Да Каляд гаспадары старанна рыхтуюцца, як адносна ежы, так і навядзеньня чыстаты ў хатах. Да „зьвязды“ увечары 24 сьнежня ва многіх сямейках нічога не ядуць. Стол для вячэры засьцілаецца чыстым абрусом, пад які кладуць сена, якое потым аддаюць жывёле; на стале, пад абразамі, абавязкова ставіцца міска з куцьцёй, прыгатаванай з пшанічных зёран і падсаладжанай мёдам. Пасьля вячэры з пад абруса выцягіваюць травінкі сена і па даўжыне іх прадбачаюць аб будучым ураджаю льна і коласа; хто выцягне сучкаватую і тоўстую травінку, той будзе багатым і г. д. Гаданьні, пачаўшыся з каляднай куцьці, йдуць цераз усе сьвяты аж да Хрышчэньня. Апроч гаданьняў сярод моладзі у час сьвятаў пашыраны рожныя забавы, гульні і „ражаньне“.

Раней, да разсяленьня на хутары, звычай калядаваньня, г. зн. хаджэньня са „зьвяздою“ быў досіць пашыраным ў Латгаліі, дый і зараз ён дзе-нідзе захаваўся.

Калядныя песьні зараз мала чутны і мне ўдалося іх запісаць толькі ч а т ы р ы ў вёсцы Шушкі, Шкавенскай вол., Лудзенскага павету, якія і зьмяшчаюцца ніжэй.

№ 1.

Ды хадзілі, гулялі калядоўшчыкі.
Каляда, каляда! *)
Ды сачылі, пыталі багатага двара:
Багаты двор — Пятроў (~~імя гаспадара~~) дом,

*) Прыпеўка паўтараецца пасьля каждага радка.

Каля яго двара ўсё шаўковая трава,
Усё шаўковая трава, усё зялезны тын,
Стаўбы тачоныя, пазалачоныя, вароціткі сярэбраныя,
Падваротніцы зыб'е-рыб'е, зашчэпачкі медзяныя.
На яго двару ды чатыры церамы стаяць:
У першым цераму ясен месяц,
Другі церам — ясна зара,
Трэці церам — дробны зьвёздачкі,
Чацьвёрты церам — буён вецер.
Ясен месяц — сам гаспадар, ясна зара — яго жана.
Дробны зьвёздачкі — яго дачушачкі,
Буён вецер — яго сыны.
Самаго гаспадара дома німа,
Паехаў ён у Сібір-горад,
Паехаў ён суды судзіць і рады радзіць,
Накупляў ён гасьцінчыкаў:
Жаны купіў куню шубу, баброў каўнер,
Каля вората усё золата, падольля усё сабольля;
Дачушкам купіў па вяночку, па пярловаму,
Па платочку шаўковаму;
Сынам купіў па коніку, па вараненькаму,
Па узды купіў, па залатой;
Сабе купіў залот-персьцень,
На праву ручку, на мізены палец.
Самаго гаспадара дома німа:
Паехаў у Тын-горад рыбку лавіць краснакрылышку,
Трахнуў-махнуў правай рукой,
Зраніў, званіў залот персьцень
С правой рукі, з мізенага пальца.
Яго жана дасужа была:
Закінула тры невады, тры шаўковых.
Ня ўлавіла-ж яна залот персьцень,
Улавіла яна трох акунёў златаперэнькіх,
Златаперэнькіх, златакрыленькіх.
Павязла-ж яна іх на торг таргаваці,
Торг таргаваці — акунёў прадаваці:
За адзін акунь — па сто рублёў,
За другі акунь — па тысячы,
Трэцяму акуню — цаны німа.
Яго цана ў гаспадара на масьце,
У гаспадара на масьце, у Пятра на стале,
На століку на дубовенькім,
На скацерці на шаўковенькай,
На талерачцы, на фарфаравенькай.
Ен пакачываець, паварачываець,
Залатой казной ён пабразгіваець.
— Ты, Пётрачка, сам гаспадар,
Жана твая — гаспадыня,



Дзеці-калядоўшчыкі м. Краславы са зьвяздой у сьнежані 1936 году.

Справа стаіць С. П. Сахараў, а зьлева кіраўніцы сьпеваў і дэкламацыі — Т. А. Зяцьева і О. Ф. Сахарава.

**Дарыце гасьцей, не байце басьцей *).**
**Гэты госьці не частыя: у гадочак толькі разочак.**

---

* *
*

Калі гаспадар ня выходзіць, дык яму пяюць:

**Ня хочыш дарыць, пойдзем з намі**
**Сьнягі таптаць, сабак дражніць, людзей сьмяшыць.**

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

---

*) Баек.

№ 2.

Пайшла каза ў варэхі *),
Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, каза, нашлём на цябе ваўка!
А воўк ня йдзець казу ганяць.
Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, воўк, нашлём мы на цябе стральцоў!
Стральцы ня йдуць ваўка страляць,
Воўк ня йдзець казу ганяць,
Каза ня йдзець лазы гладаць.
Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, стральцы, нашлём на вас мядзьведзя!
Мядзьведзь ня йдзець стральцоў біць,
А стральцы ня йдуць ваўка страляць,
А воўк ня йдзець казы ганяць,
А каза ня йдзець лазы гладаць.
Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, мядзьведзь, пастой-жа мядзьведзь!
Нашлю сільлё мядзьведзя давіць!
Сільлё ня йдзець мядзьведзя давіць,
Мядзьведзь ня йдзець стральцоў біць,
А стральцы ня йдуць ваўка страляць,
А воўк ня йдзець казы ганяць,
А каза ня йдзець лазы гладаць.
Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, сільлё, нашлём на цябе агонь!
Агонь ня йдзець сільлё паліць,
Сільлё ня йдзець мядзьведзя давіць,
Мядзьведзь ня йдзець стральцоў біць,
А стральцы ня йдуць ваўка страляць,
А воўк ня йдзець казы ганяць,
А каза ня йдзець лазы гладаць.
Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, агонь, нашлём на цябе ваду!
Вада ня йдзець агонь тушыць,
Агонь ня йдзець сільлё паліць,

---

*) Каза часта фігурыруе ў калядных песьнях, як сымбол пладародзьзя.
У нядаўнія часы калядоўшчыкі часта хадзілі па хатах з „казой“. Апрануты „казою“ які-нібудзь хлапец скача, вырабляе рожныя штукі, а яе павадыры пяюць аб казе песьні.

Сільлё ня йдзець мядзьведзя давіць,
Мядзьведзь ня йдзець стральцоў біць,
А стральцы ня йдуць ваўка страляць,
А воўк ня йдзець казы ганяць,
А каза ня йдзець лазы гладаць.

Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, вада, нашлём на цябе быка!
Бык ня йдзець ваду піць,
Вада ня йдзець агонь тушыць,
Агонь ня йдзець сільлё паліць,
Сільлё ня йдзець мядзьведзя давіць,
Мядзьведзь ня йдзець стральцоў біць,
А стральцы ня йдуць ваўка страляць,
А воўк ня йдзець казы ганяць,
А каза ня йдзець лазы гладаць.

Нет казы з арэшкаў! (2 разы).

Пастой-жа, бык, нашлём на цябе ножык!
Пайшоў ножык быка рэзаць,
Пайшоў бык ваду піць,
Пайшла вада агонь тушыць,
Пайшоў агонь сільлё паліць,
Пайшло сільлё мядзьведзя давіць,
Пайшоў мядзьведзь стральцоў біць,
Пайшлі стральцы ваўка страляць,
Пайшоў воўк казу ганяць,
Пайшла каза лазу гладаць.

Прыйшла каза з арэшкаў! (2 разы).

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

## № 3.

Дзе быў казёл? Ду-ду! Ду-ду! — Сена касіў.
На што сена? „ „ — Кароў карміць.
На што каровы? „ „ — Малако даіць.
На што малако? „ „ — Пастухоў карміць.
На што пастухі? „ „ — Сьвіней пасьціць.
На што свіньні? „ „ — Горы рыць.
Што ў тэй гары? „ „ — Ступа зялезная.
Што ў тэй ступе? „ „ — Лыжка цыноўная.
Што ў тэй лыжкі? „ „ — Макава зярошка.
А дзе тоя зярошка? „ „ — Пятух скляваў

А дзе пятух? Ду-ду! Ду-ду! — На мора паляцеў.
А дзе мора? „ „ — Кветкамі зарасло.
А дзе кветкі? „ „ — Дзеўкі павышчыпалі.
А дзе дзеўкі? „ „ — Замуж павыйшлі.
А дзе іхнія мужы? „ — На вайну пайшлі.
А дзе вайна? „ „ — Там дзе татары.
А дзе татары? Ду-ду! Ду-ду! — Як ехалі татары,
Мусар растапталі.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 4.

А воўк пад лазу, а каза на лазы.
Каляда, каляда! (Прыпеўка пасьля кожнага радка).
„Ты, козанька, ты, шэрая, ты лезь з лазы!
Ня бойся мяне, ня з'ем цябе!"
— Далоў не палезу, ты, воўча, з'ясі мяне!
— Зачым у цябе, воўча, лапы шырокія?
„Я ў караля быў, жар заграбаў".
— Што ў цябе, воўча, хвост як памяло?
„Я ў караля быў, печы мёў".
— Што ў цябе, воўча, язык шырок?
„Я ў караля быў, пірагі пёк!"
— Што ў цябе, воўча, вочы ясны?
„Я ў караля быў, сьвечы паліў.
Ты лезь, каза, з лазы далоў!"
— Не палезу, воўча, з'ясі мяне!

1939, Шушкі. ад Вікторыі Дамчонак.

# Цярэшка *).

№ 5.

Цярэшка-Цярэшухна,
Цераз бор дарожухна,
Цярэшка волочыцца,
Цярэшцы жаніцца хочацца
— Вы, дзеткі, жаніціся,
— За ручкі бярыціся,
— І за стол садзіціся!
— Прыдзець матка з таткам,
— Будуць вас жагнаць,
— Будуць багаслаўляць!
Пайшлі мы ў ток,
Знайшлі курэй куток,
Пятушка ні воднага.
Пятушок ідзець,
Стада курэй вядзець,
І для маладой падаркі нясець.

1937, Краслава. Зап. О. Сахарава ад Гелены Сімачыхі.

*) Песьні, якія носяць назву „Цярэшкі" ужываюцца калядным і сьвятамі і ў час мясаеда каляднага. „Цярэшка" старадаўняя гульня беларусаў, яшчэ захавалася ў Латгаліі і Ілукстэншчыне сярод старэйшага пакаленьня. „Цярэшка" падрабязна апісана Е. Р. Раманавым у яго працы „Бѣлорусскій Сборникъ", вып. VII, бал. 41.

## 2. Валачобныя песьні.

З Вялікаднём зьвязана у беларусаў многа песьняў, якія завуцца валачобнымі (ад слова валачыцца, цягацца, хадзіць). Як на Каляды калядоўшчыкі, так на Вялікдзень валачобнікі—грамада людзей, найбольш моладзі—ходзяць ад хаты да хаты па гаспадарох, пяюць валачобныя песьні. Найбольш спрактыкаваны сьпявак бярэ на сябе ролю „пачынальніка", які сьпявае ўсю песьню, а за кожным яго вершам рэшта валачобнікаў-сьпявальнікаў пяюць толькі прыпеўку: „Хрыстос, Сыне Божы, васкрос!" або „Зялён явор кудравы" ці „Сьпявайце, братцы, сьпявайце!"

З усіх славянскіх народаў валачобныя песьні захаваліся толькі ў беларусаў ды ў сэрбаў.

№ 6.

Першае сьвята— з красным яйкам.
Хрыстос, Сыне Божы, васкрос! *)
Сьвятая Радаўніца — ўсі радаваюцца.
Сьвятое Ягор'я — у поля гонюць.
Сьвяты Мікола — аўсы сеюць.
Сьвятое Вазьнясеньне — палі барануюць.
Сьвятая Тройца — ячмень сеюць.
Сьвяты Яне — па купальле ходзюць.
Сьвяты Пятро — сена косюць.
Сьвяты Ільля — жыта зажынаюць.
Сьвятая Багародзіца — жыта засяваюць.
Сьвяты Спас — усё пасьпяваіць.
Сьвятая Багародзіца — аўсы жнуць.
Сьвятое Вазьвіжаньне — бульбу капаюць.
Сьвяты Пакроў — зямлю сьнегам, ваду лёдам
Пакрый, Хрыстос, Сыне Божы, васкрос.
Хрыстос васкрос, Хрыстос васкрос!

1928, Зубрава.

У. Врублеўскі
ад сваей маці Ізабэлі.

№ 7.

У полі шацёр стаяў.
Сьпявайце, братцы, сьпявайце! *)
У тым шатру Сам Бог сядзеў.
Каля Бога ўсе сьвятыя,
Шахуюцца, рахуюцца, каму перш ісьці:

*) Гэта прыпеўка паўторываецца пасьля кожнага радка.

Сьвятая Вербная перш пайшла,
Сьвятая Пасха — з чырвоным яйкам,
Сьвяты Мікола — па межах ходзіць,
Па межах ходзіць — жыта родзіць,
Сьвятая Тройца — навозы возіць,
Сьвятая дзявятка, то жыта ў пятку,
Сьвяты Ільля, то слаўная жняя,
Што шаг ступіць, то сноп кладзець.
Хазяін, наш бацюшка, устань рана,
Абуй боты казловыя, надзень шубу цёплую!
Хазяюшка, наша матушка, умыся бела,
Ды масьці кладку, прасі ў хатку!
Гэты госьці не частыя,
Калі ласка—водкі пляжку,
Калі змога—хоць пірога,
Калі сіла—хоць канец сыра*).

1935, Сілене (б. Бароўка). Яз. Кірстук ад сваей маці Мальвіны.

№ 8.

Ідзём, пайдзём у слаўны дом,
Хрыстос Сын Божы, Хрыстос ўваскрос!
~~(Прыпеўка хорам пасьля каждага радка)~~.
Сьпяём песьню сяму-таму,
Пану гаспадару, слаўну мужу, і з жаною маладою.
Пане гаспадару, устань рана, мыйся бела,
Сядзь пад вакном на ўсход сонца,
Глянь на двор, што дзеецца, лялеецца.
Ды на двары шацёр стаіць навюсенькі,
А ў тым шатры прыстол стаіць,
Ля прыстолу крэсла стаіць,
А ў тым крэсьле Сам Бог сядзіць,
Каля Бога ўсе сьвятыя шахуюцца, рахуюцца —
Катораму сьвятцу упярод ступіці?
Ясен Красен упярод пайшоў;
Пасьля таго сьвяты Казімір
Дровы сякець і ў ~~клад~~ кладзець,
Сьвятая Благавешчаньне—жытцо рушыць,
Хоць пад сьняжком—з Божым душком,
Сьвятая Вербніца—вярбу ломюць,
У касьцёл нясуць, пасьвянцаюць;
Чысты чацьверг — ачышчаець,
Сьвяты Вялікдзень—разгаўляюцца

*) Песьня гэта пададзена няпоўнаю, бо сама сьпявачка многія вершы з гэтай песьні запамятала.

З чырвоным яйком, з белым сырам, з малым сынам.
Сьвятая Праводня—дай жа Божа, мае дзеткі,
Гэта сьвятца праваджаці і другога дачакаці!
Сьвятая Радаўніца — садоўніца,
Сады садзюць, паліваюць
Сьвяты Юры-ключнік Божы,
Асядлаў каня вараногa, а сядзельца залатое,
Узяў ключы залатыя, паехаў ў поле,
Адамкнуў зямлю, пусьціў расу мядовую,
Расу мядовую, а травіцу шаўковую.
Сьвяты Мікола — з сяўбой у поле,
Сьвяты Барыс—збожжа павыш,
Сьвяты Шосьнік*) – колас точыць, выплываць хочыць,
Сьвятая Тройца — у лес ідуць,
Май ламаюць, май устаўляюць,
Сьвяты Дзевятнік — па межах ходзіць,
Зёлкі ірвець, вянкі віець,
Сьвяты Дзесятнік — у жыце пятка,
Сьвяты Іван — і вам, і нам,
Сьвяты Пятро — у жыце ядро,
Сьвяты Ільля — стара жнея,
Што раз махнець, снапок нажнець,
Што снапочак, то бабачка, што бабачка, то копачка;
Сьвята Прачыста — ў полі ўрачыста,
Сьвяты Зьмітры—за ўсіх хітры,
Піва варыць, жану поіць,
Сыноў жэніць, дачок выдаець, пасаг даець:
А сыночку—па канёчку, а дачушцы — па кароўцы;
Сьвяты Пакроў – з поля дамоў,
Зямлю лёдам пакрываець,
Пчолку—мёдам, дзеўку—вянком, бабу—чапцом.
Пане гаспадару, масьці кладку, заві ў хатку!
Гэты госьці не часта ходзюць,
Мала просюць—раз у гадок;
Пачынальніку—чырвон злоты ды на боты,
А маім братом—хоць па дзесятку.
Хрыстос, Сыне Божы, Хрыстос ўваскрос!

1938, Рыга. Яз. Каяла ад А. Навіцкай.

№ 9.

Ідзеш, пайдзеш, няхай будзе пахвалёны!
Хрыстос, Сын Божы! (Прыпеўка пасьля каждага радка).
Наш гаспадару, ці сьпіш, ляжыш, адпачываеш,
Ці з жонкаю маладою? Устань рана!
Дый памыйся, прыбярыся,
Дый паглядзі, што ў тваім двары стаіць явар,

*) „Шосьнік“ — гэтак называюць сьвята „Вазнясеньня“.

А ў тым яворы стаіць крэсла,
А ў тым крэсьле Сам Бог сядзіць, распараджаецца:
„Сьвяты Юры, Божы ключнік,
Вазьмі каня варанога, узлажы сядло залатое,
Вазьмі ключы, едзь у поле,
Адамкні зямлю на ўсю вясну, дый цёплую!"
Сьвяты Барыс барануець, зямлю раўнуець,
Сьвяты Мікола—засяваець, Бога выхваляець,
Сьвятая Дзевятка — ў жыце пятка,
Сьвяты Пятро — зусім ядро,
Сьвяты Ільля — Божая жняя,
Сярпы зубіў, Бога хваліў, жыта зажынаў,
Што раз чыркнець — сноп вяжа,
А што раз ступіць — копы ліча;
Сьвяты Спас—стучыць, гручыць,
Снапы возіць, у стадолу складаець;
Сьвятая Прачыстая — малаціла, Бога прасіла:
„Да дай, Божа, усюды спорна,
У дзяжы падходна, у печы прыпекам,
У сямейцы сытна".
Пане гаспадару, масьці кладку, прасі ў хатку,
Пачынальнічку—капу яец, памагалам—па дзесятачку.
Хрыстос, Сын Божы, Хрыстос Уваскрос!

1929, Гліваўка. Яз. Заракоўскі ад свайго бацькі.

# Карагодныя песьні *).

## № 10.

Каля лугу, лугу-лугавінкі,
Ці ня відзеў, ці ня бачыў маладой дзяўчынкі?
Хоць відзіў, хоць і бачыў,—ня буду казаці,
Запрагаю пару коні,—паеду шукаці.
Як-жа яе ня шукаці, калі яна ладна,
Фартух новы, картуповы **) і хустка шаўкова!

На гары—жыта, на лугу—пшанічка,
Цераз тоя жыта—сьцежачка убіта.
Мой мілы ходзіць, падушачку носіць.
Падушачка, падушачка, ды ты пухавая,

---

*) З вялікоднага тыдня моладзь звычайна зьбіраецца на бліжэйшай да вёсцы пожні, ці проста на дарозе каля якой-нібудзь хаты і тут пачынае вадзіць карагоды, скакаць, гуляць; пры гэтым сьпяваецца шэрах песьняў. Галоўны сюжэт гэтых песьняў, як і наагул вясназых песьняў—каханьне, сонца і прыход вясны.

**) „Сітцавы"—па тлумагэньню сьпявачкі, г. ё—паркалёвы.

Дзяўчына, дзяўчыначка, ды ты маладая,
Каго люблю, каго люблю, таго пацалую,
Пуховую падушачку таму падарую.
Цябе люблю, цябе люблю, цябе пацалую,
Пуховую падушачку табе падарую.

У гэты момант карагод спыняецца. Хлопец, які хадзіў ў сярэдзіне карагода з хустачкай у руцэ, падыходзіць да абранай ім дзяўчыны, ускладае ей хустачку на правае плячо і цалуе яе. Далей дзяўчына бярэ хустачку ад хлапца і уваходзіць у сярэдзіну. Карагод зноў рухаецца, гульня ідзе у тым жа парадку.

1936, Бруніпіекі. ад А. Гвозд.

№ 11.

Каля рэчкі хадзіла, я лунёчка лавіла,
Лунька маленькага, невялічанькага, круглалічанькага.
Ох, прысядзь, прысядзь, лунёк,
Прысядзь, міленькі дружок, памалюсенькy, паціхусенькy.
Ён прысядываецъ, ён прыглядываецъ,
Ён адным вочкам глянецъ, ён і другім вочкам глянецъ,
Ён адно крыльца падымецъ і другое завярнецъ,
Ён адну ножку пацягнецъ і другую падвярнецъ.
Ох, устань, устань, лунёк, устань, міленькі дружок!
Як устаў наш лунёк, як пайшоў ён скакацъ,
Перамены шукацъ,
Ён выбраў сабе пераменку — чырвоную паненку.

1937, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 12.

У гародзе, у гародзе чырвоная рожа,
Па тэй рожы, па тэй рожы дзяўчына гуляла.
— Ты, дзяўчына чарнаброва, цябе маці клічыцъ!
Знаю, знаю, разумею, за што мяне маці клічыцъ—
Яна хочыцъ мяне за старога аддаці,
А я старога даўно ня любіла,
Увёўшы ў хату, дымам напаіла*),
За вароты палкай прапусьціла,
На яго сьлед камень накаціла.
Ідзі, стары, ні аглядайся, на мяне маладу ні спадзявайся!
У гародзе, у гародзе чырвоная рожа,
Па тэй рожы, па тэй рожы дзяўчына гуляла.
— Ты, дзяўчына чарнаброва, цябе маці клічыцъ!
„Знаю, знаю, разумею, нашто яна клічыцъ—
Хочацъ маці мяне за маладога аддаці.
Я маладога даўно палюбіла,
Увёўшы ў хату мёдам напаіла,
За вароты скрыпкай прапусьціла,
На яго сьлед персьцень накаціла.
Ідзі, малады, аглядайся, на мяне маладу спадзявайся!

1939 г., Шушкі. ад В. Дамчонак.

---

*) Раней у беларускіх вёсках былі курныя хаты.

## № 13.

У хараводзе былі мы, ай люлі, ай люлі! (2 разы)
Ды каго-ж там відзелі, " "
Мы відзелі парачку, " "
Гэта пара хараша, — ды ня стоіць ні граша.
(Другой пары пяюць: „яна стоіць сто рублеў"),
Устань, пара, прыбадрыся, — улева, управа павярніся,
Хоць троху пратанцуй, — каго любіш — пацалуй.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

## № 14.

Ці ня відзеў, ці ня бачыў маладой дзяўчынкі?
—Хоць і відзеў, хоць і бачыў—ня буду казаці,
Запрагайце пару коні—паедзем шукаці.
Як яе узнаць маладу дзяўчынку?
Фартух новы паркалёвы, сітцева хусьцінка.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

## № 15.

А на вуліцы мяцеліца мяцець,
З-пад мяцеліцы мой міленькі ідзець.
Раз, два, тры люлі, з-пад мяцеліцы мой міленькі ідзець.
За сабой ён каня вoрана вядзець,
Залатым ключом пабразгіваець.
Раз, два, тры люлі, залатым ключом пабразгіваець.
А міленькі каня паіў,
Залаты ключы ў ваду згубіў.
Раз, два, тры люлі, залаты ключы ў ваду згубіў.
А хто мае ключы знайдзе —
Той мяне маладую замуж вазьме.
Раз, два, тры люлі, той мяне маладую замуж вазьме.
А на вуліцы мяцеліца мяце,
З-пад мяцеліцы старык сівы ідзе.
Раз, два, тры люлі, з-пад мяцеліцы старык сівы ідзе.
І ў руках залаты ключы нясе.
Прападзіце мае залаты ключы—
Я за старога замуж ні пайду!

1929, Дубрышкі. А. Іонін ад старухі Палагеі.

## № 16.

Вясёла я, ня вясёла сягоньняшні дзень,
Толькі развясёленька нонешні час.
Хадзіла гаспадыня ў зялёным саду,
Шчыпала, ламала зялён вінаград,
Кідала, брасала к дружку на кравать.
— Ці ты сьпіш, дружочак, ці так ляжыш?
Слоўца ня кажыш, адказу не даеш.

Па камешку рэчанька бяжыць, ня шуміць,
За ракою дзяўчына рэчы гаварыць:
— Ня пой, ня пой, салавей у зялёным саду,
Не задавай дасады сэрдэньку майму.

1938, Рыга. ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

## 4. Вяснавыя песьні.

№ 17.

Падкалышыце мяне высока, каб я бачыла далёка,
Дзе мой брацітка гуляець, чырвонае яечка качаець.
Як плёснула я ў ладонкі, зазьвінелі пярсьцёнкі:
—Ня плёскай-жа ў ладонкі, не ламай-жа пярсьцёнкі!
„Ня ты расьціў ладонкі, ня ты купляў пярсьцёнкі,
Мамка расьціла ладонкі, татка купляў пярсьцёнкі!“ *)

1937, Ругелі, б. „Лагеры“ каля Даўгаўпілсў ад А. Шыліхі.

№ 18.

Палынь мой зялёненькі, не засьцілай дарожанькі!
Паедзіць стары жаніцца, прывязець старую бабу,
Патопчыць акраткамі, падмяцець кажаркай.
Палынь мой зялёненькі, засьцялі дарожаньку!
Паедзіць малады жаніцца, прывязець маладу паненку,
Патопчыць чаравічкамі, падмяцець спадні̇чкамі.

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 19.

Дуброўка мая зялёная, як па табе пахадзіла,
Набралася я твайго шуму, мне і галованька захварэла!
Татулька клікаў—не пачула, па галасочку не спазнала,
Родным татулькам не назвала.
Дуброўка мая зялёная, як я па табе не хадзіла,
Не набралася твайго шуму, мне і галованька не хварэла!
Міленькі клікаў—і я пачула, па галасочку я пазнала,
Сваім міленькім назвала.

1930, Адамова. Ст. Іонічонак ад сваей маці Монікі.

№ 20.

Ды горкі палын у гародзе, ды гарчэй таго мне маладой.
Сама ня ведаю, як мне жыці: ці замуж ісьці, ці дзеўкай быці?
Замуж пашоўшы — вялікае гора, дзеўкай быці — людзкая абмова.
Ці ня Бог даў тэй перапёлцы, куды захацела, туды паляцела,
Ці ў быстру рэчку па вадзіцу, ці ў зялёны луг па травіцу

1936, Хут. Судрабу. В. Гвозд ад У. Нэйжборт.

---

*) Варыянт гэтае песьні запісаны мной яшчэ і ў вёсцы Шушкі, Лудзенскага павету.

№ 21.

Пайду, пайду па тэй сьцежанцы, дзе здаўна хадзіла,
Ці ня ўбачу, ці ня ўбачу, каго верна любіла.
Ды хоць не яго, не яго, ды тавaрыша яго,
Разгукаюся, распытаюся пра жыцьцё яго.
А я, малада, гарую: бяз дроў, бяз лучыначкі,
Цёмну ночку начую.
Пайду, пайду па бярэзьнічку, я дроўцы пазьбіраю,
Па ельнічку, па сасонічку я лучынку пашчыпаю.

1936, Хут. Судрабу. В. Гвозд ад У. Нэйжборт.

№ 22.

На гары зялён дуб, зялён дуб,
На тым дубу калыска, калыска.
Калыхаўся панскі сын, панскі сын,
Калыхаўшыся зваліўся, зваліўся,
У дзеванькаў прасіўся, прасіўся:
— Вы, дзеванькі, падыміце, падыміце,
З сабой вазьміце, вазьміце!

1937, Цеплішы. Я. Цепліш ад сваей маці Разаліі.

№ 23.

Канюхі сьвішчуць, трох канёў ішчуць, ды пытаюцца:
— Ды дазвольце да вас, дзеванькі, ці ня відзелі трох канёў?
„Ды якія-ж вашы конікі, ды люлі рана, вашы конікі?“
— Нашы конікі пазлачоныя, ды люлі рана, пазлачоныя.
Адзін конік белкапыценькі, ды люлі рана, белкапыценькі,
Другі конік ува лбе месячык, ды люлі рана, ува лбе месячык,
Трэці конічак—бела хрыпцінка, ды люлі рана, бела хрыпцінка.

1932, Стрымкі. П. Мірановіч ад А. Кошман.

№ 24.

Што ў полі рабіна, а пад рабінай дзяўчына,
Часалася грыбяшком, вымывалася часначком.
Памыўшыся дзеванька сказала:
„Ты, саколік, ня лятай, дзеўкам думаць ня мяшай!“
Дзеўкам думы такія: выйсьці замуж далёка,
За тры полі, за чатыры, за пятую рэчаньку,
Ды ў шостую вёсаньку.
Мой татулькародненькі, не выдавай замуж далёка!
Калі аддасі далёка, то дай мне салаўя:
Сьвёкар будзе журыць, салавейка — будзіць,
Сьвякроўка—бурчаці, салавейка—сьпяваці.

1930, Гуменіцы. В. Чаркоўскі ад сваей маці Ірыны.

№ 25.

У чыстым полі рабіна,
А пад рабінай дзяўчына,
Часалася грыбяшком,
А мылася часнаком.
Памыўшыся казала:
„Мой татка родненькі,
Не аддавай замуж далёка,
За тры мілі, чатыры,
За пятае азяро!
Калі аддасі далёка,
Прыкуй, прыкуй ка мне
салаўя:
Салавей будзець пяяць,
Мяне малоду пабуджаць.

1930, Адамова. Ст. Іонічонак ад сваей маці.

№ 26.

Як за лесам, за лясом, успашу я пожанку, пожанку,
Як засею лён-канаплі, лён-канаплі.
Як павадзіўся вор-верабей, вор-верабей.
Уж я яго паймаю, паймаю,
Крыльля, пер'я адламаю, адламаю.

1930, Адамова. Ст. Іонічонак ад сваей маці Монікі.

№ 27.

Пасеялі дзеўкі лён,
Пасеяўшы палолі, белы ручкі калолі.
У майго лёну травы нет, у майго мужа праўды нет:
Чужы жонкі ў башмачках, а я, малода, ў лапатках,
Чужы жонкі топ, топ, топ, а я, малода, шлёп, шлёп, шлёп.

1930, Адамова. Ст. Іонічонак ад сваей маці Монікі.

№ 28.

Ды зялёны кусток распускаецца,
Багатыр дачкой набіваецца:

— Ды бяры дачку-багатырачку,
Дам пасагу—шэру сярмягу,
Калі яшчэ мала, дык лапцёў пару;
Калі яшчэ мала, дык абор пару;
Калі яшчэ мала, дык ануч пару.

„Не бяры, сынку, ды што ў золаце!
Не бяры, сынку, ды што ў серабры!
А бяры, сынку, што ў беленькім!
А што ў золаце, то не паненачка, то гультаечка,
А што ў серабры, то цыганачка, то абманачка,
А што ў беленькім, то работніца.

1928, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад сваей маці Юганы.

№ 29.

Ляцела дзераўца цераз наша сяльцо,
Ды з таго дзяраўца ставілі царкоўку.
Ды ў тэй царкоўкі тры месяцы ясных,
Тры зарыцы красных.
Ды першы-ж месяц — малады Мадэстка,
Ды другі месяц — малады Янутка,
Ды трэцьці месяц — малады Юзэпка,
Ды першая зарыца — малада Ганачка,
Ды друга зарыца — малада Сабінка,
Ды трэцьця зарыца — малада Марылька.
Мадэстка Ганачку любіць і хустачку купіць,
Янутка Сабінку любіць і спаднічку купіць,
Язэпка Марыльку любіць і чаравічкі купіць.

1939, Шушкі. ад Ганны Марчонак.

№ 30.

Ох, ты сонца маё яснае, чаго рана за лес коцісься,
Уся бяседухна расходзіцца, мая мамка да хаты ладзіцца.
А я, малада, прапускаць пайду.
У чыстым полі застаялася, з роднай мамкай загукалася,
На вішаньку заглядзелася, што вішанька зялянюсенька,
А я, малада, — маладзюсенька.

1939, Шушкі. ад Ганны Марчонак.

№ 31.

Хадзіла Тота каля балота. То-то! (Прыпеўка)
Насекла Тота тры вазы лазы. „
Загарадзіла Тота тры гарады. „
У адным гародзе чырвона рожа, „
У другім гародзе зялёна мята, „
У трэцьцім гародзе зялёна рута. „
Хто прыгожы—пільнуе рожы. „
А хто багаты—пільнуе мяты. „
А хто круты—пільнуе руты. „

1939, Шушкі. ад Вікторыі Дамчонак.

№ 32.

Васіль, Васілёчак, бугровенькі твой цьвяточак!
Ды дзе-ж цябе пасадзіць, ці ў полі, ці ў гародзе,
Ці ў таткіным садочку, ці ў мамкі пад ваконцам?
А хто-ж цябе паліваць будзе?
„Мой татка—старусенькі, а мамка—старэй таткі.
Была ў мяне жана, учора-звячора прывядзена,
Па ціхі Дунай вады пашла,
Як пашла, так і ня прышла.
Ці яна там утанула, ці яна заблудзіла,
Ці яе ваўкі з'елі?

Каб яна ўтанула—ціхі Дунай ускалыхнуўся-б,
Каб яна заблудзіла—цёмны лясы зашумелі-б,
Каб ваўкі яе з'елі—была-бы трава прыкачана,
Гарача кроў разьлівана".

1939, в. Шушкі. ад Вікторыі Дамчонак.

## № 33.

Спяваюць, калі першы раз выганяюць жывёлу ў поле.

Чараз бор зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі.

А-ю! А-ю!

(Прыпеўка пасьля каждых 2-х радкоў).

За ім ззаду у пагон
Хвёдарка маладой.
— Ты, Гэлінька, душа,
— Пераймі майго каня!
„Я б і рада пераняць —
„У майго татухны граза.
„У майго татухны граза:
„На круку вісіць лаза,
„На круку вісіць лаза,
„Каля клеці вісяць плеці."
Чараз бор зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі.
За ім ззаду ў пагон
Хвёдарка маладой.
— Ты, Гэлінька, душа,
— Пераймі майго каня!
„Я б і рада пераняць—
„У маей мамухны граза,
„У маей мамухны граза:
„У памялох качарга!"

А-ю! А-ю!

1938, Мельнікі. Г. Нікіфароўская ад Г. Хомчанка.

## № 34.

Зялёненькі вінаград,
Ты падайся на пагляд.
Ды дзе цібе пасадзіць:
Ці ў полі—ў баразны,
Ці ў гародзе—на ляхі?
— Дзе хочаці садзіці,
— Толькі міне палейці,
— Крынічную вадзіцай
— І раньнюю расіцай.
Маладая Ганначка,
Дзе цібе пасадзіць:
Ці ў татухны пад вакном,
Ці ў сьвёкаркі за сталом?
— Дзе хочаце садзіце,
— Толькі мяне дарыце,
— Золатам, серабром,
— Тонкім белым палатном.

1939, Баравые. Г. Нікіфароўская ад. Е. Шараковай.

## № 35.

Чырвоная рожа, чырвоная рожа, ня стой над ракою,
Ня клонь галавою ка мне маладой!
У мяне, маладой, ня свой родны татка, ня родная мамка,—
Позна спаць кладзе, рана пабужае,
Жорны круціць прымушае, сырую пшаніцу, мокрае жыта.
— Мялі, дзіця, мялі к заўтраму на пірагі,
А к Купалі на какоры *), а к Пятру на сухары,
А я падгадаю твайму гору:
Мялён падстругаю і жорны пападнімаю.

1930, Гуменіцы. В. Чаркоўскі ад сваей маці Ірыны.

*) Какораю называюць ляпёшку з хлебнага цеста.



„Даўгое“ возера ў Індраўскай (б. Прыдруйскай) вол.

Мал. П. Мірановіча.

# 5. Купальскія песьні.

Важнейшае сьвята ўлетку, ня толькі ў беларусаў, але ў многіх іншых народаў, напрыклад у латышоў, ёсьць Купальле, якое адбываецца ў ноч з 23 на 24 чэрвеня. У Латгаліі Купальле заўсёды праходзіць шумна і вясёла: паляць кастры, пяюць песьні, скачуць.

Мне тры лета (1935, 1936 і 1937 г. г.) прыйшлося правадзіць у прыгожай мяйсцовасьці Латгаліі — ў Краславе, дзе, як у самым горадзе, так і ў яго ваколіцах, пражывае досіць значны лік беларусаў. Сярод іх, паміж іншым, пашыраны звычай хадзіць па суседзях і па знаёмых з купальскімі песьнямі. Ходзяць звычайна жанчыны і дзяўчаты з вянкамі на галавах. Вянкі плятуць з васількоў, з рамашкі, з Яна ды Мар'і і іншых палёвых красак. Калі заходзяць у хату, дык даюць гаспадыне краскі, а калі ёсьць дарослая дачка, дык ускладаюць ей на галаву вянок. Пры гэтым пяюць песьні. Калі ў якой сямейцы ёсьць імя „Ян“, дык у такую хату прыходзяць у самы дзень Яна, 24 чэрвеня,

але дужа рана і будзяць сьпевамі ўсіх, пакуль іх ня пусьцяць ў хату. Гаспадары частуюць сьпевачак півам, сырам, цукеркамі і інш.

Такіх адведывальшчыц у купальскі вечар 1937 г., у Краславе, мне прышлося прыняць, групамі па 3—4 чалавека, больш 30 і з прыемнасьцьцю паслухаць беларускія песьні.

№ 36.

Ляцеў чыжык цераз рынак
Ды клікаў дзевак на купальле:
— Дзеўкі, бабы, на купальлю!
Чырвоным дзеўкам свая воля,
А маладзіцам німа волі:
Дзіця плача ў калысцы,
Муж бурчыць у пасьцелі,
Сьвякроўка супроць печы
Сьвёкар-бацюшка на печы,
А дзявер'я на пакое,
А залоўкі на купальлі.
— Ды я млада прыбяруся,
— Ды я дзіцё прыгалублю,
— Ды я мужа перапрашу,
— Ды я сьвёкру пакаруся,
— Ды я сьвякроўкі пакланюся.
— Я дзявер'ям па платочку,
— А залоўкам па вяночку.
— Пакуль млада прыбяруся,
— Дзеўкі, жонкі йдуць з купальля,
— А я млада на купальле.
Дзеўкі бабы, на купальлю!
Рана, рана на купальлю! *)

1924, Церахава. ад. З. Лапацёнак.

1 вырыянт.

Хадзіў чыжык па вуліцы.
Набіраў дзевак па вуліцы.
Вам, дзеўкі, свая воля,
Маладзіцам-гаратніцам
волі німа —
Іхняя воля загублена:

---

*) Песьня „Ляцеў“, „Хадзіў“, „Скакаў чыжык цераз рынак“ — адна з найбольш пашыраных песьняў сярод беларусаў Латгаліі і Ілукстэншчыны і яна вар'іруецца ня толькі ў рожных паветах, а нават у сумежных валасьцёх, напр., Істрэнскай і Пасінскай. Усяго запісана 16 варыянтаў гэтае песьні. Мы зьмяшчаемо тут толькі 5 варыянтаў. Рэшта запісаны былі: П. Міpановічам— ў в. Стрымкі, М. Талерко— в. Азерцы, Я. Заракоўскі—Пакуюнава, Я. Кірстук і В. Гвозд ў Каплаўскай вол., О. Сахарава—ў Даўгаўпілсу („Лагеры“), С. П. Сахараў ў в. Пріэдайне (б Прыстань) і ў в. Скершканы, А. Сардыка — в. Аўгулі, М. Барысёнак—ў в. Бартулі, В. Доўгая—в. Адамова, І. Ігнатовіч—в. Еніны, І. Лапацёнак,—в. Церахава, Т. Бартуль—в. Кісялёўцы.

Цяляткі рычаць ня поены,
Кароўкі мычаць ня доены,
Дзіця плачыць у люльцы,
Сьвёкар варчыць на
пасьцелі,
А сьвякроўка каля печы,
А дзявер'я каля столу,
А залоўкі, па хаце ходзючы.
Размахнуся маладзенька:
Я кароў—падаю,
Я цялятак— напаю,
А дзявер'ям—анучкі дам.
Залоўкам косы запляту,
Я сьвёкру пакаруся
І сьвякроўцы пакланюся,
І дзіцятку пасажу
І міламу пасьцель пасьцялю.
Пакуль я прыбралася,
Дзяўчаткі—з купальля.

1929, Ламы. А. Маслоўскі ад. Е. Маслоўскай.

2 варыянт.

Ходзіць Ян па вуліцы,
Завець дзяўчат у купальлю:
— Пойдзем, дзеўкі, у купальлю,
— Пойдзем у зялёну!
А вам, дзеўкі, свая воля,
Маладзіцам волі нету:
У калыбелі—дзіця плачыць,
У запечку—сьвёкар журыць,
На прыпячку — кацёл плывець,
Проціў печы — сьвякроўка журыць,
А залоўкі—па заўгольлю,
А дзевярочкі—па застольлю.
Я дзіця закалышу,
І кацёл закалачу,
І сьвякроўкі пакаруся.
Я мілога не баюся.
Пайду сама у купальлю,
У купальлі пагуляю,
Паплыву і паныраю
І мілому наругнуся.

1933, Пустынь. Ф. Клагіш ад Д. Парфен.

3 варыянт.

Хадзіў чыжык па вуліцы,
Зьбіраў дзевак у купальлю.
А вам, дзеўкі, свая воля,
Маладзіцы волі нету,
Волі нету аніколі.
Сьвёкар журыць на пасьцелі,
А сьвякроўка проці печы,
А жальвіцы па сьвятліцы,
А дзеяркі па двары,
Гаршок кіпіць на загнеце,
А дзіця плача ў калысьцы.
Я ў сьвякроўкі папрашуся,
А сьвёкарку пакаруся,
Сьвёкар дзіця пакалыша,
А сьвякроўка гаршок адставіць,
А я пайду сама ў купальлю.
Я хадзіла па лужочку,
І зьбірала па цьвяточку,
Прыхаджу я да дварочка.
Купаленька зеляненька,
Гаспадынька маладзенька,
Выйдзі, выйдзі, гаспадынька,
Перайми купаленьку!
Купаленька зеляненька,
Гаспадынька маладзенька.
Гаспадынька не ляніся,
Каля сыра павярніся!
Выйдзі, выйдзі, гаспадынька,
З белым сырам,
З малым сынам!

1929, Індраўская вол. Э. Казакевіч ад М. Ляшчыхі.

4 варыянт.

Лятаў цежа *) па вуліцы,
Зьбіраў дзевак на купальну.
Рана, рана, на купальну!
Дзеўкі, бабы,—на купальну!
Рана, рана, на купальну!
Красным дзеўкам свая воля —
Куды хочуць, туды пойдуць.
Рана, рана, туды пойдуць!
Маладзіцам волі нету —
Маладзіцам тры забавы.
Рана, рана, тры забавы!
Што першая забава —
Сьвёкар-бацька на куточку.
Рана, рана, на куточку!
Што другая забава —
Сьвякроўка —матка проці печкі.
Рана, рана, проці печкі!
А што трэцьцяя забава—
Мало дзіцё ў калыбелі,
Сам мілы на пасьцелі.
Рана, рана, на пасьцелі!

1929, Стругі. В. Андрушонак ад К. Андрушонак.

№ 37.

А на Яна—ночка мала.
Я ўсю ночку ня спала,
Усё купальлю зьбірала.
Усё купальлю зьбірала:
На лужочку па цьвяточку,
Усё насіла да дварочку.
Усё насіла да дварочку:
— Выйдзі, выйдзі, гаспадынька!
— Выйдзі, выйдзі, як малінка!
— З бальшым сырам, з малым сынам!

А калі гаспадыня ня выходзе дык сьпяваюць:

Ляжы, ляжы, як калода!
Твае дзеці—як мядзьведзі!

1937, Цеплішы. Я. Цепліш ад сваей маці Разаліі.

№ 38.

— Сьвяты Яне на купальлю! **)
„Моцны Божа, німа часу!“
— Сьвяты Яне, дзе дасюль быў?
„Моцны Божа, ляды араў!“
— Сьвяты Яне, нашто ляды?
„Моцны Божа, ячмень сеяць!“
— Сьвяты Яне, нашто ячмень?
„Моцны Божа, солад расьціць!“
— Сьвяты Яне, нашто солад?
„Моцны Божа, піва варыць!“
— Сьвяты Яне, нашто піва?
„Моцны Божа, сына жаніць!“
— Сьвяты Яне, каторага?

---

*) „Це́жа“, або „це́жанька“ гэтак клічуць гусей.

**) Песьня „Сьвяты Яне, на купальлю!“ зьяўляецца таксама пашыранаю сярод беларускага насельніцтва Латгаліі і Іллукстэнскага пав. Варыянты гэтае песьні яшчэ запісаны: В. Гвозд —у Каплаўскай вол., хут. Судрабу, Г. Лапчонак—у в. Ляўдэры, В. Доўгая—у в. Адамова, С. П. Сахараў—у в. Скершканы, Бр. Станкевіч—в. Станкевічы, А. Маслоўскі—у в. Ламы і А. Лукашэвіч—у в. Лоцы.

„Моцны Божа, Іваньку!“
— Сьвяты Яне, каго бярэць?
„Моцны Божа, Марыльку!“

1936, Шакуры. ад Любові Чыўчыш (па бацьку Чаркоўскай).

№ 39.

— Сьвяты Яне, што ты робіш?
„Божа моцны, дзярон дзяру!“
— Сьвяты Яне, нашто табе дзярон?
„Божа моцны, ячмень сеяць!“
— Сьвяты Яне, нашто табе ячмень?
„Божа моцны, піва варыць!“
— Сьвяты Яне, нашто табе піва?
„Божа моцны, сына жаніць!“
— Сьвяты Яне, ды каторага?
„Божа моцны, хоць Міколку!“
— Сьвяты Яне, дзе-ж дзеўка?
„Божа моцны, хоць Магдуся!“

1927, Азёрцы. М. Талерка ад М. Азерскай.

№ 40.

Мы пойдзем, сястрыцы, пад ясны зарніцы!
Ночка мала, купальская!
(Прыпеўка пасьля кождага радка).

Набяром, сястрыцы, жоўтага пясочку,
Пасеям, сястрыцы, у таткавым садочку!
Нядзелю спусьціўшы, другую згадзіўшы,
Пойдзем паглядзеці ці ўсходзе пясочак.
Пясочак ня усходзе, — мне ў таткі ня жыці,
Мне ў таткі ня жыці, вяночкі ня віці.
Мы пойдзем, сястрыцы, пад ясны зарніцы,
Набяром, сястрыцы, ярыцы-пшаніцы,
Пасеім пшаніцу ў сьвёкравым садочку!
Нядзелю спусьціўшы, другую згадзіўшы,
Пойдзем глядзеці, ці ўсходзе пшаніца.
Пшаніца ўсходзе — мне ў сьвёкара жыці.
Ночка мала, купальская!

1923, Адамова. Ян Доўгі ад А. Мяшкоўскай.

№ 41.

Купальская ночка, вырві мальцам вочка!
Ночка мала, купальная!
(Прыпеўка пасьля кождага радка).

Прыйдзець другое, вырвець і другое.
Каб ня тыя дзеўкі, вырвала-б і зрэнкі.
Дзеўкі баранілі — платочкам закрылі.
Дзеўкі коз даілі — мальцам вочкі гаілі.

1928, Адамова. В. Доўгая ад сваей маці.

№ 42.

Выйдзі, выйдзі, гаспадынька! Рана, рана!
Не глядзі крыва, прынясі сыра! „ „
І гарэлачкі у бутэлічкі, „ „
І закусачкі на талерачкі. Рана, рана!

А калі не выходзе, дык сьпяваюць:

Ляжы, ляжы, калода! Рана, рана!
Ляжы, ляжы дубова! „ „
Кару дзяры, хату крый, „ „
А суччa дзяры і печ тапі! Рана, рана!

1923, Адамова. В. Доўгая ад сваей маці.

№ 43.

Пойдзем, сястрыцы,
Пад ясну зарыцу!
Ночка мала купальская!
(Прыпеўка пасьля кожных двух радкоў).
Пасеім мы пшаніцу
На таткіным гародзе!
Пойдзем, сястрыцы,
Пшаніцу глядзеці!
Пшаніца ня ўсходзіць —
Нам у таткі ня жыць,
Гаспадыняй ў хаце ня быць!
Пойдзема, сястрыцы,
Пад ясну зарыцу!
Пасеім мы пшаніцу
На сьвёкравым гародзе!
Пойдзема, сястрыцы,
Пшаніцу глядзеці!
Пшаніца усходзіць, —
Нам у сьвёкры жыць,
Гаспадыняй ў хаце быць!

1935, Ляудэры. Б. Юрэвіч ад В. Барады.

№ 44.

Пайдземце, сястрыцы,
Пад ясну зарыцу!
Ночка мала, купальная!
(Прыпеўка пасьля кождых 2-х радкоў).
Возьмімце, сястрыцы,
Па жменькі пшаніцы!
Пасеім, сястрыцы,
У татку на дварочку!
Вот прайшла нядзелька
Пшаніца ня ўсходзіць.
Гэтай-жа пшаніцкі
Тут ня ўсхадзіці,
А мне маладзенькай
У таткі ня жыці!
Пайдземці, сястрыцы,
Пад ясну зарыцу!
Вазьмемце, сястрыцы,
Па жменькі пясочку!
Пасеім, сястрыцы,
У сьвёкра на дварочку!
Вот прайшла нядзелька
Пясочык усходзіць.
Гэтаму пясочку
Тут зелянець,
А мне маладзенькай
У сьвёкаркі жыць!
Ночка мала, купальная!

1933, Мельнікі. Г. Нікіфароўская ад Г. Хомчанка.

№ 45.

Вечар добры, наша пані!
А ці прыміш нас з купальляй?
Калі прыміш — пакажыся!
А ня прыміш — адкажыся!

1935, Сіленск. вол. Я. Кірстук ад А. Пячонкі.

№ 46.

Выйдзі, выйдзі, гаспадынька,
Ночка мала, купальная! (Прыпеўка).
З белым сырам, з малым сынам.
Ні хадзі рабром, нясі піва вядром!
Ты, хазяйка, ні хавайся —
Сыра масла пастарайся!
Ты, хазяін, ні лянісь —
Каля бочкі павярнісь!
Ночка мала, купальная!

1939, Лоцы. А. Лукашэвіч ад А. Вайвод.

№ 47.

—Купальле, Купальле,
— Дзе ты была да Яна?
„У чыстым полі гуляла.
Гуляла, гуляла—
Татку з мамкай шукала".
Татку з мамкай не знайшла,
Заплакала і пашла.

1935, Сілене. Яз. Кірстук ад сваей маці Мальвіны.

№ 48.

Сьвяты Яне ідзець, купальле нясець.
Ты, купальле, ты зялёнае, дзе дасюль было?
— За ракой расло.
„А што рабіла?" — Красавалася.

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 49.

Гдзе Ян і Марыя хадзілі — на гары купальна.
Гдзе Марыя хадзіла, там жыта радзіла.
Гдзе Ян купаўся, там беражок зыбаўся.

1935, Сілене. Яз. Кірстук ад сваей маці Мальвіны.

№ 50.

А на Яна ночка мала, я малада не даспала:
Кароў ў поля выганяла, сыры, масла сабірала,
Купальніцу пераймала, купальніцу трахтавала.

1936, Краслава. Ад Г. Сімачыхі.

1 варыянт.

А на Яна ночка мала,
А я малада не даспала:
Усе арэшкі палузгала,
А ядзерцы ў мёд клала,
Шалупінкі ў памыйкі.
Для матулькі ўсе ядзеркі,
Для сьвякроўкі шалупінкі.
Еш, матулька, спажывіся!
А сьвякроўка задавіся!

1930, Юраны. З. Чэкель ад сваей маці.

2 варыянт.

А на Яна ночка мала,
ночка мала.
Я усю ночаньку ня спала,
Рожны зёлкі зьбірала,
Таму-сяму прадавала,
А міламу—даравала.

1936, Крываны. ад В. Шляпінай.

№ 51.

Што на Яна, на Івана,
Праявілася праява:
Дзеўкі зёлкі капалі,
Хоць капалі ды ня зналі,
У мамухны пыталі:
— Скажы, скажы, мамухна,
— Што ета за зельле
— Траякае карэньне?
„Дзявоцкая красата,
„А мальцаў сухата!“
Ссохлі, здохлі дзяцюкі,
За гарою сядзючы,
На дзевак глядзючы.
Ідуць, ідуць дзевачкі,
Як чырвоныя кветачкі,
Ідуць, ідуць дзяцюкі,
Як рабыя парсюкі.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

1 вырыянт.

Ян ды Мар'я на гары купальля.
Там дзяўчаты гулялі, карэнькі капалі
І ў старушак пыталі:
„Што гэта за зельле?“
— Зялёная зельля, дзявочае умываньне,
А хлопцаў уздыханьне.
Ссохлі, здохлі дзяцюкі, як рабыя парсюкі.

1935, Ферма. П. Папсуевіч ад сваей маці.

2 вырыянт.

На сьвятога Яна
Праявілася праява:
Сьвіньня ў дуду іграла.
Дзеўкі зельле капалі
У мамак пыталі:
— Ды што гэта за зельле?
„Гэта зельле такое —
Аірава карэньне —
Дзявоцкая красата,
А мальцава — сухата!“
Ссохлі, здохлі дзяцюкі,
Як рабыя парсюкі,
За градамі сядзючы,
На дзевачак глядзючы:
Што дзеванькі харашы —
За іх замуж не пайшлі.

1930, Адамова. Ст. Іоічонак ад сваей маці.

№ 52.

Пайду малада ў гарод,
Пушчу коніка напярод.
Паеш, косенька, зёлачкі,
Усе баровыя васількі!
Знаць мне ў мамкі ня быць,
З васількоў вянка ня віць.
Хоць віці, — не насіці:
Будуць насіць сястрычкі,
Будуць гуляць брацеткі.

1937, Даугаўпілс, Ругелі (б. Лагеры). ад А. Шыліхі.

№ 53.

Перад Пятром пятым днём,
Разыграўся Юр'еў конь,
Разьбіў камень капытом.
Як у камешку ядра нет,
Так у хлопцаў праўды нет.

Перад Пятром пятым днём
Разыграўся Юр'еў конь,
Разьбіў гарэшык капытам.
Як у гарэшка ядро ёсьць,
Так у дзяўчат праўда ёсьць.

1937, Даугаўпілс, Ругелі (б. Лагеры). ад А. Шыліхі.

№ 54.

Перад Пятром, пятым днём
На гары пад дубам
Загарэўся жыдоў дом.
Ідуць хлопчыкі тушыць,
Рэшатам ваду насіць.
Як у рэшатах вады нет,
Так у хлопцаў праўды нет.
На гары пад дубам
Загарэўся панскі двор.
Ідуць дзеванькі тушыць,
Кубачкам ваду насіць.
У кубачках вада ёсьць,
У дзяўчатах праўда ёсць.

1937, Краслава. Г. Сахарава ад Г. Сімачіхі.

№ 55.

Весел, ня весел сёнешні дзень,
Ходзюць, гуляюць па маім саду,
Крышуць, ламаюць зялён вінаград.
Выкрашу, выламлю вінаградзінку,
Пайду я к мамке на парадзінку:
— Парай, парай, маманька,
— Як мне з мілым жыць?
„Раю, параю, мая дзіцятка,
Мілы, ня мілы — міленькім заві,
Сьцялі пасьцельку вузюсенька,
К сьценке плечкамі, к міламу вочкамі

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 56.

Бруяла вада каля камяшка,
Колькі ні бруяла — скалыхнулася,
Скалыхнуўшыся сама ў брод пашла.
Гукала дзеўка з добрым малайцом,
Колькі ні гукаўшы — усьмяхнулася,
Усьмяхнуўшыся ў госьці клікала:
— Ты хадзі ка мне, добры маладзец, у госьці,
— Ты лесам ідзі — дробным дождж<br>ыкам,
Ты лугам ідзі — буйным вейтрыкам,
Ты ў сад у мой — салавейкам,
На двор, на мой — ясным сокалам,
У хатку, у маю — міленькім другам.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 57.

Ту-ру па дуброўкі,
Ды там едзіць пан вялікі,
Пан вялікі, брыль шырокі.
—Ты вярніся, ты вярніся,
—Пан вялікі, брыль шырокі,
—Твая жана доч мела!

„Я для дочы ні вярнуся,
„Я для дочы падарую
„Плат шаўковы, вянок
пярловы“.
Ту-ру, ту-ру па дуброўкі,
Ды там едзіць пан вялікі,
Пан вялікі, брыль шырокі.
— Ты вярніся, ты вярніся,
—Пан вялікі, брыль шырокі,
—Твая жана сына мела!
„Я для сына вярнуся,
„Куплю сыну каня варанога,
„Каня варанога, узду залатую,
„І для сына падарую!“.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 58.

Сягоньня Купальле, а заўтра Ян.
Будзе, хлопчыкі, ліха вам!
Ой ліха, ліха ліхое:
Пагоняць котак у поле;
Котанькі ў полі ня ходзюць,
Усё па балоцятках бродзюць,
Дзеванькі ў доме гуляюць.
— Ідзіце, котанькі, да дому,
Пусьціце хлопцаў на волю!

1935, Сілене. Яз. Кірстук ад сваей маці.

№ 59.

Нізка, нізка слонца ходзіць,
За мой лясок не заходзіць.
Блізка, блізка татка едзець,
Ка мне у госьці не заедзець.
Ці дарожкі ён ня знаець?
Ці коніка не завярнець?
Ці вароціткі не адчыніць?
— І дарожку я знаю,
— І коніка завярну,
— І вароціткі адчыню, —
— А як я прыеду — ты ўсё тужыш,
— Як ад'язжаю — моцна плачыш.
— Ды паедзем у чыста поля,
— Разсяваці тваё гора,
— Каб яно ня ўсхадзіла,
— А ўсхадзіла-бы — ня цьвіцела,
— А цьвіцела-бы—жоўтым цьветам,
— Жоўтым цьветам пустацьветам, —
— Штобы дзевачкі ня шчыпалі,
— У вяночкі ня зьвівалі,
— Тваё гора ня ўзьвілічалі.

1938, Індра. ад А. Невяроўскай.

## № 60.

Пашлі дзеўкі па ягоды, рана, рана, па ягоды,
Ды па чорны, па смароды, рана, рана, па смароды.
Адна дзеўка-сірацінка, рана, рана, сірацінка.
Тая ў лесе заблудзілася, рана, рана, заблудзілася.
Прыблудзілася к сіню мору, рана, рана, к сіню мору.
К сіню мору, к рыбалоўцам, рана, рана, к рыбалоўцам.
— Рыбалоўцы маладыя, рана, рана, маладыя!
— Перавязіце чэраз мора, рана, рана, чэраз мора.
„Сьлічна, панна, што заплоціш? рана, рана, што заплоціш?
— Аднаму хоць хустачку, рана, рана, хустачку,
— А другому залаты пярсьцень, рана, рана, залаты пярсьцень,
А трэцьцяму—сама малада, рана, рана, сама малада.

1931, Станкевічы. Б. Станкевіч ад сваей маці.

## № 61.

Маладая маладзіца пашла рана па вадзіцу,
Ваду брала — утанула, залаты ключы патапіла.
Пашлі весьці да сьвёкарка.
Сьвёкар кажа: „Ня жаль мне тэй нявесткі,
Жаль мне тых ключоў“.

Маладая маладзіца пашла рана па вадзіцу,
Ваду брала — утанула, залаты ключы патапіла.
Пашлі весьці да татулькі.
Татка кажа: „Ня жаль мне тых ключоў,
А жаль мне тэй дачушкі“.

1936, Краслава. Ад Г. Сімачыхі.

## № 62.

За гумнамі ў бярэзьнічку
Дзьве сарокі сакаталі,
Дзьве сястрыцы размаўлялі:
— Ня даў Бог нам дзьвюм сястрыцам —
— Умесьце расьлі, як ягодкі,
— А розна пайшлі, як сіроткі.

За гумнамі ў бярэзьнічку
Дзьве сарокі сакаталі,
Дзьве ятроўкі размаўлялі:
— Бог нам даў дзьвюм ятроўкам —
— Розна расьлі, як сіроткі,
— А ў места сыйшлі, як ягодкі.

1929, Індраўская вол. Э. Казакевіч ад М. Лямчыхі.

## № 63.

У полі калыска, вісіць яна нізка,
У тэй калысцы дзяцё ляжыць,
Тую дзіцяцю дзеўка зыбала,
Тую дзіцяцю праклінала:

— Багдай ты, калыска, на зямлю пала-б,
— А гэта дзіцятка скрозь зямлю прапала-б!
А ўчуў парэнь, на каню сідзя:
„За што, дзеўка, дзяцю праклінаеш?
„Ня чым ты дзяцю праклінаеш,
„Лепш табе долю даць —
„Парня маладога і каня варанога!“

1939, Шушкі. ад Г. Марчонак.

№ 64.

Над ракой вербянка стаяла,
Там дзяўчынка ваду брала,
Тую вербянку праклінала!
— Бог дай, каб вербянка ссохла, зьвяла-б!
— Пад табой, верба, вада горка,
— А мне, маладой, жыць ня лоўка,
— Каб я была перапёлкай,
— Куды ўздумала—паляцела-б:
— Ці ў зялёны сад на вішаньне,
— Ці ў цёмны бары на брусьніцы.

1939, Шушкі. ад. Г. Марчонак.

№ 65.

Што пад ёлкай, пад сасонкай. Рана, рана!
Там сядзелі тры ятроўкі. „ „
Яны сядзелі, гаварылі: „ „
— Ды што гэта, што за дзіва? „ „
— Гэта дзіва — дзіўнюсенька — „ „
— Рожна расьлі, умясьцёх сталі. „ „
Што пад белай, пад бярозай, „ „
Там сядзелі тры сястрыцы. „ „
Яны сядзелі, гаварылі: „ „
— Ды што гэта, што за дзіва? „ „
— Гэта дзіва—дзіўнюсенька— „ „
— Сумесна расьлі, рожна пайшлі! Рана, рана!

1930, Гуменіцы. В. Чаркоўскі ад сваей маці.

№ 66.

Ды за гумном у ельнічку,
Дзьве зязюлі кукавалі.
Ні зязюлі там кукуюць,
Дзьве сястрыцы размаўляюць:
— Расьлі сумесна, як ягодкі,
— Пашлі рожна, як сіроткі.

1937, Краслава. Г. Сахарава ад Я. Высоцкай.

№ 67.

Цераз гару — чорна сьцежка.
Там хадзіла красна дзеўка,
А за ей бел-малойчык.

— Пастой, пажджы, красна дзеўка!
— Я табе дзіва скажу, дзіва дзіўнюсенька:
— Ды на Ражство рожа цьвіла.
„Праўда, праўда ета была,
„Я там была, вянок віла“.
Цераз гарод чорна сьцежка,
Ды там хадзіў бел-малойчык,
Ды за ім-жа красна дзеўка.
„Пастой, пажджы, бел-малойчык!
„Ды я табе дзіва скажу, дзіва дзіўнюсенька:
„Дый на Яна Дзьвіна стала“.
— Праўда, праўда я там быў,
— Ды я крыгі біў, каня паіў“.

1937, Краслава. Г. Сахарава ад Я. Высоцкай.

№ 68.

Цераз гару — чорная сьцежка.
Там хадзіла красная дзеўка,
За той дзеўкай бел-малойчык.
— Пастой, пажджы, красна дзеўка!
— Пагаворым мы з табой,
— Пойдзем разам на купальлю, на зялёну!
„Праўда, праўда, бел-малойчык,
„Я там была, вянок віла“.

1927, Дразды. Я. Клагіш ад Г. Маісей,

№ 69.

Карэнь, карэнь, макаўка,
На макушкі ластаўка.
Сядзіць Ваня высока,
Чуець, відзіць далёка,
Што ў Зубраве
Дзевяць мальцаў жэнюцца,
А дзясятага вянчаюць.

Карэнь, карэнь, макаўка,
На макушкі ластаўка.
Сядзіць Ваня высока,
Чуець, відзіць далёка,
Што у Зубраве
Дзевяць дзевак беруцца,
А дзясятую вянчаюць.

1928, Зубрава. Ул. Врублеўскі ад І. Лосевай.

№ 70.

Ляцела дзераўцо цераз наша сяльцо.
Эй, ламала калінку за морам далёка!
(Прыпеўка пасьля кождага радку).

Ляцела, ляцела на цэркаўку села.
А ў тэй цэркаўкі тры месяцы,
Тры месяцы ясных, тры зарыцы красных:
Ды першы-ж месяц — малады Янутка,
А яго зарыца — малада Марыська;
Ды другі-ж месяц — малады Пятруська,
А яго зарыца — малада Ганиська;
А трэці-ж месяц — малады Юзютка,
А яго зарыца — малада Барбарка.

1923, Адамова. В. Доўгая ад сваей маці.

## № 71.

Выйду, выйду на гару,
Гляну, гляну пад гару,
Што ўсе сады расцьвілі,
Майго таткі сад ня цьвіў.
Ну за тое-ж ён ня цьвіў,
Што мне ў татухны ня жыць,
Па садочку не хадзіць
І цьвяточкі ня зьбіраць,
На галоўку ня ускладаць.
Ды быць-жа у татухны
Самай малай сястрыцы,
Па садочку хадзіць
І цьвяточкі зьбіраць,
І вяночкі зьвіваць,
На галоўку ускладаць.
Удару, удару ў ладонкі,
У залатыя пярсьцёнкі,
Ці ня ўчуець мой татухна,
У церамочку седзючы,
У ваконца гледзючы?
Ды ня ўчуў-жа татухна,
У церамочку седзючы,
У ваконца гледзючы,
Ды ўчуў-жа сьвёкарка,
Па гародзе ходзючы:
— Нявестачка-дачушка,
— Ня разьбівай ладонкі,
— Залатыя пярсьцёнкі!
„Ты, сьвёкарка, татухна,
„Ня ты расьціў ладонькі,
„Ня ты купляў пярсьцёнкі!
„Ды расьціў-жа ладонькі
„Мой родны татухна,
„Ды купляў-жа пярсьцёнкі
„Салавейка-брацітка!“

1923. Лазары. Б. Скрыбан ад сваей маці.

## № 72.

Ды што у полі гаёчак, гаёчак *).
Конь міне вязець ціхонька, лягонька!
(Прыпеўка пасьля кождага радка).

Там (Стэфачка) хадзіла, хадзіла,
Белыя лаўкі насіла, насіла.
Чырвону рожу садзіла, садзіла.
Прыехаў (Барыска) сам-дзевят, сам-дзевят,
Напусьціў коняў повен сад, повен сад,
Белыя лаўкі паламаў, паламаў,
Чырвону рожу патаптаў, патаптаў.
Маладу (Стэфу) з сабой ўзяў, з сабой ўзяў.
Конь міне вязець ціхонька, лягонька!

1933, Мельнікі. К. Езавітаў ад Г. Хомчанкі.



*) Песьня гэтая па свайму характару і зьместу зьяўляецца вясельнай, але насельніцтва вёскі Мельнікі заўсёды сьпявае яе пры купальскім вогнішчы.



На жніве ў Індроўшчыне. Мал. мастака П. Мірановіча.

# 6. Жніўныя песьні.

Раней, пры паншчыне і пры вяскова-грамадзскім складзе селянскага жыцьця, жніво абстаўлялася шэрагам абрадаў і цыкл жніўных песьняў быў вялікі. Мэлёдыі жніўных песьняў былі найбольш сумныя, бо яны былі зьвязаны с цяжкаю працаю і з паднявольнаю доляю селяніна. Паступова жніўныя песьні зьмяняюць свой характар. Іншы раз яны мала маюць супольнага з жніўнымі абрадамі і з жніўнай парой і малююць сямейнае жыцьцё, каханьне і падчас насычаны гумарам. У зьвязку з гэтым зьмяняюцца адпаведным чынам і мэлёдыі. Жніўныя песьні, згодна часу працы і абраднасьці, падзяляліся на зажыначныя, жніўныя і дажыначныя.

Зараз, калі Латгалія і Ілукстэншчына перайшлі на хутарскую гаспадарку і калі ранейшую цяжкую працу жанчыны з сярпом ужо пачынае выціскаць машына, абрадавая старана пры жніве зьмяншаецца, але жніўная песьня захавалася. Часта ў Латгаліі і Ілукстэншчыне практыкуецца уборка збожжа і „талакой“: зьбіраюцца ўсе суседзі

і працуюць за пачастунак. Тады жніўная песьня, асабліва ў часы адпачынку і пры звароце дамоў, разьліваецца ў паветры.

Давялося мне ўлетку 1939 году выпадкова трапіць у жніўную пару ў вёску Шушкі, Шкавенскай (б. Лянскаронскай) воласьці, Лудзенскага павету. Убіралася „талакой" жыта на поле селяніна Пётры Марчонка. І вось жанчыны і дзяўчаты зацягнулі беларускую жніўную песьню: „Шырокая дарожухна, ці ня дождж цябе змачыў!" сумнага матыву, а за ей пайшлі весялейшыя: „У нас сягоньня дажон, дажон". І паліліся песьня за песьняй. Рэпэртуар у жнеяк аказаўся досіць вялікі. Цікава адзначыць, што пажылыя жанчыны і маладыя дзяўчаты з аднолькаваю захопленасьцьцю выконывалі свае родныя песьні, з надзвычайна характэрнымі „расьпевамі". Я дужа пашкадаваў, што на тую пару ня меў з сабой фонографа. Прыйшлося абмяжавацца толькі запісам слоў песьняў.

Зьмешчаныя ніжэй жніўныя песьні зьяўляюцца, згодна народнае тэрміналёгіі, — „жытнімі" песьнямі, гэта знача, што яны сьпяваюцца толькі ў час жніва жыта і азімае пшаніцы.

№ 73.

Ужо сонейка—не ра́нелька,
Іду дамойкі ра́дзенька—
На цёплую вячэру,
На мяккую пасьцелю.
Маё жыта—рэдзенька,
Баліць мая сярэдзінка.
Мая матка дагадліва —
Выцяпліла лазеньку.
Ды выцяпліўшы лазеньку,
Наламала бярэзьнічку,
Наламаўшы бярэзьнічку—
Папарыла сярэдзінку.
Сярэдзінка—памягчэла,
Маё жыцейка—пагусьцела

1929, Ляўдэры. Б. Юрэвіч ад Е. Прынц.

№ 74.

Я гуляла, малада, па полю,
Пускала галасок да дому.
А хто мой галасок пярэймець?
Пярэймець мой галасок сьвёкра,
Пярэймець сьвёкра ды скажыць:
„Ці не мая зявайла зяваець,
„Вузенькія постаці ганяець,
„Рэдзенькія снапкі стаўляець?"
Я гуляла, малада, па полю,
Пускала галасок да дому.
А хто мой галасок пярэймець?
Мой татачка пярэймець,
Татачка пярэймець ды скажа:
— Ці не мая дзевачка гуляець,
— Шырокія по́стаці ганяець,
— Густыя снапочкі стаўляець?

1929, Ляудэры. Б. Юрэвіч ад В. Барады.

№ 75.

Выйду я, выйду, малада, ў поля,
Да пушчу я галасок да хаты.
Да хто-ж мой галасок пераймецъ?
Пераймецъ мой галасок татулька:
— Чыё-ж там дзіця голасна сьпяваіць,
— Часта жменькай махаіць,
— Высока копначкі ставіць?

1927, Бартулі. М. Барысёнак ад свай маці.

№ 76.

Сама пайду дарогаю,
А голас пушчу дуброваю.
Няхай голас галасуіць,
Няхай мая сьвякроў чуіць
І вячэру гатуець.
Калі-ж яна ня згатуіць,
Прыду дамоў, забразгаю
качаргой —
Апынецца мая сьвякроў за
гарой.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 77.

Ды ўжо на дварэ зьмяркаецца,
Сямейка дамоў зьбіраецца —
На цёплую вячэру,
На мяккую пасьцелю.
Ложкі, міскі—пад лавішчай,
Зарошшы муравішчай.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 78.

Зялён наш бор—над усім зялянейшы.
Багат наш пан—над усім багацейшы.
Ды ён сам—у золаце, а жана—ў серабры,
А дзіцё яго—ў ватласе.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 79.

Як пайду я каля лугу (2 разы),
Каля лугу зялёнага,
Каля лугу зялёнага (2 разы),
Каля саду вішнёвага.
Адламаю я смародзінку (2 разы),
Чырвонаю ягодзінку.
Панясу я свайму таткі (2 разы), —
Ці жалеіць міне татка?
Ці жалеіць міне татка (2 разы) —
Ці жалеіць смародзінку?
Ні жалеіць міне татка (2 разы) —
Ды жалеіць смародзінку:
Нашто рана й заломлена (2 разы),
Што й біз цьвету, біз ягады.
Што й біз цьвету, біз ягады (2 разы)

Бяз чорнай смародзінкі.
Як пайду я каля лугу (2 разы),
Каля лугу зялёнага,
Каля лугу зялёнага (2 раза),
Каля саду вішнёвага.
Адламаю я смародзінку (2 разы),
Чырвонаю ягодзінку,
Панясу я сваей мамкі (2 разы),
Ці жалеіць міне мамка?
Ці жалеіць міне мамка (2 разы),
Ці жалеіць смародзінку?
Ды жалеіць міне мамка (2 разы):
Рана замуж аддадзена.
Не жалеіць ягодзінку (2 разы),
Чырвоную смародзінку.

1933, Мельнікі. Г. Нікіфароўская ад Г. Хомчанкі.

№ 80.

„Шырокая дарожухна,
Ці ня дождж цябе змачыу,
А ці раньняя раса?“
—Ня дождж мяне змачыў
—І ня раньняя раса,
—А змачыла мяне
—Горкая сірацінінка,
—Да касьцёлу рана ходзючы,
—Шчыра Бога молючы.
—Прасіла яна ў Божанькі:
„Узяў татку, узяў мамку,—
„Вазьмі мяне сірацінінку!“
—Ня чым-жа цябе браць,
—Лепш табе долейку даць—
—Каня варанога
—І малайца маладога.

1939, Шушкі. ад Г. Марчонак.

№ 81.

Дзеванька-сіротанька
Пад борам жыта жала,
На сонейка паглядала:
—Сонейка маё ясная,
—Чаго рана ўсходзіш,
—Чаго позна заходзіш?
„Дзеванька, сіротанька,
Я на ніўцы цябе кідаю
І на ніўцы знахаджу!
Там табе нада стаці,
Шчыру праўду сказаці:
Касьцёлы паадмыканы,
Каберцы пазасланы,
Там нада вам стаці,
Шчыру праўду сказаці.
А зьвяжыць вам ксёндз ручанькі
Чорнаю стулою,
Чорнаю, цьвяцістаю,
На век вячыстаю“.

1937, Крываны. ад. А. Шляпінай.

№ 82.

Ты, ластаўка-белакрылка,
Ня вей гнязда пры дарозе!—
Арол ляціць, гняздо зрыіць,
Малых дзетак паразганяіць,
Што і па мхам,
І па балотам,

І пачыстаму полю,
І па зялёнаму лугу.
Ты, Гэртруда маладая,
Ня вей вянка ў мамухны!—

1939, Савельнікі.

Сваты едуць — вянок сарвуць,
Цябе, маладу — з сабой вазьмуць.

ад. Г. Сьлядзеўскай.

№ 83.

Віліся пчолачкі,
Віліся каля лозачкі.
Паволі вы вейцеся,
Паволі садзіцеся —
Не абламіце сучайкоў,
Не абтрасіце лісьцікаў!
Віліся хлопчыкі,
Віліся малойчыкі,

1938, Індра.

Каля малодай Мальвінкі
Паволі вы, хлопчыкі,
Паволі, малойчыкі,
Паволі вы війцеся,
Паволі вы садзіцеся —
Не обламіце золата,
Не обтрасіце сэрабра!

ад. А. Невяроўскай.

№ 84.

Маладая маладзіца
За баром жыта жала.
Яна жала — ні гуляла,
Дзяцю малу калыхала.
Прыбеглі к ей тры ваўкі,

1939, Шушкі.

Да тры шэрыя, —
Цалавалі, мілавалі,
На тры часткі разарвалі:
Каму ручка, каму ножка,
Каму буйная галовушка.

ад. Г. Марчонак.

№ 85.

Вячэрняя зараначка,
Ці табе не цяжанька
З сонейкам разлучыціся,
З месячкам спаткаціся?

1936, Судрабу.

Маладая ўдованька,
Ці табе не цяжанька
За другога замуж ісьці,
Малых дзетак злучаці?

В. Гвозд ад У. Нейжборт-Беляўскай.

№ 86.

Я жала — ня гуляла,
Прыйшлі зьвесткі нірадасны —
Свякроўка з тыну зваліласе,
На крапіву прабілася.

Не шкада мне сьвякроўкі,
А шкада крапіўкі:
Крапівухна — зялёная,
А сьвякроўка — шалёная.

Жоначкі-лябёдачкі, пойдзема дамоў!
У нас у хаце няма нікога:
Сьвякроўка старая дзіця малое
У варотах трымаець, за вадой пасылаець.
Сьвякровачка — не мамачка,
Налью табе вады к ночы,
Ты залі сабе вочы!

1930, Ламы.

А. Маслоўскі ад сваей маці.

№ 87.

На бару жыта жала,
Прыйшлі весьці нярадасныя:
Сьвякроў з тыну зваліласе,

На страківу прабілася.
Страківа мая — жыглівая,
А сьвякроў мая — сіклівая.
А страківа мая — зялёная,
А сьвякроў мая — шалёная.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

№ 88.

Радзі, Божа, жыта, ды на другое лета!
Мая нявестачка мала, каб у стоюшках жала.
Узьлезла свякроўка на тын глядзець,
Ці добра нявестка жнець —
Звалілася з тыну ў зялёну крапіву
І на кол плечы прабіла.
Я крапіву — на ніўку,
А сьвякроўку — ў магілку.
На крапіўцы — жыта родзіць,
А сьвякроўку — чэрві точуць.

1936, Пріэдайне (б. Прыстань) ад Наваенкавай.

№ 89.

Іду, бягу дарожкаю,
Шчыплю, ламлю арэшачкі.
Я ядзёркі—ў мёд кладу,
Шалупінкі—ў вадзіцу.
Я ядзёркі—для матулькі,
А шалупінкі — для сьвякроўкі.
—Еш, матулька, пажывіся!
А сьвякроўка—падавіся!

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 90.

Ды як ў мамухны была,
Я як рожухна цьвіла,
Ды як мачынка зрэла,
Як вішанка ў садочку,
Як пчолухна ў лясочку,
Я па мяду качалася —
Сьмярдунову сыну папалася,
Ды штой ня мытаму ліцу,
Ня часанай галаве.
Ды я брус мыла змыліла—
Яго твару ня вымыла.
Я барану паламала —
Яго галаву ня ўчасала:
Маё мыла—барскае,
Яго ліцо - цыганскае,
Мая барана—зялезная,
Яго галава—мядзьвежая.

1923, Лазары. Б. Скрыбан ад сваей маці.

№ 91.

Павей, павей, буён вецер,
Па чыстаму полейку,
Па зялёнай дубравухны!
Павянь, павянь, рута мята,
Бяз ветрыку, бяз дождждыку!
Буён вецер павевае,
Ка мне млоды наезджаюць,
Маей мамкі дакучаюць,
Мяне маладу заручаюць.
Што дзянёчак—то сваточак,
Што нядзелька — то гарэлка.

1930, Адамова. Ст. Іонічонак ад сваей маці Монікі.

№ 92.

Жніці, дзевачкі, жыга
жніці, —
Найдзіцё каня ў жыці!
Коніка — варанога,
Малойчыка — маладога.
На коніку — езьдзіць будзіці,
А з малойчыкам — жыць
будзіці.

1933, Падазерцы. Ф. Клагіш ад Д. Парфен.

№ 93.

Жнеце, жнеце, мае мілы жнейкі! —
Прынясу гарэлкі чатыры бутэлькі,
Сама пакаштую й гасьцей пачастую!
Жнеце, жнеце, мае мілы пташкі! —
Навару вам кашкі!
Жнеце, жнеце, мае мілы любы —
Навару вам бульбы!

1927, Азёрцы. М. Талерка ад М. Азерскай.

№ 94.

Маё жыта — рэдзінька,
Баліць мая сярэдзінка.
Мая мамка дагадліва —
Ды вытапіла лазіньку,
Папарыла сярэдзінку.
Бярэзінка — ня шумела,
Сярэдзінка — не хварэла.

1939, Мураванка. А. Лукашэвіч ад Г. Лімяшонак.

№ 95.

Маё жыта — рэдзінька,
Баліць мая сярэдзінка,
Не з кім стаці жыта жаці.
Стаць са старым — зага-
руішся,
Стаць з малым — загу-
ляішся,
Стаць з малайцом — загу-
каішся.

1939, Мураванка. А. Лукашэвіч ад Г. Лімяшонак.

№ 96.

Маё жыта — рэдзенька,*)
Баліць мая сярэдзінка,
Мой сьвёкарка дагадлівы —
Ды вытапіў ён лазеньку,
Выламаў бярэзінку,
Выпарыў сярэдзінку.
Бярэзінка — зялёная,
Сярэдзінка — здаровая.**)

1937, Даугаупілс, Рубені В. Сахарава ад А. Шыліхі.

№ 97.

Сьпяваюць, калі пераходзяць жаць з аднэй паласы на другую.

Ніўка, ніўка, аддай маю сілку
На другую ніўку!

---

*) Кожны радок сьпяваецца двойчы.

**) Варыянты гэтае песьні запісаны: Бр. Станкевіч—у в. Станкевічы, С. П. Сахаравым—на хут. Судрабу, Я. Кірстук—у в. Сілене, А. Маслаўскі—у в. Ламы і В. Доўгая—у в. Адамова.

Як я цябе жала-пажынала —
Сілку пацерала!
Поля, поля, аддай маю волю
На другое поля!

1928, Дразды. Я. Клагіш ад Г. Маісей.

№ 98.

Нанясі, Божа, аблачынку!
На тры дні адпачынку:
Адзін дзень — малоць, талоч,
А другі дзень—ваду насіць,
А трэці дзень—дзяжу мясіць!

1930, Адамова. С. Іонічонак ад сваей маці.

№ 99.

Добры вечар, зімная хатка, ня родная матка!
Ня пытаець: „Ці баляць ручкі, ці баляць плечкі?"
Ды пытаець: „Ці многа нажалі, ці многа зьвязалі?"
Добры вечар, цёплая хатка, родная матка!
Ня пытаець: „Ці многа нажалі, ці многа зьвязалі?"
А пытаець: „Ці баляць ручкі, ці баляць плечкі?"

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 100.

Чый стаіць двор, ды чый-жа там двор?
Тры калы убіты, ельнічкам пакрыты?
— Грыбуля двор. — Па двару Мар'яна хадзіла,
Жыдоўскія пантохлі насіла.
Стаіць двор, ды чый-жа там двор?
— Варонкаў двор.—Там Марылька хадзіла,
Залаты ключы насіла.

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 101.

Дрэмка поле, дрэмка поле!
А Ракацяўскае поле дрэміць!
Там жнеянкі—ўсе старыя,
У іх сярпочкі—дзяраўныя!
Там жнеянкі падрамалі
І сярпочкі паламалі.
Звонка поле, звонка поле!
Дай чыё ж там поле звонка?
Варонкаўскае поле—звонка:
Там жнеянкі—маладыя,
У іх сярпочкі—залатыя.
Там жнеянкі засьпявалі —
У іх сярпочкі зазьвінелі.

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 102.

Дый ці вышла туча з-пад цёмнага лесу?
Дый ня вышла туча з-пад цёмнага лесу —
Дый выслала дробнага дожджу і буйнага ветру:
— Лій, палівай, дробны дождж, буйны вецер!
Ці выйшла наша гаспадынька ў поле жыта жаці?
Дый ня выйшла наша гаспадынька ў поле жыта жаці —
Дый выслала сынкоў-сакалкоў і дочак-перапёлак:
— Жніце, жніце, сынкі-сакалкі і дочкі-перапёлкі!

Дый нажніце дзевяць коп жыта, дзесяту пшаніцы!
Жніце, жніце, мае мілы жнейкі! —
Прынясу гарэлкі ды на тры капейкі,
Сама пакаштую і жнеяк пачастую! *)

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 103.

Кругла, мала балоцечка
Поўна вады налітое,
Поўна гусей наляцела.
Але не адны гусі —
Ёсьць лебядзі,
Ёсьць лябёдкі.
Ды нізка, мала Вінцуська,
Хоць яна нізка, мала,
Ды ёсьць шчасьлівая:
Поўна гасьцей наехала.
Не адны госьці — ёсьць сватові,
Есьць сватові, ёсьць сваціцы.
— Бяда мая, бяда,
Што дом пры дарозе,
Што дзень—сват у парозе,
Не даюць мне вырасьці,
Ні касіцу выплесьці.

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 104.

Выйдзі, выйдзі, цёмная тучка,
Дый з-пад цёмнага лесу!
Дый ня выйшла цёмная тучка,
Дый з-пад цёмнага лесу,
Дый ня вышла!
Дый выслала, дый добры дожджык,
Дый буйны вецер, дый выслала:
„Павей, павей, павей, буйны вецярок!“
Выйдзі, выйдзі, наша гаспадынька,
Наша гаспадынька, дый сама трэцяя!
Дый ня выйшла наша гаспадынька
Сама трэцьцяя на ніўку.
Дый выслала трох сынкоў-сакалкоў,
Дочак-перапёлак, дый выслала:
— Жніце, жніце тры сынкі-сакалкі
— Дочкі-перапёлкі, дый жніце!
— Дый нажніце дзевяць коп жыта,
— Дзесяту — пшаніцы.
— Дый выкачу дзевяць бочак піва,
— Дзесяту — віна!“

1930, Страмкі. П. Міраловіч ад А. Косман.

№ 105.

Ішоў раёк дарожкай шырокай.
Сюды, раёк, у мой дварок!
Мае дваркі — мяцёныя,
Мае сталы — засланыя,
Кілішачкі — залатыя,
Напітачкі—мёд, віно.
Выйдзі, паня, ў аксаміце,
І прыймі вянок у золаце!

1937, Рубені (б. Балтыцы). ад Е. Высоцкай.

*) Варыянты гэтае песьні запісаны: Я. Кірстук — в. Сілене, Т. Бартуль—в. Кісялёўцы і С. П. Сахаравым—в. Лупанды, Крываны і Краслава.

## № 106.

Ішоў раёк *) дарогаю,
З залатымі цапамі.
З густымі капамі.
Ніхто райка не пяройміць.
Ідзі, раёк, у наш дварок!
У нас двары — мяцёныя,
У нас сталы — цясовыя,
А скацерці — бялёвыя,
Напіцечкі — мядовыя.
Выйдзі, пані, ў аксаміці,
Перайми вянок у золаці!

1936, Сіленская вол. Я. Кірстук ад А. Пячонка-Жунды.

## № 107.

Ішоў раёк дарогаю шырокаю.
— Ды чый то двор пры дарозе, пры шырокай?
„Яначкаў двор пры дарозе, пры шырокай!“
Зайшоў раёк у Янкаў дварок.
У яго двары — высокія,
А ваконцы — маляваныя,
У яго сталы — цясовыя,
Абрусікі — бялёвыя,
А напіткі — мядовыя.
А ўсе страўкі — сахарныя.
Гаспадарок-вінаградак,
Нясі віна салодкага!
Гаспадынька, як малінка,
Нясі сыры на закуску!

1929, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

## № 108.

Ішоў раёк, ішоў раёк — дарожкаю,
Дарожкаю, дарожкаю — шырокаю.
Сюды, раёк, сюды, раёк, — у мой дварок!
Нашы двары, нашы двары — мяцёныя.
Нашы сталы, нашы сталы — чэсовыя.
Настольнікі, настольнікі — бялёвыя.
Нашы хлябы, нашы хлябы — сітовыя.
Нашы напітачкі, нашы напітачкі — салодкія.

---

*) „Раёк“—як растлумачыла мне Анэля Гвозд з Каплаўскай воласьці ў Ілукстэншчыне — гэта ёсьцъ канец жніва. Пакуль не канчаюць жаць, сьпяваюць жніўныя песьні, напрыклад: „Маё жыта рэдзенька“, „Ніўка ніўка, аддай маю сілку!“ і інш. У дзень канца жніва, гаспадыня пасылае на поля акрайчык хлеба і троху солі, якія кладуць у апошні сноп, ці капу. Потым з адпаведнымі сьпевамі на недажатай жмені каласоў, завіваюць бараду „рою“ („рой“ сымболізуе тутака прыбытак, спор, разможаньне), плятуць вянок і пояс, упрыгожваючы іх кветкамі, галоўным чынам, васількамі. Так сама абвіваюць сярпы і косы калосьсямі і кветкамі, ускладаюць вянок лепшай жнейцы, дзяўчыне, на галаву і усе разам, хлапцы і дзяўчаты, ідуць да гаспадара і гаспадыні, пяюць „раёк“. Калі прыдуць, тады пяюць: „Ці рада, рада, наша гаспадынька, што жыта дажала?“, а гаспадыня сустрэкае іх з хлебам-сольлю і адказывае песьняй: „Рада, рада, мае мілыя жнейкі, я вам дам гарэлкі!“ Потым ускладаюць вянок гаспадыні на галаву, а гаспадара падпярэзваюць паясом. Тады уваходзяць з песьнямі і скокамі у хату і садзяцца за стол,

Сюды, раёк, сюды, раёк, у мой дварок!
Ніхто райка, ніхто райка не пярэйміць.

1932, Стрымкі. П. Мірановіч ад А. Кошман.

№ 109.

Хвала табе, Божа!
Хвала табе, Божа,
Што мы дажаліся,
А суседзі нашы—засталіся!
Нашы жнейкі — маладыя,
У нас сярпы — залатыя.
Мы на сонейку жалі,
Свае сярпы пазубралі.
У суседа жнейкі — старыя,
У іх сярпы — ламаныя.
Яны на месяцу жалі,
Свае сярпы паламалі.
Ды ў нас — дажыначкі,
Хазяіну — пажытачкі.

1932, Навумкі. М. Зуеўскі ад Г. Краўкліш.

№ 110.

Ды хвала Богу
Мы — дажаліся,
А Пейтрыны—засталіся!
Нашы жнейкі —маладыя,
У іх сярпочкі—залатыя.
Яны жалі — сьпявалі,
Сярпы пазлачалі.
У Пётрыных — жнейкі старыя,
У іх сярпы—ламаныя.
Яны жалі—драмалі,
Сярпы паламалі.

1931, Ляудэры. А. Хруцкая ад У. Тронінкавай.

№ 111.

Дзякуй Богу дажаліся,
А суседзі — асталіся!
У нас жнейкі—маладыя
І сярпочкі—залатыя.
А ў іх жнейкі—старыя
І сярпы ў іх—ламаныя.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

№ 112.

Хвала Табе, Божа,
Што мы жыта дажалі,
Да ў снапы павязалі!
Да ў полі—ўсё капамі,
Да на гумне—ўсё стадамі.

1939. Мураванка. А. Лукашэвіч ад Г. Лімяшонак.

№ 113.

У нас сёньня — дажон, дажон,
А Мішку — ражон, ражон!
У нас сярпочкі — залатыя,
А ў Мішкі — гнілыя.
Нашы жнейкі — маладыя,
А ў яго — старыя.

1939, Мураванка. А. Лукашэвіч ад Г. Лімяшонак.

№ 114.

У нас сёньня дажыначкі —
Прынясьлі гарэлачкі
Чатыры бутылачкі.
Ды гдзе тая гарэліца?
—У каморы пад лавіцай,
Зарасла муравіцай.

1939, Мураванка. А. Лукашэвіч ад Р. Лімяшонак.

№ 115.

У нас сёньня, у нас сёньня—вайна была:
Усё поле, усё поле — зваявалі,
У снапочкі, у снапочкі павязалі,

У бабачкі, у бабачкі — пасастаўлялі,
У копачкі, у копачкі — пашчыталі.

1927, Азёрцы. М. Талерка ад М. Азерскай.

№ 116.

У нас сёньня—дажон, дажон,
Ліхадзею—ражон, ражон.
А ў нас сёньня—дажыначкі,
Гаспадару — пажытачкі.
Наша жыта — ядро, ядро,
А ліхадзею—кіла з вядро.

1939, Шушкі. ад Г. Марчонак.

№ 117.

А ў нашага, а ў нашага гаспадара —
Курчавая, курчавая галава.
Ён свае, ён свае курчкі патрасець,
І нам гарэлкі, гарэлкі прынясець.

1927, Азёрцы. М. Талерка ад М. Азерскай.

№ 118.

Зялёнае арэхаў'е цераз тын хіляецца,
З-пад таго арэхаў'я цякуць тры ручаёчкі:
У першым ручаёчку — зялёна віно,
У другім ручаёчку — салодкі мядочак,
У трэцім ручаёчку — горка гарэліца.
Зялёна віно — для самога пана,
Салодкі мядочак — для дзетачак яго,
Горка гарэліца — для слуг яго.

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 119.

Ра́да, ра́да шэра перапёлка,
Што лета даждала.
Ра́дзей таго наша гаспадынька,
Што жыта дажала.
Буду па двару хадзіць і ключыкі насіць,
Буду цяпер служачкі будзіць:
— Уставайце, служкі, вы мае дачушкі!
— Ёсьць каму парадкі вадзіць,
— А некаму работкі рабіць!

1939, Мураванка. А. Лукашэвіч ад Г. Лімяшонак.

№ 120.

Рада, рада шэра перапёлка,
Што лета даждала.
Рада, рада, наша гаспадынька,
Што жыта дажала.
Перамерзла шэра перапёлка
Глыбока ў крыніцы,
У сьцюдзёнай вадзіцы.

Перамёрзла наша гаспадынька,
Бяз жытніга хлеба,
Бяз кіслага квасу.
Рáдзей таго наша гаспадынька,
Што жнеек сабрала
І жыта дажала.

1929, Шмілгава. Э. Казакевіч ад М. Ляшчыхі.

№ 121.

Поўна, поўна арэхава гара,
Мёдам налітая.
Паўней таго Міхалкава гумно,
Хлебам навезена.
Ды ня можна ні піхатой прайсьці,
Ні канём праехаць, —
Толькі можна сокалу ляцець
І хлеба паглядзець.

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 122.

Што мовіла ядраное жыта,
На полі стаючы:
— Я ні магу на полі стаяці
— І каласкоў трымаці,
— Толькі магу: на полі — капамі,
— А ў гумне—стагамі.
Што мовіла наша гаспадынька,
Па двару хадзючы:
„Я ні магу па двару хадзіці,
„Ключыкаў насіці,
„Толькі магу за сталом — сядзеці,
„Віно, мядок—піці,
„З мілым гаварыці".

1927, Драздьі. Я. Клагіш ад Г. Маісей.

## 7. Ярынныя песьні.

Ярынныя песьні па свайму зьместу фактычна уваходзяць у цыкл жніўных песьняў, аднак беларускае жыхарства выдзяляе гэтыя песьні з ліку іншых жніўных песьняў, падкрэсьліваючы, што гэта песьні асобныя — „ярынныя", а не „жытнія". Таму і мы тутака зьмяшчаемо іх у асобны раздзел.

№ 123.

Ты, ярынка, ярыся ў полі!
Ай, люлі-рана ў полі.
Ты, Пётранька, жаніся ў доме!
Ай, люлі-рана, ў доме.

Ні вабірай дзевачак на рынку.
Ай, люлі-рана, на рынку.
Да вабірай дзевачак на ніўкі.
Ай, люлі-рана на ніўкі.
Да на рынку дзевачкі — хвасьлівы.
Ай, люлі-рана, хвасьлівы.
А на ніўкі дзевачкі — праўдзівы.
Ай, люлі-рана, праўдзівы.
У каторай постацька шырэй.
Ай, люлі-рана, шырэй.
У каторай снапочкаў — часьцей.
Ай, люлі-рана, часьцей.
У каторай галоўка—гладзей.
Ай, люлі-рана, гладзей.
У каторай кашулька—бялей.
Ай, люлі-рана, бялей.
У Надзінькі—постацька *) шырэй.
Ай, люлі-рана, шырэй.
У Надзінькі — снапочкаў часьцей.
Ай, люлі-рана, часьцей.
У Надзінькі — галоўка гладзей.
Ай, люлі-рана, гладзей.
У Надзінькі — кашулька бялей.
Ай, люлі-рана, бялей. **)

1933, Мельнікі. Г. Нікіфароўская ад Г. Хомчанкі.

№ 124.

Ды на полі ліпа з сонейкам йграець. Рана, рана
Малады маладзец коніка сядлаець, „ „
А старшы брацітка яго намаўляець: „ „
— Выбірай, брацітка, на ніўцы, „ „
— А ня выбірай, брацітка, на рынку, „ „
— На рынку дзевачкі хвасьлівы, „ „
— А на ніўцы дзевачкі працаўлівы. Рана рана!

1937, Крываны. ад А. Габовіч.

№ 125.

За цёмным лесам — трава павяла,
За благім мужам — жана прапала.
На ніўку пойдзець — ніўку праклінаець:
— Каб гэта ніўка — пакарацела,
— Каб гэта пастацька — павузела,
— Каб я старэнька — яшчэ пастарэла!
За цёмным лесам — трава зялёна,

---

**) „Постацька“ — паласа жыта, якую можа зжаць адна жняя. Шырыня яе залежыць ад спрыту жняі.

*) Варыянты гэтай песьні запісаны В Чаркоўскім — у в. Гуменіцы і В. Даўгой — у в. Адамова.

За добрым мужам — жана вясёла.
На ніўку пойдзець і Бога просіць:
— Каб гэта ніўка — падаўжэла,
— Каб гэта постацька — пашырэла,
— Каб я маладзенька—памаладзела!

1930, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

№ 126.

Закрактала шэра вутэнька па рацэ —
Заплакала родна матулька па дацэ.
„Ня плач, родна матулька, па мне,
Мамка пойдзіш ў чыста поле авёс жаць,
А я пайду на сіне мора хусты праць.
Раною, вячэрняю зарою
Да-й сайдуцца нашы галаскі з табою.

1935, Якубава. Яз. Кірстук ад Г. Корзан.

№ 127.

У бару-бару цяцярук баўбочыць,
Ён з бору ляцеці ня хочыць:
„А ў бару ягадкі — салодкі,
А ў бару вадзіца — сьцюдзёна!"

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 128.

Звонкае дзераўца калінка:
Уверх ляцела — зьвінела,
Уніз ападала — стучала.
Пакорная дзіцятка Юзэфка:
Ня бачыўшы, сьвёкру спазнала,
Цераз мір ручаньку падала,
Пра мілага здароўе спытала.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 129.

| | |
|---|---|
| Былі ў дзеда тры дачушкі. | То дзеду Бог даў! |
| Адна выйшла за гаршкаля, | „ „ „ „ |
| Другая выйшла за хлебароба, | „ „ „ „ |
| Трэцьця выйшла за дудара. | „ „ „ „ |
| Гаршкаль едзе—воз гаршкоў вязе, | „ „ „ „ |
| Хлебар едзец—воз хлеба вязе, | „ „ „ „ |
| Дудар едзе — воз дудак вязе. | То дзеду Бог даў! |

1927, Зарэкі. М. Талерка ад А. Гэндаль.

№ 130.

Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, мамка, ідзі, мамка, знайдзі ключы!
Ідзець мамка, ідзець мамка—ключоў нет.

Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, татка, ідзі, татка, — знайдзі ключы!
Ідзець татка, ідзець татка — ключоў нет.
Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, брацітка, ідзі брацітка—знайдзі ключы!
Ідзець брацітка, ідзець брацітка,—ключоў нет.
Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
Ідзі, сястрыца, ідзі, сястрыца,—знайдзі ключы!
Ідзець сястрыца, ідзець сястрыца—ключоў нет.
Па бару, па бару, па верасу,
Там хадзіла шынкарачка,
Пагубіла залаты ключы.
— Ідзі, мілый, ідзі мілый, знайдзі ключы!
Ідзець мілы, ідзець мілы — ключы нясець.

1937, Крываны. ад А. Шляпінай.

## № 131.

Дый па бары (2), па верасе,
Там хадзіла (2) шынкарачка,
Пагубляла (2) злоты ключы.
Йішча ключы (2) — ключоў нету.
Дый па бары (2), па верасе,
Там хадзіла (2) шынкарачка,
Пагубіла (2) злоты ключы.
Мамачка ідзець (2) — ключоў нету.
Дый па бары (2), па верасе,
Там хадзіла (2) шынкарачка,
Пагубіла (2) злоты ключы.
Татачка ідзець (2) — ключоў нету.
Дый па бары (2), па верасе,
Там хадзіла (2) шынкарачка,
Пагубіла (2) злоты ключы.
Брацітка ідзець (2) — ключоў нёту.
Дый па бары (2), па верасе,
Там хадзіла (2) шынкарачка,
Пагубіла (2) злоты ключы.
Міленькі ідзець (2) — ключы нясець.

1927, Азерцы М Талерка ад Азерскай.

№ 132.

Па бару, па бару, па верасу, Раненька, раненька!
Ляжыць бруса часана, " "
На тым, што на брусу, " "
Ходзіць малады Казінька, " "
За ім ззаду малада Паўлінка: " "
— Ты пастой, ты пажджы, ты мяне, " "
— Я табе ўсю праўду скажу, " "
— Калі-ж гэта сіні вазёры замерзлі? " "
„Праўда, праўда, Паўлінка, уся твая, " "
Ды я там быў, лядочак прабіў, " "
Коніка пану утапіў". " "

1939, Мураванка. А. Лукашэвіч ад Г. Лімяшонак.

## 8. Талочныя песьні.

„Талака" ў беларускіх вёсках ладзіцца ў тых выпадках, калі гаспадар уласнымі сіламі ня можа справіцца з цяжкой працай, асабліва ў час вывозу гною, вясной і ўвосені.

Талочныя песьні сьпяваюцца, галоўным чынам, па заканчэньні талакі, у час пачастунку, калі п'еццa гарэлка і піва.

Талачане і госьці тут сьпяваюць ня толькі талочныя песьні, але „застольныя" і „бяседныя", а потым пачынаюць сьпевы для скокаў і гульняў — „лявоніху", „кадрыль" і рожныя „полькі", пад якія моладзь, ды і людзі старэйшага веку, скачуць.

№ 133.

Нісла́ва, нісла́ва, Яначка твая —
Ні п'яна, ні п'яна талака твая!
Талачу, талачу — талачаначкі,
Папілі, паелі прахаджаначкі.
Талачу, талачу — талакі ні ўняць,
Ні дадуць гарэлкі — ня буду сьпяваць.
Капачы ў хлеве — як свіньні ляжаць,
Дзеванькі на полі — як пчолкі зьвіняць.

1930, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

№ 134.

Талачу, талачу — талакі ня ўняць,
Ні дадуць гарэлкі — ня буду пяяць.
Татулька, татулька, я ў цябе—адна,
Налей мне гарэлкі, я вып'ю да дна!

1927, Бартулі. М. Барысёнак ад сваей маці.

№ 135.

Бела бяроза — каранiстая,
Наша сьвякроўка — наравiстая.
Белаю бярозу сякуць, рубаюць,
Нашу сьвякроўку лаюць, ругаюць.

1927, Бартулi. М. Барысёнак ад сваей мацi.

№ 136.

— Цёмна ночка, дождж будзiць.
— А где-ж мы будзiм начаваць?
— Рыбку з юшкай гатаваць?
„У полi стадола, а ў стадолi камора,
„Там мы будзем начаваць
„I рыбку з юшкай гатаваць“.
Я выхадзiла, малада, i зачула салаў'я.
Калi-б етат салавей
Майму татку у зялён сад —
Я-б яго бiрагла,
Я-б кармiла пшанiцай
I паiла сыцiцай *).

1933, Мельнiкi. Г. Нiкiфароўская ад Г. Хомчанкi.

№ 137.

Бярыце, бярыце ад нас мiскi i талеркi,
Нясiце, нясiце паболей гарэлкi.
Узялi, узялi мiскi i талеркi —
Ня прынясьлi нi аднаго кiлiшка гарэлкi.
Цяпер таргуйся, таргуйся, хазяiн, ты з намi!
Плацi-ж ты нам па дзенюшкi,
А малым рабятам па капеечкi,
А сваiм жа капачам—задай ў сьпiну таўкачам:
За iм мы ў полi настаялiся,
А малыя рабяты нагулялiся.

1933, Мельнiкi. Г. Нiкiфароўская ад Г. Хомчанкi.

№ 138.

А ў полi бяроза стаяла, (2 разы)
Я там, маладзюсенька, гуляла, (2)
Зялёнае суччайка ламала, (2)
Рэчкi, ручаёчкi масьцiла, (2)
К брацiткi ў госьцi хадзiла. (2)
У брацiткi ночку начую, (2)
Ад брацiткi слоўца ня чую. (2)
Толькi ўчула ад братоўкi: (2)
— Чорт — гэта госьця, залаўнiца, (2)
— Лучча-б мая родная сястрыца! (2)

*) „Сыцiца“—вада засалоджаная мёдам.

— Знала-б я з ей што гаварыць, (2)
— Нашла-б я ей што пасуліць. (2)

1933, Мельнікі. К. Езавітаў ад Г. Хомчанкі.

№ 139.

Знаць наша доля ні такая, (2 разы)
Што наша хазяйка скупая. (2)
Сядзіць на палочку у куточку, (2)
Дзяржыць бутэлачку ў падалочку. (2)
Ківаіць, мігаіць на мілога: (2)
— Ня пей, мой міленькі, гарэлку! (2)
— Кідай к заўтраму на пахмелку: (2)
— Будзім раненька ўставаці — (2)
— Сваю сямейку пахмеляці. (2)

1933, Мельнікі. К. Езавітаў ад Г. Хомчанкі.

№ 140.

Летала паванька па шчырым бару *) —
Раніла перайка ў зялёну траву.
Ня жаль паванькі, ні пер'яў яе —
Да жаль мне дзіцяці ў чужой старане.
Як шчыра рыбанька без вады б'ецца,
Так маё дзіцяці сьлязой льецца,
Як шчуцэ-рыбаньцэ без вады нудна,
Так маей дзіцяці без маці трудна.

1930, Кісялёўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапіліхі.

№ 141.

Прыўкрасна каліна пры дарозе стаяла.
Прыўкрасьней жа яе Міхалкіна жонка,
Па двару хадзіла, у сені ступіла.
У сені ступіла, служак разбудзіла:
— Уставайці служкі, родныя дачушкі!
— Сталы засьцілайці, кубкі налівайці.
— Наехалі госьці ні з нашай валосьці.

1933, Мельнікі. Г. Нікіфароўская ад Г. Хомчанкі.

№ 142.

Як у лозе, пры дарозе, сарокі шчакочуць,
А мой мілы чарнабровы кідаць міне хочыць.
— Ня кінь, ня кінь, мой міленькі—шанаваці бу
— Мае ручкі белюсенькі—абнімаці буду,
— Мае губкі сладзюсенькі—цалаваці буду.

1935, Вецслабада. К. Езавітаў ад Г. Савіцкага.

---

*) Варыянт гэтае песьні запісан А. Маслоўскім у в. Ламы.

# 9. Ільняныя песьні.



Сьпявачка Анэта Гэндаль, 65 год, з вёскі Зарэкі ў Індраўшчыне. Фот. Талеркі ў 1925 г.

У кождай беларускай гаспадарцы сеюць і апрацоўваюць лён, а таксама ў многіх сямейках яшчэ і дагэтуль вырабляюць і носяць саматканыя уборы. Таму сярод беларускага насельніцтва захаваліся песьні, зьвязаныя з апрацоўкай лёну ў рожныя моманты.

№ 143.

А на гары лён, беленькі кужаль.
Незкім мне стаці, лён ірваці.
Сьвёкарка кажа: „Я з табой, з маладой!"
— То мне не рваньне, то мне — гараваньне!
На гары лён, беленькі кужаль.
З кім мне стаці, лён ірваці?
Міленькі кажа: „Я з табой, з маладой!"
— То мне — ірваньне, то мне й мілаваньне! *)

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 144.

Бідаваў зялёны лён:
„Ай, біда мая, біда,
Што дробныя дарожанькі,
Што буйныя ветрыкі,
Ні даюць ні вырасьці,
Ні цьвяточкам выцьвесці!"
Бідавала Ганначка,
Па таткавым двару хадзя:
— Ай, бяда мая, бяда,
— Што частыя госьцейкі,
— Што часьценька прыяжджаюць,
— Моладу намаўляюць,
— А матульку спадманываюць.
— Ні даюць ні вырасьці,
— Ні касіцы выплесьці!

1929, Шмілгава. Э. Казакевіч ад М. Ляшчыхі.

№ 145.

На лён раса напала. Рана, раненька!
Я расы не баюся, „ „
Я толькі баюся „ „

---

*) Варыянты гэтае песьні запісаны: Яз. Кірсту..ом — у Сіленскай вол. і В. Даугой — у в. Адамова.

Восеньняй ночкі. Рана, раненька
Восеньня ночка—разлука мая: „ „
Разлучыць моладу „ „
З родненькай маманькай, „ „
Прылучыць моладу к ліхой сьвякроўкі. „ „
Ліха сьвякроўка — ні мамухна, „ „
А дзявер'і — ні брацікі, „ „
А залоўкі — ні сястрыцы! Рана, раненька!

1930, Ламы. А. Маслоўскі ад К. Маслоўскай.

№ 146.

Гаварыў зялёны лён,
Пры дарозе стоя:
„Калі мяне ня вырвіце,
„Я сам завалюся, па дарожкі расьцялюся!"
Гаварыла Юзэпка сваей роднай маці:
— Калі мяне ня выдасьце, —
— Я і сама замуж пайду:
— Што за тын, за вароты,
— За суседняга сына.
— Ды ён будзе купчаваці,
— А я за ім панаваці,
— Ён будзе мёд-віно піці,
— А я буду сьлёзы ліці!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 147.

Праду, праду тонка, пагучываю звонка,
Гэй, каліна, маліна мая! (Прыпеўка пасьля кажнага радка).
Пастаўлю кросенцы у новай сьвятліцы,
Прыдзе муж п'яніца, на кросёнцы ўзваліцца,
Нітачку парвець, мяне маладу паб'ець,
А мілы нітачку зьвяжыць, са мной радам сядзіць.

1923, Палішчына. В. Казлоўская ад Ю. Маліноўскай.

№ 148.

Жабка на моры кросенцы ткала. Рана, рана!
Прыехаў рачак да жабкі ў сваты. „ „
„Бог помач, жабка, кросенцы ткаці! „ „
— А табе, рачык, каня сядлаці! „ „
„Ты, жабка, ня ўмееш кросенцы ткаці!" „ „
— А ты, рачык, ня ўмееш каня сядлаці! „ „
„А ў цябе, жабка, чатыры лапкі!" „ „
— А ў цябе, рачак, назаду вочкі! „ „

1937, Каля Даугаўпільсу, Ругелі (б. Лагеры). ад А. Шыліхі.

---

*) Варыянты гэтае песьні запісаны: Яз. Кірстуком—ў Сіленскай вол., К. Б. Езавітавым—ў в. Мельнікі і С. П. Сахаравым—в. Прідайне і м. Краслава.

## № 149.

Доўга доўга зьвячора сядзела,
Тонкі я, белы кужалёчак я прала,
Часта я, часта праз ваконца паглядала:
Адкуль, адкуль ясны месяц узойдзіць,—
Адтуль, адтуль мой татулька прыедзіць.
Кіну я пралку пад белаю лаўку,
Сама пайду татку пераймаць.
Правай ручкай татульку вітаю,
Левай ручкай сьлёзкі выцяраю.
„Чаго, чаго, мая дзіцяці, плачыш?
„Ці табе сьвякроўка ліхая!?"
— Мне сьвякроўка — як родна матулька.
„Ці табе сьвёкерочак ліх?"
— Мне сьвёкерочак—як родны татулька.
„Ці табе дзевярочкі ліхія?"
— Мне дзевярочкі — як родные браточкі.
„Ці табе зальвіцы ліхія?"
— Мне зальвіцы — як родны сястрыцы.
„Ці табе міленькі ліхі?
— Згадаў, згадаў, мой татулькародненькі! —
— Ціха іду — як сьвіньня паўзу я.
— Скора іду—як каза скачу я,
— Бела нашу — то жана хвасьліва,
— Чорна нашу — то жана лянівa.

1935, Сілене (б. Бароўка). Яз. Кірстук ад сваей маці.

## № 150.

Як пашоў-жа кужаль па кутах, па лаўках.
Каліна, маліна мая!
(Прыпеўка пасьля кожнага радка).
Па кутах, па лаўках, па дзеўках-красаўках.
Ды прышоў-жа кужаль ды к нашай Насьцінькі,
А наша Насьцінька — ды тонкая пральля,
Ды тонкая пральля, ды звонкая ткальля:
Увадзіла ніткі пароўна калена,
Пароўна калена — таўсьцей за палена.
Задумала Насьцінька красёнкі йткаці,
Пайшла ў добры людзі бёрды *) дабываці:
Бёрды не дабыла — сабак надражніла,
Сабак надражніла, людзей насьмяшыла.

---

*) „Бёрды" — прылада для тканьня ў кроснах, праз якую прапушчаюць ніткі. „Бёрды" ўстаўляюцца ў рамку, якая завецца „набіліцай".

Параілі людзі па пнеўю снаваці,
Па пнеўю снаваці, ў ізгароду йткаці,
У ізгароду йткаці, калом прыбіваці,
Ехалі баяры, Бог помач давалі:
— Бог помач, Насьцінька, красёнцы йткаці!
— Красёнцы йткаці — калом прыбіваці,
— Дачкам — на платочкі, сынам — на парточкі.
Павязла Насьцінька бялізну бяліці:
На рэчку — каламі, а з рэчкі — валамі.

1922, Вецслабада. Г. Нікіфароўская ад бабкі Луцэі.

№ 151.

Скачыць кужалёчак, скачыць кужалёчак,
Каліна-маліна! (Прыпеўка пасьля кожнага радка).
Дый па белых лаўках, дый па красных дзеўках,
Прыйшоў кужалёчак да маладой,
Яна тонка прала, яна звонка ткала,
Кроіць кужалёчак сабе на кашульку,
Сабе на кашульку, Марылькі на другую.

1935, Якубава. Я. Кірстук ад Г. Корзан-Паршута.

№ 152.

Сядзелі бабы на гары, *)
Кулаком зямлю прабілі,
Сваіх дочак хвалілі,
Нявестачак хулілі:
— Нашы родныя дочкі, —
— Кужаль пралі — сьпявалі,
— Кросны ткалі — скакалі,
— А як нявестачкі-гультайкі —
— Кужаль пралі — драмалі,
— А як кросны ткалі — ўсе спалі.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

---

*) У некаторых мясцовасьцях жыхарства адносіць гэтую песьню да „вясьнянак", г. ё. вясновых песьняў, якія сьпяваюцца на ўзгорках калі „гукаюць вясну". Закліканьне вясны пачынаюць з 25 сакавіка.

## 10. Восеньскія песьні.

Прыблізна ў канцы верасьня ці ў палове кастрычніка сяляне канчаюць сваю працу на полі і наступае больш спакойная і больш сытная пара.

У гэты час на вёсцы часта гуляюцца вясельлі, адбываюцца кірмашы, ладзяцца „дзяды" г. ё. памінаньне нябошчыкаў і пачынаюцца восеньскія і зімнія працы: малоцяць хлеб, трэпюць лён, чыняць сані і г. д. Жанчыны і дзяўчаты зьбіраюцца па хатах на так званыя „супраткі", дзе каля аднога сьвятла прадуць, а каб вясялей было працаваць—пяюць песьні.

У восеньскіх песьнях многа пачуцьця. Тут мы бачым: і цяжкае жыцьцё замужняй маладой жанчыны пры ліхой сьвякроўцы, пры п'яніцы, ці нялюбым, ці старым мужу, сьпяваецца тут і пра долю сіраты, ці ўдавы, даюцца ў восеньскіх песьнях рады хлопцам, якую нявесту выбіраць, а дзяўчаты часта ў песьнях скардзяцца, што ім рана трэба ісьці замуж: „ні даюць ні вырасьці, ні касіцы выплесьці" і г.д.

№ 153.

А ў цёмным лесе, а ў цёмным лесе Рана, рана!
Мядзьведзь рыкаець, дзевак пужаець. „ „
— Рыкай, ня рыкай — я не баюся. „ „
Толькі баюся васеньняй ночкі: „ „
Гэтая ночка —разлучніца мая, „ „
Яна разлучыць з роднай матухнай, „ „
Яна разлучыць з родным татухнай, „ „
Яна прылучыць к сьвёкру, к сьвякроўкі. „ „
Мне не ўгадаці, як сьвёкра зваці: „ „
Сьвёкранькам зваці — няслáва мая, „ „
Татухнам зваці — мне ня хочацца. „ „
Зваць, ня зваці: сьвякор — татухна, „ „
Сьвякроўка — мамухна. Рана, рана!

1931, Беляі. А. Хруцкая ад Ю. Тронінкавай.

№ 154.

У балоці на калодзі мядзьведзь рыкаіць,
Дзевак пужаіць.
— Рыкай, ня рыкай — я ўжо ні баюся нікога,
Толькі баюся аднаго Бога
Да мужа маладога, кнута рамянога. *)

1927, Бартулі. М. Барысёнак ад сваей маці.

*) Варыянты гэтае песьні запісалі яшчэ: Бр. Станкевіч — у в. Станкевічы, Т. Бартуль — у в. Кісялёўцы, С. П. Сахараў — у в. Лупандава, Я Кірстук—у Сіленскай вол. і ў в. Якубава.

№ 155.

Нядоля, нядоля, няшчасьце маё,
Пракляла сьвякроўка іменьня маё!
— На што-ж ты за сына брала,
Калі-ж ты іменьне маё не спадабала?

1936, хут. Судрабі. ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 156.

Белая бяроза — караністая,
Ліхая сьвякроўка — наравістая.
Я тую бярозу — ссяку, зрублю,
Ліхую сьвякроўку злую — згублю.
Я тымі трэскамі абед згатую
І ліхую сьвякроўку ўпатрахтую.

1936, хут. Судрабі. ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 157.

Нізка-нізка сонейка ўсходзіць,
Ніжэй лесу не заходзіць.
Блізка-блізка брацітка едзіць —
Да мяне ў госьці не заедзіць.
„А, брацітка-салавейка, чаго ў госьці не заедзіш?
„Ды ці ты дарожкі ня ведаеш?“
— Ды я ўсе дарожкі ведаю і коніка завярну,
— Ды я еду — ты плачыш, ад'езжджаю — уздыхаеш,
— Ды я — за горы, ты — найгоры,
— Я за — лясы, ты — ў галасы.
„Брацец-салавейка, вазьмі, вазьмі маё гора
„Свайму коніку на грыўку!“
— Ды, сястрыца-перапёлка,
— Мой конік — маленькі, сядзеліца — караценька!
„Ды разьвей, разьвей маё горушка
„Па сьцежкам, па дарожкам, па жоўтым пясочкам!
„Людзі жыта сеюць — Бога просюць,
„Каб жыта усхадзіла,
„А я гора сею, Бога прашу,
„Каб гора не ўсхадзіла.
„Як узыйшло гора
„Ды ўсе рожнымі кветкамі,
„Ды толькі адзін васілёчак —
„Мой міленькі дружочак“.

1937, Краслава. Г. Сахарава ад Я. Высоцкай.

№ 158.

Даўно я, даўно я ў матулькі была,
Ужо тая дарожка травой зарасла,
Чырвонай калінкай павілася.
Я гэту калінку сасяку, зрублю,
У пучкі павяжу, масты намашчу,

Зялёнаю траўку касой пакашу,
Тады да матулькі ў госьці пайду.
„Матулька родная, я ў госьці іду!“
— Дзіцяці родная, я піраймаю!
„Матулька родная, я есьці хачу!“
— Дзіцяці родная, я есьці гатую!
„Матулька родная, я піці хачу!“
— Дзіцяці родная, я піва вару!
„Матулька родная, гуляці хачу!“
— Дзіцяці родная, музыку найму!
„Матулька родная, я спаці хачу!“
— Дзіцяці родная, пасьцельку сьцялю!

1939, Кісялёўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапіліхі.

№ 159.

Ох, ты, вольха, зеляна!
Чаго-ж ты ня такая,
Як у Пятроў дзень была?
Фросенька, малада,
Чаму ты ня такая,
Як у роднай мамкі была?
— Міхалачка, сэрца маё,
— Дай мне волю такую,
— Як у роднай мамкі была!
„Фросенька, душа мая!
„Выведзь дзевяць сыноў,
„А дзясятую доч Марысю!“
— Міхалачка, сэрца маё!
— Пастаў дзевяць дамоў,
— А дзесяты — цяром:
— Усім сыночкам па дамочку,
— А дачкі Марысі — высок цяром.

1939, Шушкі. ад В. Дамчона

№ 160.

Гуляй, гуляй, шчука, плаціца,
Пакуль цёпла вадзіцца!
Маразы ўдаруць, возеры стануць, гуляць ня будзем.
Гуляй, гуляй, малада дзеванька,
Пакуль ў роднай маманькі!
Як у людзі пойдзеш,
Гуляць ня будзеш, работку зададуць.
Цябе, маладу, пашлюць па ваду,
Самі сядуць абедаць.
Горы—высокі, воды—далёкі, на абед не пасьпееш.
Прынясеш вады для сваей бяды,
Кожнаму трэба даць піць:
Дасі старому, дасі малому і мужаньку маладому.
Дадуць кусочак, пайдзеш у куточак —
Там твой абед будзе.

1928, Аляксандрова. В. Слосман ад Ю. Тарлецкай.

№ 161.

Коціцца дробны дожджык, паліваіць.
— Гуляй, гуляй, Ганначка,
— У свайго роднага таткі!

„Як я магу гуляць пайсьці,
„Калі сваты на двор едуць?
На двор едуць, вароты разчыняюць,
Вароты разчыняюць, з роднай мамкай размаўляюць“.

1930, Ляўдэры. Г. Лапчонак ад Н. Прынц.

№ 162.

Як задумаў жораў жаніцца і пайшоў да сініцы.
Шляпу, шляпу, сем вёрст па імху.
— Што-ж, сініца, ці пойдзеш за мяне замуж?
Сініца кажа: „Не пайду!“
Шляпу, шляпу, семь вёрст па імху.
Сініца думала, думала: „Пайду!“
Ізноў сініца за ім ззаду.
Шляпу, шляпу, сем вёрст па імху.
Прыйшла сініца да жорава і кажа: „Пайду!“
Жораў загневаўся і сказаў: „Не вазьму!“
Шляпу, шляпу, сем вёрст па імху.

1936, Бруніпіэкі. ад А. Гвозд.

№ 163.

Дубам, дубам ячмень малачу,
Ляціць саломка, вышэй дубочка ляціць.
Пад тым дубочкам рэчанька цячэць.
Па тэй рэчанькі чаўночак плывець,
А ў тым чаўночку маладзец сядзіць,
Чэшыць кудзёрцы частым грабушком,
Пушчаіць кудзёрцы на быстру раку:
— Плывіце, кудзёрцы, к таму берагу,
— Дзе мая мілая вадзіцу бярэць,
— Спытайцеся яе, ці тужыць па мне?
„Няхай па ім тужыць камень ды вада,
„А ня я малада!
„Часаў ён трэскі з маіх белых плеч,
„Віў ён вяроўкі з маіх русых кос,
„Пускаў ён рэчкі з маіх дробных сьлёз!“
— Няпраўда твая, мілая мая,
— Часаў я трэскі з белай бярозы,
— Віў я вяроўкі з лёну і пянькі,
— Пускаў я рэчкі сы мхоў, з балотаў *).

1935, Сіленская вол. Яз. Кірстук ад А. Пячонкі.

№ 164.

Маладая маладзіца (2 разы)
Стада гусей прыганяла: (2)
— Ах, вы, гусі, гусі мае шэрыя! (2)

---

*) Варыянты гэтае песьні запісаны: С. П. Сахаравым — у м. Краславе, Т. Бартулем—у в. Кісялёўцы, вучыцялем. Яз. Клагішам—у в. Цаўрумах, Скайсьценскай вол., З. Чэкелем—у в. Юраны, Антосям Ворславым—у Індраўскай вол.

— Прывыкайце к майму полю, (2)
— К майму полю далёкаму, (2)
— К майму ніўю шырокаму! (2)
— А як я, малада, прывыкала (2)
— Ды к чужое старонкі, (2)
— Ды к сьвёкару і к сьвякроўкі, (2)
— Ды к маладому мужу. (2)

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

## № 165.

Гасіці лучыначку, кладзіціся спаць!
А мне маладзенечкай усю ночку ні спаць,
Пайду у камораньку пасьцельку слаць,
І буду сваяго п'яніцу з карчмы чакаць.

1930, Пугачы. А. Маслоўскі ад В. Куксінскай.

## № 166.

Купалася вутачка на моры,
Пакупаўшыся, яна зьмéрзла.
Ды хто-ж тую вутачку сагрэіць?
Ды сагрэіць вутачку—селязень:
Ды ён сваім сізым крылачкам,
Ды ён сваім мягкім пушочкам,
Ды ён сваім цёпленькім душочкам.
Вымывалася дзяўчына ў цёплай лазіньке,
Памыўшыся, дзяўчына зьмéрзла.
Ды хто яе маладу сагрэе?
Ды сагрэіць яе добры маладзец:
Сваім цёплым кажушком,
Сваім добрым душком.

1930, Гуменіцы. В. Чаркоўскі ад сваей маці.

## № 167.

На Дунаёчку, на беражочку,
Там купаліся два галубочка.
Пакупаўшыся ды паляцелі.
Яны, лячучы, бркавалі:
„Дзе-ж мы будзем ноч начаваці?
„Каго-ж мы будзем намаўляці?“
— Мы заначуем ночку пад масточкам,
— Падманім к сабе шэру зязюлю.
„Шэра зязюля, лецькапалець з намі!
„З намі, ды з галубкамі!“
— Рада бы я з вамі паляцеці,
— Ды жаль мне сада, жаль мне зялёнага.
На рыначку, ды на таржочку,
Пілі-гулялі ды два малайца.
Пілі-гулялі ды размаўлялі:
„Дзе-ж мы будзем ноч начаваці?

Каго-ж мы будзем намаўляці?“
— Заначуем ночку ў дварочку,
— Падманім да сябе маладу Анэлю.
„Малада Анэля, едзь, паедзь з намі!
„Ды з маладымі малайцамі!“
— Рада я з вамі паехаць,
— Ды жаль мне матулькі,
— Жаль мне роднай. *)

1936, хут. Судрабу. В. Гвозд ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

## № 168.

Ай, восень, восень!
Сватоў па восем,
А ка мне ніводнага!
Каб яны прыбіліся —
Пра мяне забыліся!
Каб яны пагінулі —
Як мяне пакінулі!
Я гора набралася:
У поле нахадзілася,
Сабак наманілася
І мальцаў надражнілася.
А ўжо замуж хочацца!...

1929, Азёрцы. М. Талерка ад М. Ласурскай.

## № 169.

Як прыехаў першы — такі ён няверны.
Не аддай, не аддай мяне, татанька!
Не аддай, міленькі, за яго!

(Прыпеўка пасьля кожнага радка).

Як прыехаў другі — такі недалугі,
Як прыехаў трэці — такі ён увечы,
Як прыехаў чацьвёрты — нікаму няварты,
Як прыехаў пяты, — такі галапяты,
Як прыехаў шосты — такі недарослы,
Як прыехаў сёмы — такі невясёлы,
Як прыехаў восьмы — такі ён востры,
Як прыехаў дзевяты — такі небагаты,
Як прыехаў дзесяты — прыгожы і багаты!
Аддай, аддай, татанька, за яго!
Аддай, аддай, міленькі, за яго! **)

1936, Бруніпіэку. ад А. Гвозд.

---

*) Варыянт гэтае песьні запісаны А. Лукашэвіч у в. Мураванкк.

**) Варыянты гэтае песьні запісаны С. П. Сахаравым — у м. Краславы і Яз. Кірстуком — у в. Якубава ад Корзан.



У беларускай хаце на Індраўшчыне. Дыплёмная праца маст. П. Міpановіча.

# 1. Хрэзьбінныя песьні.

Хоць нараджэньне на сьвет новага чалавека, асабліва сына, з'яўляецца радасным здарэньнем у сялянскай сямейцы, але абраднасьцей пры гэтым захавалася мала.

Калі жанчына адчувае блізасьць нарадзін, дык, звычайна, заклікаюць бабку-павітуху для прыйма дзіцяці. У дзень радзін адведываюць радзіху толькі самыя блізкія людзі.

Калі дзіця здаровае, дык яго вязуць праз некалькі дзён хрысьціць. Кумамі запрашаюцца добра знаёмыя бацьком нованароджанага суседзі ці родныя, прычым аддаецца першая ўвага людзям больш маладога веку.

Перад выездам кумоў, бацькі і бабка жагнаюць дзіцёнка хлебам-сольлю, багаслаўляюць.

Самая урачыстасьць адбываецца—калі кумы прыедуць пасьля хросту. К гэтаму часу на хрэзьбіны зьбіраюцца запрошаныя госьці, якія прыносяць з сабой падарункі парадзіхе, найбольш — ядоміну.

Кумы перадаюць бацькі з маткай дзіця, кажучы: „Як мы бачылі яго пад храстом—дай, Божа, бачыць яго пад вянцом!“

Пасьля прывітаньняў, бацькі запрашаюць гасьцей за стол і пачынаецца пачастунак. Першыя чаркі падносяць кумом і бабцы, а потым і ўсім гасьцём.

Пачастунак закончваецца „бабінай кашай“.

Па апавяданьню сьпявачкі У. Нэйжборт-Беляўскай, якая ў сваей акрузе (в. Варнавічы Ілукстэнскага пав.) была вядомай бабкай-павітухай, каша варыцца з пшоных, ці грачнёвых круп, накладаецца ў гліняную міску і зьверху пасыпаецца цукеркамі ці пячэньнем. Часта цяпер замест кашы бабкі проста падаюць у талерцы цукеркі ці пячэньне, пакрываючы іх хусткай. На заканчэньне пачастунку бабка абносіць кашай усіх гасьцей:

„Паспрабуйце маю кашу!“ — кажа бабка: „Можа мала солі, ці сырая, ці кіслая, ці можа даўно звараная“.

Першаму бабка падносіць куму, які спрабуе кашу і кажучы: „Каша—дужа смашная!“ — кладзе грошы на талерку. Так бабка абходзіць усіх гасьцей і кожны дае грошы.

Пасьля гэтага, калі блізка ёсьць карчма, садзяць бабку на барану і вязуць яе да карчмы, каб яна там купіла для гасьцей гарэлкі. Калі няма карчмы, дык, пасьля пачастунку, бабку на баране адвозяць з рожнымі жартамі да хаты. У часе пачастунку госьці сьпяваюць песьні бабцы, кумом і бацьком, якія мы ніжэй зьмяшчаем.

№ 170.

Ды зацьвіцела калінка ў лазе,
Ды захварэла Марылька ў палазе,
Ды зажадала вішнёвага соку.
— Ды паклічце майго мужа з току,
— Каб растараўся вішнёвага соку!
„Калі на дачку, дык я і з току не пайду,
„А калі на сына, дык я мёду прынясу!“

1938, Хут. Судрабу. ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 171.

Ды зацьвіцела калінка ў лозе,
Ды захварэла Марылька ў палозе,
Ды зажадала вішнёвага соку.
„Ды паклічце майго мужа з току,

„Каб растараўся вішнёвага соку!“
— Калі сыночак — мушу растарацца,
— Калі дачушка — гуляйце жоначкі!

1929, Кісялёўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапіліхі.

№ 172.

Сьпяваюць бабцы.

Наша бабка — нядужа, нядужа,
Пастаночкі *) дасужа,
Нашай бабкі як нет,
Пастаночкі ды як сьвет.

1929, Індра. ад А. Невяроўскай.

№ 173.

Бабка кашку нясець, а кум казной трасець.
У бабкі кашка — смашна, а ў кума казна—ясна.
Таўчы, малоць — нядужа,
Да пастаночкаў—дасужа.
Таўчы, малоць: „Ах,—ці мне?“
А пастаночкі-ж: „Дайце мне!“

1939, Мураванка. А. Лукашэвіч, ад Г. Лімяшонак.

№ 174.

Сьпявае бабка-павітуха.

Казала бабка, казала любка:
—Я і дамоў не пайду,
—Покі ўнучка палучу,
—Ды гарэлку не пап'ю!
—Запражыце, запражыце
—Вы дзьвенадцаць мне валоў,
—Ды адвязіце, ды адвязіце
—Вы бабку дамоў.

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 175.

Запражы-ш ты, душулінка, варанога каня!
Прывязі-ш ты бабулічку з новага двара!
Ты, бабулька мая дарагая, спаражэйнічка маё цяжкое!
(Прыпеўка пасьля кождых двух радкоў).
Ды дайце-ж вы бабуліцы сем мер канапель,
Пакладзіце дзіцятка ў белаю калыбель,
Ды дайце-ж сем мер мукі!
Ды дзяржала бабулічка за белыя рукі,
Ды была-б жа я ў сырой зямлі гніўшы,
Каб гэту ночку бабулькі ня быўшы.
Папаліла бабулічка ясны сьвечы, сідзючы,
Прыгледзіла бабулічка ясны вочы, глядзючы.
Запражы-ш ты, душулінка, варанога каня!
Адвязі ты бабулінку да новага двара!

1929, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей мацi.

176.

Сьпяваюць куму з кумой.

Ды дождж ліець, вецер веець
На куміну хату.

---

*) „Пастаночкі“—кавалак кужалю — даецца бабке ад радзіхі.

— Ідзі, кумок, касі мяту —
— Накрый куме хату!
Ды дождж ідзець, вецер веець
На куміны сені:
— Ідзі, кумок, касі сена —
— Накрый куме сені!
Ды дождж ідзець, вецер веець
На кумін ложак:
— Ідзі, кумок, касі рожу —
— Накрый куме ложак!

1929, Кісялёўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапіліхі.

№ 177.

Кум да кумы вельмі рад,
Ды павёў кумку ў зялён сад.
— Выбірай, кумка, ды ягадкі, ды салодкія,
— Салодкія—для кумы, а горкія—для жаны.

1937, Судрабу. В. Гвозд ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 178.

Кум да кумы прыехаў, прывёз куме гарэхаў.
Кума мая, кумачка, ты мая, чырвоная ягадка, ты мая!
(Прыпеўка пасьля кождага радка).
Кум да кумы прышоў, прынёс куме барышоў.
Кум да кумы пад пярыну, а кума яму — зьвярыну.
„Яй, кумачка, што за зьвер? — Я баюся, каб ня з'еў!“
— Ці ў лесе ні биваў, ці ты зьвяроў ні відаў?
— Гэта-ж тая выдра, што літала быдра.

1929, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

№ 179.

У гародзе за платом
Крычыць баба жыватом.
А там мышы шалелі —
Бабе хвартух праелі.
Стала баба бядаваць —
Нечым хвартух залатаць.

1937, Судрабу. ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 180.

Пап'ем мы, пап'ем-пагуляем!
Ці мы долейкі ня маем?
Адна маці нас радзіла,
Не аднэй доляй надзяліла:
Цябе, брацітку, — багатою,
Мяне, сястрыцу, — беднатою,
Цябе, брацітку,—надзялілі валюкамі,
А мяне, сястрыцу, — рукаўкамі.
Будзем піці і гуляці
І пароўну плаціці:
Ты, брацітка, — чырвонцамі,
А я, сястрыца, — рукаўкамі,

Ты, брацітка, — з кішанёчка,
А я, сятрыца, — з рукавочка.

1936, Краслава. Ад Г. Сімачыхі.

№ 181.

Ціраз рэчаньку, ціраз быстраю, —
Зыбка кладачка ляжыць.
Ды Юліська сваю Адэлічку
За-пад-ручаньку вядзець.
—Ды ты, кладачка, ды ты зыбка,
—Ні зыбіся пада мной!
—Ты, Адэлічка, мая душачка,
—Ні старэй-жа ты за мной!
„Вып'ю чарачку, вып'ю другую —
„Мусі-ж буду п'янінка!
„Прывяду сынка і дачушку—
„Мусі-ж буду старынька!"

1929, Іоніны, І. Ігнатовіч ад. сваей маці.

№ 182.

Ах ты, мая гарэліца, як я цябе люблю!
А хто-ж будзе памінаці, як я п'яніцай памру?
— Будуць піці, памінаці і мяне успамінаці!

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

## 2. Калыханкі.

„Калыханкамі" завуцца песьні, якія сьпявае маці, каб закалыхаць дзіцёнка, трымаючы яго на рукох, або зыбаючы ў зыбцы. Мэлёдыі беларускіх калыханак — надзвычайна прыгожыя. Дужа характэрна тое, што некаторыя беларускія калыханкі вядомы ўсяму беларускаму народу і сьпяваюцца к о ж н а ю маткаю.

№ 183.

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок,
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.
Пайшоў каток на таржок,
Знайшоў каток піражок,
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.
Пайшоў каток на ганак,
Знайшоў каток баранак,
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.
Пайшоў каток на беражок,
Злавіў рыбку за хвасток,
Таму-сяму прадаваў,
А Анэткі дарма даў.
Пайшоў каточак на ток,
Знайшоў нітачак маток,
Сталі ніткі віці —
Не нада штаноў мыці.
Сталі катка біці —
Палез каток на палаткі.
Абмерзьлі катку лапкі,
Коцік—у мякінку,
Анэтка—у пярынку.

1936, Бруніні̇эк̇і. ад А. Гвозд.

№ 184.

Пашоў каток у лясок —
Знашоў каток паясок,
А котачка адняла
І Барыску аддала.
Пашоў каток на рынак —
Знашоў каток скарынак,
А котачка адняла
І Барыску аддада.
Пашоў каток на ганак —
Знашоў каток баранак,
А котачка адняла
І Барыску аддала.

1924, Вецслабада. Г. Нікіфароўская ад бабкі Домны.

№ 185.

Пайшоў каток у лясок,
Знайшоў каток паясок,
Таму-сяму аддаваў,
А Гэлі так дараваў.
На коцю—варкоцю,
А на Гэлю—драмоцю.

1937, Крываны. Г. Сахарава ад Гэлі Крыван, 6 год.

№ 186.

Люлі, люлі, люлі! — Прыляцелі куры,
Селі на вароцех, у чырвоных боцех,
Сталі сакатаці, а нечага ім даці!
Хоць бобу—каробу, хоць ячменьку—жменьку,
Хоць гароху—троху, хоць канапельку—чарапеньку,
Аўса—каўша, жыта—карыта, бобу—каробу.

1936, Бруніні́экі. ад А. Гвозд.

№ 187.

Цюці, люлі, ідзі, дзіця, спаць!
А я буду калыхаць!
Цюці, люлі, малое, а на лета—другое!
Будзем гэта—калыхаць, а другое—дабываць:
Пойдзець маці ў асець і другога прынясець.

1936, Брунініэкі. ад А. Гвозд.

№ 188.

Баю-баюшкі баю, не кладзіся на краю:
Прыдзе шэрэнькі каток—схопіць Насьцю за бачок.

1936, Брунініэкі. ад А. Гвозд.

№ 189.

Ці-ці-ці, сарока, дзе была далёка?
— А я была ў Паначох, у чырвоных капачох,
— Паня сына радзіла, на коніка садзіла:
„А тпру, кося: да вады, чырвоныя павады!
Конік ні напіўся, паніч утапіўся.
Пайшоў пан за вадой, стаіць сын з барадой.

1937, Даўгаўпілс, Ругелі. ад А. Шыліхі.

№ 190.

Сівы конь, сівы конь, —
Маляваны санкі!
„Куды едзіш, куды йдзеш?“
— Да сваей каханкі!
А ў маей каханкі —
Смаляныя лаўкі:
Як сеў—прыкіпеў
І спатынькі захацеў.

1936, Шакуры. ад Чыўчыш-Чаркоўскай.

## 3. Забаўлянкі.

„Забаўлянкамі“ завуцца песьні, якія сьпявае маці зусім малым дзецям, каб забавіць дзіцё, калі яно плача. Гэтыя песьні маюць вясёлы, гумарыстычны характар, а пры некаторых песьнях маці, вымаўляючы вядомыя словы песьні, патроху шчакоча дзіцё, каб яно сьмяялася.

Сьпяваючы „забаўлянкі“, маці навучае дзіцё прымітыўным гульням, каб яно магло і самастойна гуляць.

№ 191.

Лады, лады, ладкі! *)
Малые рабяткі,
Гарох малацілі —
Цапы паламілі.
Лады, лады, ладкі!
„Дзе былі?“ — У бабкі!
„Што елі?“ — Кашку!
„А што пілі?“ — Бражку!
Кашка — масьляная,
Бражка — смашненькая.
Папілі, паелі —
Дамоў паляцелі,
На вароты селі,
Ладушкі запелі.

1937, Даўгаўпілс, В. Сахарава з дзіцячых успамінаў.

№ 192.

Лады, лады, ладкі!
„Дзе былі?“ — У бабкі!
„Што елі?“ — Кашку!
„Што пілі?“ — Брашку!
Кашкі паелі,
Брашкі папілі,
На галоўку селі **)
„Пырх!“ — паляцелі! ***)

1924. Вецслабада. Г. Нікіфароўская ад бабкі Домны.

№ 193.

Коў, коў, дзяцел!
Сядзіць на варотах
У чырвоных ботах:
— Ці дома Даніла?
— Ціварыў піва?
— Ці жаніў сына?
— Ці даваў дачку?
За куковачку,
За булдовачку,
За жыдовачку?

1933, Мельнікі. Г. Нікіфароўская ад Г. Хомчанкі.

№ 194.

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку,
Куплю чаравічкі,
Малы, невялічкі,
На Валюшкіну ножку.
Кую, кую другую,
Паеду ў даўгую,
Дарожка — даўгая,
А ножка — малая.

1932, Даўгаўпілс. В. Сахарава з дзіцячых успамінаў.

---

*) Маці навучае дзіцёнка ў тахт песьні пляскаць далонкамі.

**) Тут дзіцё павінна ўскласьці абедзьве ручкі сабе на галоўку і чакаць наступны радок песьні.

***) Пачуўшы слова—„Пырх!“—дзіцёнак шырока разводзіць ручкі ад галавы ў абадвы бакі нібыта лятучы.

№ 195.

Ішлі козы рагатыя, багатыя. *)
Каго пападу, таго—забаду!
Аксютку папалі,
Аксютку забадалі.
Будык, будык, будык!

1932, Даўгаўпілс. В. Сахарава з дзіцячых успамінаў.

№ 196.

Піпа кашу варыла **),
Малых дзетах карміла:
Аднаму дала, другому дала,
Трэцьцяму дала,
Чацьвёртаму дала,
А ты, малы пальчык, ідзі,
Сам сабе кашы навары!
Тут—пень, тут—калода,
Тут—мох, тут—балота,
А тут—цёпленькая вадзіца.

1939, Даўгаўпілс. В. Сахарава з дзіцячых успамінаў.

№ 197.

Ішоў бай па сьцяне,
Нёс сёмяра лапцей:
І сабе, і жане,
І дзяцёнку па лапцёнку!
Ці баіць, ці не?

1932, Даўгаўпілс. В. Сахарава з дзіцячых успамінаў.

№ 198.

Курка-рабушка зьнясла яюшка
У пунцы на полцы, на ржаной саломцы.
Мышка бегла, наском чвыркнула,
Яечка разьбіла.
Баба—ў голас, дзед—у крык:
Як ляцеў з памялом і мышку забіў.

1937, Крываны. Г. Сахарава ад Гэлі Крыван, 6 год.

№ 199.

У балоце, на калодзе —
Мядзьведзь боты шыць,
А малыя медзьвяжаты —
Шоўкам падшываюць.

1937, Крываны. Г. Сахарава ад Гэлі Крыван, 6 год.

№ 200.

Гаю-ґаю, я беса паймаю,
Хвост прэч адарву,
А рогі зламаю.
Як была малада—
Тады была рэзва:
Цераз плот і ў гарод
Сама пералезла.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

*) Маці робіць „казу“ з выцягнутай рукі, на якой падціснуты да далоні вялікі і два сярэдніх пальцы, а указальны і мізенны пальцы высунуты, як рогі. Гэтымі рагамі страшыць і казычыць дзіцё.

**) Маці водзіць пальцам па далоні дзіцёнка, нібыта мяшаючы кашу, потым перабірае пальчык за пальчыкам, пачынаючы з вялікага пальца, а потым торкаець пальцам ад далоні ўсё вышэй і вышэй (тут—пень, тут—калода), а пры канцы казыча пад мышкай.

№ 201.

Ехаў, ехаў, пан, пан, *)
А за панам — жбан, жбан,
А за жбанам — жыд, жыд,
А за жыдам—цыган, цыган,
Цыган, цыган, цыган, цыган!

1921, Даўгаўпільс. К. Езавітаў ад А. Міхалка.

# 4. Дзіцячыя песьні.

Дзіцячыя песьні складаюцца з трох груп: 1) кароценькія песьні-скорагаворкі, якімі дзеці карыстаюцца пры вызначэньні сваей чаргі ў розных гульнях, 2) песьняў пры розных гульнях і 3) песьняў, у якіх сьпяваецца галоўным чынам аб розных жывёлах і птушках.

№ 202.

Раз, два, тры, чатыры —
Мы стаялі на кварціры:
Чай пілі, кружкі білі —
Па капейкі заплацілі!
Адам, Сьцяпан, — падай стакан!
Падай лімон—убірайся вон!

1937, Краслава. Г. Сахарава ад Антосі Ермака, 7 год.

№ 203.

Ішоў жаўнер з бальніцы,
Знашоў белы рукавіцы.
Думаў, думаў: куды дзеці?
Лепш на ручаньку надзеці.

1937, Краслава. Г. Сахарова ад Антосі Ермака, 7 год.

№ 204.

Раз, два — кружава,
Тры, чатыры — пачапілі,
Пяць, шэсьць — кашу есьць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дсецяць — грошы весіць.
Грош — згубілі, два — знайшлі —
У карчму пайшлі;
Чай — п'юць, крушкі — б'юць,
На стол грошыкі кладуць!

1924, Вецслабада. Г. Нікіфароўская ад бабкі Домны.

---

*) Маці, седзячы на лаве, берыць дзіцёнка, які пачаў ужо хадзіць, за абедзьве ручкі і, выцягнуўшы свае ногі троху ўперад, загадвае дзіцяці стаць сваімі ножкамі на пальцы маткіных ног. Затым павольна, пад рытм песьні, пачынае зыбаць дзіцё ўверх і ўніз, пачашчаючы тэмп зыбаньня-падкіданьня. Найбольш шпарка, высока і часта маці падкідае дзіцё, калі сьпявае пра цыгана. Мімікай маці стараецца дапоўніць характарыстыку едучых асобаў.

## № 205.



Ганна Андрэеўна Хомчанка нарадзілася у 1882 годзе, дзявочае прозьвішча — Шнурова. Выйшла замуж 17-ці год і з таго часу жыве ўжо 40 год у вёсцы Мельнікі Істраўскай воласьці Лудзенскага павету. Зямлі ня мае, а ёсьць толькі хата і гарод. Добра ведае усе песьні, якія сьпявае жыхарства вёскі Мельнікі.

Тпрунды баба, тпрунды
дзед,
Хваціліся—хлеба нет!
Села баба на барана
І паехала да пана,
Зачапілася за пень —
Прастаяла цэлы дзень:
Каб ня тыя панічы —
Прастаяла-б да начы.
Тпрунды баба, тпрунды
дзед,
Хваціліся—хлеба нет!
Села баба на барана
І паехала да пана,
Зачапілася за корч —
Прастаяла цэлу ноч:
Каб ня тыя ахвіцэры —
Прастаяла-б да нядзелі.
Тпрунды баба, тпрунды
дзед,
Хваціліся—хлеба нет!
Села баба на барана
І паехала да пана,
Зачапілася за плот —
Прастаяла цэлы год.

1933, Вецслабада. К. Езавітаў ад Г. Хомчанкі.

## № 206.

„Чы-ры, чы-ры, сарочанка!
„Дзе была далёчанка?“
—Была ў пана на таку:
—Ходзіць жораў па таку
—У чырвоным калпаку,
—Носіць шаблю пры баку:
„Усіх людзей перасяку!
„Пайду сам за раку,
„Дзе там людзі гамяняць
„І мост масьцяць,
„Сэрабром гваздзяць!“
—Мой татка, гасудар,
—Купіў мне сарафан, —
—Ня долаг, ні каротак —
—Толькі па лесу хадзіць,
—Шэрых зайцаў лавіць.
Варона—стара жона,
Пайшла жыта жаці,
А мядзьведзь на бару
Боты подшываець:
— А, сінічка-сястрычка,
— Пашый мне кашульку!
—Прывязу я жану
—І за стол пасажу
— І ўсім людзям пакажу.

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай!

## № 207.

Ходзіць шавец каля плоту,
Пытаецца на работу:
„Мая міла гаспадыня,
„Ці ня здохла дзе кабыла?“
— Вось там, на даліне,
— Здохлі у пана дзьве кабылы:
— Адна — чорна, друга — лыса,
— Адна — учора, а другая — сёньня.

1938, Рыга. ад У. Нэйжборт-Бяляўскай.

## № 208.

Палачка-стукалачка дамоў прыйшла,
Ды нікога не знайшла.
Каго першага зно́йдзецъ —
Той за палачкай пойдзецъ!

1921, Мастовая. К. Езавітаў ад хлопца Антася, 8 год.

## № 209.

Жыў-быў ў бабулі
Шэранькі козьлік.
Вось як, вось як,
Шэранькі козьлік!
Бабуля козьліка
Дужа любіла.
Вось як, вось як,
Дужа любіла!
Уздумалася козьліку
У лес пагуляці.
Вось як, вось як,
У лес пагуляці!
Напалі на козьліка
Шэрые ваўкі.
Вось як, вось як,
Шэрые ваўкі!
Пакінулі бабулі
Рожкі, ды ножкі!
Вось як, вось як —
Рожкі, ды ножкі!

1932, Даўгаупілс. В. Сахарава з дзіцячых успамінаў.

## № 210.

Як і быў у нас казёл,
Ён і вумны быў,
Ён і па ваду хадзіў,
Ён і кашу варыў,
І дзеда з бабай карміў.
Як пайшоў наш казёл у лес,
Напалі на яго роўна семяра ваўкоў,
Як і былі нашы ваўкі голодны,
Як хвацілі казла папярок бачка —
Куды рожкі, куды ножкі,
Куды ўвесь казялок!

1938, Краслава. ад Віктара Панкіна, 11 год.

## 5. Вясельныя песьні.

Найбольш моцна і поўна сярод Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў захаваліся старадаўнія абрады і звычаі, зьвязанныя з вясельлем.

Кожны момант беларускага вясельля апаэтызаваны, з кожным момантам зьвязана, акрэсьленая дзейнасьць і сваё значаньне, усё прадумана і асьвячона традыцыямі. Некаторыя звычаі прасякнуты такім глыбокім пачуцьцём, што выклікаюць ува ўсіх сьлёзы, напрыклад, абрад расчосываньня касы, развітаньне з бацькамі і з роднай хатай.

Народ верыць, што чым больш выканана асьвячоных вякамі звычаяў на вясельлі, тым шчасьлівей будуць маладыя ў сваім жыцьці. Гэтым, а таксама каханьнем да свайго роднага быту, і тлумачыцца жывучасьць сярод беларусаў вясельных абрадаў і вясельных песень. *) У Латгаліі і Ілукстэнскім павеце кожнае беларускае вясельле і дагэтуль ладзіцца з выкананьнем шэрагу вясельных абрадаў і песень, у адных вёсках — больш падрабязных, у другіх — скарочаных.

Многія беларускія жанчыны ў Латгаліі і Ілукстэнскім павеце зьяўляюцца прафэсыйнымі сьпявачкамі ў сваей ваколіцы, яны-ж з'яўляюцца і руплівымі ахоўніцамі старадаўніх традыцый. Ад гэтых жанчын мною і запісана беларускае вясельле ў ягоных галоўных момантах. **)

У старыя часы, як вядома, пры жаніцьбе сына, і асабліва дачкі, галоўную ролю мела воля бацькоў, якія кіраваліся найбольш эканамічнымі матывамі. Таму раней бацькі сваталі свайму сыну мала знаёмую, ці нават зусім незнаёмую, дзяўчыну, каб толькі мець добрую працаўніцу для сваей гаспадаркі. У сучасную пару жаніцьба адбываецца, ў большасьці выпадкаў, па ўзаемнай згодзе маладых.

Моладзь знаёміцца на вечарынках, кірмашох і г. д., прыглядаецца адзін да аднаго і, пры узаемнай сымпатыі, вырашае лёс свайго далейшага жыцьця. Але, зразумела,

---

*) Адных вясельных песень у Латгаліі і Ілукстэншчыне запісана мной і маімі супрацоўнікамі каля 400, мы ж абмяжуемся тутака зьмяшчэньнем толькі найбольш папулярных і характэрных песень.

**) Нарыс беларускага вясельля мной складзены як на грунце ўласных назіраньняў, гэтак і на грунце апавяданьняў: Гэлены Сімачыхі і Ксеніі Воранавай — з Краславы, Анэлі Гвозд і Марыі Наваенкавай — з Ілукстэнскага пав., ды Марыі Скершкан-Варонка — з Краслаўскай воласьці. Шмат каштоўных зьвестак аб беларускім вясельлі мною атрымана ад ксяндза-беларуса а. Язэпа Гайлевіча, які доўгі час працаваў у Бальбіноўскім касьцеле каля Індры і блізка назіраў жыцьцё беларускага селяніна.

бяз згоды бацькоў з аднаго і другога боку, маладыя ня могуць абыйсьціся і зараз, а таму справа пачынаецца са сватаўства.

Для пачатку сватаўства абіраюць людзей старэйшых, паважаных і бойкіх на язык, блізкіх жаніху, найчасьцей— хроснага бацьку, або дзядзьку, якіх і запрашаюць за сватоў.

Сваты бяруць гарэлку, хлеб, кавалак сала і, разам з жаніхом, едуць, звычайна пад вечар, у хату да намечанае дзяўчыны.

Дзяўчаты-нявесты аб часу прыезду такіх гасьцей раней ужо ведаюць і рыхтуюцца да гэтага: прыбіраюць хату і самі прыбіраюцца.

Як толькі ў хаце дзяўчыны пачуюць званкі, якія абавязкова бываюць падвязаны да дугі каня ў сватоў, гаспадары беруцца за якую-колечы працу, а нявеста хаваецца ў камору.

Сваты уваходзяць у хату і пачынаюць гутарку алегорычнымі выказамі. Яны з'яўляюцца пад выглядам падарожных, заблукаўшыхся людзей, а гаспадары робяць выгляд, што іх зусім ня ведаюць.

Адбываецца прыблізна гэткая гутарка.

С в а т. Выбачайце!—Мы доўга блукаліся, ехалі цераз рэчку! Пусьціце нас пагрэцца, дужа зьмерзьлі рукі і ногі.

Г а с п а д а р. А адкуль вы?

С в а т. Мы — нятутэйшыя, а замежныя.

Г а с п а д а р. Па якіх-жа вы справах прыехалі?

С в а т. А вось мы езьдзілі ўлетку і бачылі, як тут расла кветка. Мы жадаем яе сашчыпнуць

Г а с п а д а р. Сядайце, добрыя людзі! — Пагутарым, як гэту кветку сашчыпнуць.

С в а т. Пакажце нам тую кветку, якая тут расла ўлетку.

Калі сват па ходу гутаркі бачыць, што справа йдзе да ладу, дык кажа жаніху (маладзенцу): „Стаў гарэлку на стол і пачнем бяседу“!

Жаніх выймае гарэлку і ставіць яе на стол.

Тады бацька нявесты зварачываецца да сваей жонкі і кажа: „Ідзі, строй перакуску!“

Гаспадыня йдзець да печы і жарыць яешню з салам, ці кіўбасы.

Жаніх тады запрашае сястру нявесты: „Пойдзем шукаць кветку!“ І йдуць у камору, дзе сядзіць нявеста, чакаючы жаніха. Жаніх падыходзіць к нявесьце, вітае яе і запрашае ў кумпанію. Вячэра ўжо гатова і ўсе садзяцца за стол.

У час вячэры сват расхвалівае якасьці жаніха, яго сямейку, гаспадарку, а потым зьвяртаецца да нявесты:

„Ці згодна ты, Ганулька, пайсьці за нашага Пятрука? Хлапец ён—ладны, старанны, будзеце жыць добра!"

Дзяўчына, звычайна, ухіляецца ад адказу і кажа: „На чым бацька з маткай пастановяць, на тым і я згодна!"

Бацька і матка, калі нічога ня маюць супроць выхаду замуж сваей дачкі, адказываюць свату: „Дык што-ж? — Ні за намі! — Калі адзін аднаму падабаюцца — і мы к таму! Няхай з Богам жывуць!"

У некаторых мяйсцовасьцях Ілукстэнскага павету, па тлумачэньню сьпявачкі Анэты Гвозд, раней нявеста давала сваю згоду крыху інакш.

Калі дзяўчына выходзіла к сватам, дык яна йшла навокал столу і прыгаварвала некалькі разоў: „Хачу—скачу! Хачу—не!"

Сват выстаўляў палу сваей сярмягі і казаў: „Скоч, дачанька, да мяне!"

Калі яна была згодна, то падыходзіла да свата і цалавала яму руку. Тады сват браў яе за руку, вёў да маладога і садзіў побач з ім за стол.

Калі-ж нявеста ня была згодна, то йшла да свата, а потым — за дзьверы. У такім разе сват з жаніхом бралі шапкі ў рукі і—таксама за дзьверы.

У тым выпадку, калі дасягнута згода, усе сядаюць выпіваць і закусываць, а потым заклікаюць хросных бацькоў нявесты, яе родных, моладзь і музыку, і гуляюць „заручыны". Пачынаюцца скокі і сьпяваюць песьні. Старэйшыя ў гэты час высьвятляюць пытаньні аб пасагу, прызначаюць дзень вясельля і г. д.

У ранейшыя часы, калі маладыя былі мала знаёмы, ці зусім незнаёмы і калі вялікую ролю грала воля бацькоў, адрожніваліся ў сватаўстве два моманты:

1) „выгледзіны" („узгледзіны", „начын"), ці сватаўство „з малай водкай", або—„малыя запоіны", і

2) „запоіны з бальшой водкай", ці „заручыны".

У першым выпадку бацька жаніха, адзін ці з сватам, езьдзіў да нявесты, каб бліжэй пазнаёміцца з сям'ёй ў хатняй абстаноўцы; нікога з чужых тады ня бывае. У другім выпадку, сватаўство „з бальшой водкай" адбываецца ў прысутнасьці запрошаных родзічаў, хросных і знаёмых. Тут адбывалася афіцыйнае, абвешчаньне маладых жаніхом і нявестай і яны абменіваліся кольцамі.

Пасьля гэтага бацькі нявесты ў сваю чаргу езьдзілі ў хату жаніха з мэтаю паглядзець гаспадарку маладога і пазнаёміцца з сямейнымі ўмовамі, у якія трапіць іхняя дачка. Бывалі выпадкі, што бацькі нявесты, пасьля такога агляду, адмаўлялі жаніху, калі бачылі няспрыяючыя умовы будучага жыцьця для сваей дачкі. Тады яны, згодна звычаю, павінны былі зьвярнуць выдаткі сватом жаніха.

„Вясельле“ найчасьцей прызначаецца ў трэцьцюю нядзелю пасьля „заручынаў“. Гэта робіцца з тою мэтаю, каб прайшоў неабходны час для трох агалошаньняў, „запавядзей“, ў царквы ці касьцёле, а таксама каб даць магчымасьць падрыхтавацца да вясельля жаніху і нявесьце. К нявесьце ў гэты час прыходзяць яе сяброўкі дапамагаць шыць бялізну, падвянечную вопратку і падрыхтаваць падарункі. Працуючы сьпяваюць.

У чацьверг перад вясельлем да нявесты прыежджае жаніх і прывозіць ей у падарунак „чаравічкі“, яна-ж яму аддарывае кашулю, вышытую яе ўласнымі рукамі. Разам яны едуць запрашаць на „вясельле“ родных і знаёмых. Звычайнай формулай запрошаньня зьяўляюцца словы: „Просім Бога ды і вас, будзьце ласкавы, прыдзіце на вясельле да нас!“

Вясельле па беларускаму звычаю павінна грацца багата і вясёла, не дарма-ж яно завецца—„вясельле“. Таму вясельле ладзіцца, галоўным чынам, восеньню ці ў зімні мясаед, калі хлеба хапае і можна закупіць усё неабходнае для вясельнага пачастунку.

Звычай такі, што вясельле пачынаюць гуляць у суботу, наконадні шлюбу ці вянца. Зраньня ў гэты дзень і ў хаце нявесты і ў хаце жаніха пякуць каравай, як старадаўні сымболь сонца і шчасьця. Асабліва урачыста абстаўляецца гэта ў хаце нявесты. Да яе зьбіраюцца баяркі, якія дапамагаюць маладухе печ каравай. Пад нязмоўкныя сьпевы ставяць і замешываюць цеста.

Каравай аздобліваецца вылепленымі з цеста шышкамі, фігурамі птушак і зьвяроў. Чым лепш удаецца каравай, тым шчасьлівей будуць маладыя.

Пасьля заходу сонца нявеста прыходзіць з лазьні. У хаце ўжо зьбіраюцца людзі, непрошаныя госьці, якіх жартоўна завуць „гогісы“ *). З'яўляюцца музыканты і пачынаюць йграць **), а сабраўшыяся скачуць і сьпяваюць жартлівыя песьні, як напрыклад:

№ 211.

Пойдзем мы на вясельле маладуху дарыць
І вып'ем мы па румцы водкі
І па дзьве шклянцы піва.

---

*) „Гогісы“ — ад слова „гагатаць“, бо „гогісы“ ў хаце „гагочуць —як гусі“.

**) Звычайнымі музыкальнымі інструмэнтамі ў беларусаў з'яўляюцца: цымбалы, скрыпка, гармонь, флейта і бубён. Раней на вясельлях і на ўсіх вечарынках былі жаданымі гасьцямі дудары, з нацыянальным беларускім інструмэнтам „дудой“, але ігра на дудзе з мяхом больш цяжкая, чым на скрыпцы, цымбалах да гармоні, а таму апошнія інструмэнты выціснулі старасьвецкую дуду.

Тады мы будзем госьці прынятыя
І будзем сьмела гуляць.

1937, Прiэдайне (б. Прыстань) ад М. Наваенкавай.

К гэтаму-ж часу ў хату нявесты паступова зьбіраецца яе „дружба“: баяркі, надкосьнікі, сват са свацьцяй і хросныя. Калі ўсе сабраліся, брат нявесты нясе ў хату хлебную дзяжу, як сымболь пладародзьдзя і багацьця, абарачвае яе пасярод хаты, кладзе на ея падушку ці вывернуты кажух і садзіцца на яе. Сват і баяркі нясуць на талерцы вянок, зроблены з мірты ці руты, падыходзяць да нявесты і вядуць яе да дзяжы. Брат устае, нявеста кланяецца яму ў ногі, цалуецца з ім і ён садзіць нявесту на дзяжу.

Дзьве старэйшыя баяркі расплятаюць і рашчосываюць валасы, убіраюць галаву нявесты і ускладаюць ей вянок.

Нявеста плача, падыходзе да бацькі і маці, нізка кланяецца, цалуе ім рукі, разьвітваецца з імі. Жанчыны ўвесь час сьпяваюць песьні, у якіх малюецца будучае нялёгкае жыцьцё маладой.

№ 212.

А ў нядзелю рана сіня мора грала,
Дзеванька з мамкай размаўляла:
— Маманька, мая родная!
— Вылей ваду з мора,
— Вывядзі мяне з гора!
„Дзіця, мае дарагое!
„Ня вылію вады з мора,
„Ня вывяду цябе з гора!“

1930, Саланайская вол. В. Воранаў ад сваей маці Ксеніі.

№ 213.

Кукавала зязюля ў садочку,
Прыхінуўшы галоўку к лісточку:
— Сіза мае пер’ечка, сізенька—ў садочку,
— Ня будзіць такое ў барочку!
Плакала Ганначка ў сьвятліцы,
Палажыўшы ручкі на белы стол:
— Белы мае ручкі—ў мамкі,
Ня будуць такія ў сьвякроўкі..

1929, Ляудэры. А. Лапчонак ад Н. Прынц.

№ 214.

Баравая зязюленька,
Што ня гулка кукуеш?
— Хоць я гулка кукую,
— Ды ня чуць за гарамі,
— За цёмнымі лесамі,
— За шэрымі салаўямі.

Маладая Ганначка,
Што няжаласна плачыш?
— Хоць я жаласна плачу,
—Ды нячуць за іграньнем,
— За жаноцкім пяяньнем.

1929, Ляўэдэры. Г. Лапчонак ад Е. Прынц.

№ 215.

Падумай сабе, ці ня жаль табе, Анэлічка?
Пры кім сваю родную мамухну кідаеш?
Ды хто-ж ей белы ножанькі разуець?
Ды хто-ж ей мягку пасьцельку пасьцеліць?
— Ды я кідаю пры ей меньшую сястрыцу,
— Тая ей белы ножанькі разуець,
— Тая ей мяккую пасьцельку пасьцеліць.

1936, Баркевічы. ад А. Кобзар.

№ 216.

Кругло мае балоцічка,
Там хадзіла маладзічка,
Ды сеяла красу сваю,
Красу сваю, зялёную рутачку.
— Расьці, расьці, краса мая.
— Тонка, высока, караністамі—глыбокая,
— Лісточкамі—шырокая!
— Як буду я ў мамачкі —
— Я цябе палоць буду.
— Як дастануся сьвякроўкі—
— Дык я цябе за карэнь вырву,
— І цераз тын перакіну:
— Хай цябе валы зьядуць!
— Няхай цябе коні стопчуць!

1929, Ляудэры. Г. Лапчонак ад Е. Прынц.

№ 217.

Пры вуліцы, далінаю, стаіць вярба з калінаю.
„Пастой вярба, не шатайся, з маладой дзяўчынай размысляйся!“
— Ды ужо ў мяне размышлена, ды ўжо ў мяне разчысьлена:
— Айца з маці пакідаці, з мілым другам паежджаці.
Еду поле і другое, уз'яжджаю на трэцьцяе:
— Паслухайся ты, мой мілы, ці зязюля там кукуець?
— Ці заловішча там вітаець?
„Ні зязюля там кукуець, ні заловішча вітаець —
„Родна мамка тужыць, плачыць па сваей роднай дзіцяці:
— Ці я цябе не расьціла, ці я цябе не пясьціла?
— І расьціла, і пясьціла, цёмнай ночкі не даспала,
— Яснай сьвечкі не згасіла—перамены усё чакала.
— Ото-ж твая перамена: чужога бацькі, чужой маткі,
— Чужога бацькі—пасьцельніца, чужой маткі—верніца.

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 218.

Чырвона рожа вышэй тыну стаяла,
На яе раса пала сьцюдзёная.

— Вячэрняя заранчка, ці ня цяжанька табе
— З месяцам разлучыціся?
„Я туманам апушчуся, расой аблюся,
„З сонейкам разыйдуся, з месяцам спаткаюся".
— Маладая дзеванька, ці ня тошненька табе
З матулькай разлучыціся, з сьвякроўкай спаткаціся?
— Я сьлязой абальюся, касой абатруся,
З матулькай разстануся, з сьвякроўкай спаткаюся.

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 219.

Зборная субота настала,
Ганулька дзяўчат зьбірала.
Сабраўшы—у радочак сажала.
Сама села, малада, вышэй усіх,
Скланіла галоўку ніжэй другіх:
— Бывайце-ж, дзяўчаты, бывайце!
Не на адну ночку—на ўвесь век!

1930, Юраны. З. Чэкель ад сваей маці.

№ 220.

Ішла Ґанулька з поля,
Нясла Ганулька рутаньку—з трох палёў.
Уе вяночак пры стале і пакаціла па стале,
Па бялюсенькім абрусе:
— Каціся, вяночак, каціся!
— Матульцы ў ножкі валіся!
— Перайми, матулька, вяночак!
— З руты-лілеі вяночак!

1929, Кісялёўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапіліхі.

№ 221.

У каморцы Марылька ўмывалася,
Свайму беламу лічыку дзівавалася:
Ды якая яна бялюсенькая
У роднай мамухны,
Ды ці-ж будзе яна такая бялюсенькая
У чужой мамухны?

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 222.

Ляцелі гусачкі—ня гаркалі,
Толькі адна гусанька загаркала.
Сядзелі дзевачкі—ня плакалі,
Толькі адна Марылька заплакала.
Дачула яна свёкарку—ды ня татаньку,
Чула яна дзевяркоў—ды ня брацітнаў,
Чула яна заловак—да ня сястрыц.

1930, Пугачы. А. Маслоўскі ад В. Куксінскай.

№ 223.

Не жалеіць мяне татка, не жалеіць мяне мамка:
Рана замуж аддаюць!
Не даношана краса, не дарошчына каса:
Дарасьціць касу — чужы татанька,
Даносіць красу — чужа сястрыца.

1923, Ракшына. С. Шаўцоў ад Г. Жыбінкавай.

№ 224.

Пад гарой, за ракой, вішанька расла,
Ды пад тэй вішанькай малада Марылька касу часала.

(Зачын, якім пачынаюцца кожныя тры радкі).

Прыйшоў да яе родны татухна—дадому завець:
— Марылька, дочухна, пойдзем дадому!
„Цёмная ночка, гразна дарожка—не пайду з табой!"
Прыйшла да яе родна матухна—дадому завець:
— Марылька, дочухна, пойдзем дадому!
„Цёмная ночка, гразна дарожка—не пайду з табой!"
Прышла да яе родна сястрыца—дадому завець:
— Марылька, сястрыца, пойдзем дадому!
„Цёмная ночка, гразна дарожка—не пайду з табой!"
Прыйшоў родны брацетка — дадому завець:
— Сястрыца, Марылька, пойдзем дадому!
„Цёмная ночка, гразна дарожка—не пайду з табой!"
Прыйшоў да яе малады Янaчка—дадому завець:
— Мілая Марылька, пойдзем дадому!
„Відная ночка, суха дарожка—я пайду з табой!"

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 225.

Баярачкі, вы спадманачкі мае,
Спадманулі маладзеньку вы мяне!
Казалі: „Пойдзем у садочак вянкі віць!
„А ты пойдзеш у новую каморку чапец шыць;
„Мы пойдзем у садочак вянкі давіваць,
„А ты пойдзеш ў нову каморку чапец дашываць".
Сабе зьвілі з руты *), мяты, з лялеі,
А мне зьвілі з калючага ельнічку:
Ельнічак коліць, галоўку да зямлі клоніць.

1937, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 226.

Ляцела зязюля цераз сад, прасіла нявесту на пасад.
— Што табе, зязюля, да таго, да вечара майго?
Каціласа ягадка з узгор'я,
Прасілася малада з-за столу:

---

*) У старыя гады з мірт ня вілі вянкоў, а з руты. Гэта расьліна пахожа на мірту і расьце па садох каля плоту. У народнай мэдыцыне рута — добрае зельля пры хваробах сэрца.

— Пусьціце мяне па надвор'ю хадзіць:
— Хоць я па вашым па надвор'ю пахаджу,
— Хоць я ваша панадвор'е пакра́шу,
— Хоць я вашы руты-лялеі пагляджу.
„Была табе суботанька на тот дзень —
„Нада была па надвор'ю хадзіць
„І руту-лялею глядзець!"
— Ці ня можна, мой татулька, адмовіць?
„Ня можна, маё дзіцятка, адмовіць —
„Тыя госьці прыедуць, што узяць."
Зайшло сонейка за горачку,
Села дочанька за столічак,
Кінула, рынула ключы на стале:
— Я табе, татанька, ня ключніца, ня верніца,
— Ключніца-верніца свайму Юзенькі!

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

Калі нявеста—сірата, дык сьпяваюць дужа разчуляючыя па свайму зьместу і сумныя па напеву **с і р о ц к і я** песьні, у час якіх нявеста плача, а за ей і прысутныя.

№ 227.

Ляцела зязюля цераз сад.
Ой рана, рана! (Прыпеўка пасьля кожнага радка).
Убіралася дзеванька на пасад.
Станьце, госьцікі, ў радок,
Прышпіліце (Ганульке) вянок!
Вось ейная галоўка ў вяночку,
Нет ейнай маманькі ў радочку!
Вось ейная галоўка ў квеці,
Нет ейнай маманькі на сьвеце!

1930, Саланайская вол. В. Воранаў ад сваей маці.

№ 228.

Зялёная дубровухна,
Ды што ў цябе дуб'я мала?
Зялёнага—ніводнага,
Ды некаму пашумець,
Дубровухну зьвесяліць!
Ты, Ганначка-сіротынька!
Ды што ў цябе мамак многа?
А родненькай—ніводнай,
І к сталу ня прыходзяць.
Калі і прыносяць багаслаўленьне,
Дык не ад шчырага серадзеньня:
Як дзіцятка—няміла
І багаслаўляюць няшчыра!

1924, Церахава. ад Зосі Лапацёнак

№ 229.

Ну чыя-ж там мамухна пад крыжом палажона,
Тром замочкам замкнена?
(Каціна) мамухна пад крыжом палажона
Тром замочкам замкнёна.
Першы замочак — зялёненькі гаёчак,
А другі замочак — жоўты пясочак,
А трэці жа замочак — грабавая дасочка.
Ну чыя-ж там мамухна, пад крыжом палажона,
З Госпадам-Богам размаўляла:
— Мой Божанька, збавіцелька!
— Спусьці з неба на землю,
— Сваю дзіцятку паглядзець:
— Ці на куце пасажона?
— Ці па сіроцкаму прыбрана?"
Атазваліся анёлы, што мы ўчора там былі,
Тваю дзіцятку відзелі:
Па сіроцкаму прыбрана,
На куце пасажона
І доляй-шчасьцям надзялёна.

1931, Беляі. А. Хруцкая ад Ю. Транінкавай.

№ 230.

За лесам, лесам — сонейка сыходзіць,
Ой рана, рана — сонейка сыходзіць!
Сонейка сходзіць, — (Мар'яна) выходзіць.
Ой рана, рана — (Мар'яна) выходзіць!
(Мар'яна) выходзіць—у Бога долі просіць.
Ой рана, рана—у Бога долі просіць!
„Божа-ж мой, Божа, прыдзі на васэлю!"
Ой рана, рана—прыдзі на васэлю!
Я сам ня буду—анёлаў прышлю!
Ой рана, рана—анёлаў прышлю!
— Анёлы-ж мае цябе надзеляць!
Ой рана, рана—цябе надзеляць!
— А я сам буду ў панядзелак рана.
Ой рана, рана—у панядзелак рана
— У панядзелак рана—цябе багаслаўляці.
Ой рана, рана—цябе багаслаўляці!
Цябе багаслаўляці—долі-шчасьця даваці.
Ой рана, рана—долі-шчасьця даваці!
З Богам дзіцятка, з Богам роднае!
Ой рана, рана—з Богам роднае!

1933, Путанава. С. Казэка ад А. Васілеўскай.

№ 231.

Хата—багата, расход—вялікі, парадухну—нет.
— Ганначка маладая, пашукай салаўя,
— Дробнаю пташачку, і пашлі за таткай!

Салавей лятайіць, к зямлі прылягайіць
І татку пабужайіць:
„Устань, татухна, устань, родненькі!
„Ні ляжы!—сіроцкай бяседы памажы!“
— Чую, Ганначка, чую, дзіцятку! — устаць ні магу!
— На тое ў цібе ёсьць родная мамка:
— Хай надзеліць-багаславіць і за мяне!

1929, Ляўдэры. Г. Лапчонак ад Н. Прынц.

№ 232.

Уступіла (Юзэфка) на парог,
Махнула хустачкай напярод:
— Разступіся, ўвесь народ!
— Буду сваей родзінкі кланяцца
— І буду свайго татулю цяміцца.
Усю сваю радзінку прайшла —
Роднага татульку ні знайшла.
— Галоўка мая—ў вяночку,
— Німа майго татачкі ў дамочку!
— Голоўка мая—ў цьвеці,
— Няма майго татачкі ў сьвеці!

1925, Айзупе (б. Зарэкі). М. Талерка ад А. Гэндаль.

№ 233.

Нету, нету маладой (Ганначкі) у доме—
Пайшла яна да пана Бога па татку.
Стаіць гадзінку, стаіць другую,
Пакуль адчынюць Боскія дзьверы анёлы,
Пакуль выпусьцяць татульку на волю.
— Ці стой, ня стой, младая (Ганначка), пры дзьвярох,
— Да твой татулька ў тры замочкі замкнёны!
— Першы замочак — траўка-мураўка парасла,
— Другі замочак — жоўты пясочак пасыпан,
— Трэці замочак — дубовы дошкі сьціснёны.
„Ды я-ж тую траўку-мураўку пакашу,
„Ды я-ж тыя жоўтыя пяскі разнясу,
„Ды я-ж тыя дубовыя дошкі пашчаплю,
„Да я-ж сваяго роднага татульку разбуджу!“

1931, Дразды. Яз. Клагіш ад Г. Маісей.

№ 234.

Хадзіла сіротка па садочку,
Прытаптала чорную сьцежку, ходзячы,
Свайго татульку будзячы.
„Устань, устань, татульку, не ляжы!“
— Рад быў-бы ўстаці, парадачак даці, але не магу:
— Дубовыя дошкі сьціснулі ножкі — не магу крануць,
— Жалезныя цьвячкі сьціснулі бачкі — не магу ўстаці,
— Сырая зямля на грудзі ўзьлягла—не магу ўздыхнуці,

— Жоўты пясочак засыпаў вочы — не магу праглянуці,
— Залажыліся чуткія вушкі—не магу я больш чуць,
— Счапіліся белыя ручкі—не магу расчапіць,
— Прызамкнуліся дубовыя дзьверы — не магу адчыніць,
— Траўкай-мураўкай зарасьлі сьцежачкі—не магу я прайсьці.
— Дык рад быў-бы ўстаці, парадачак даці—але не магу! *)

1928, Даўгавіешы (б. Прыдруйск). В. Пашкевіч ад сваей бабулі.

№ 235.

Узьніміцеся, буйны вятры, на моры!
Разьнясіце жоўты пясочак па полю,
Пакрышыце дубовы дошкі на крошкі,
Ды падыміце маю матульку на ножкі!

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

Абрад пасаду на дзяжу і да гэтага часу ў некаторых мяйсцох захаваўся, але ў большасьці ён замяняецца простым убіраньнем нявесты за сталом к прыезду жаніха і прысьцёгіваньнем вянка; часта нявесту для ўбіраньня садзяць на разасланы кажух.

Закончыўшы ўбіраньне нявесты, вядуць яе з хлебам-сольлю ў асобную камору, дзе яна і чакае прыезду маладога. Госьці забаўляюцца скокамі, гульнямі і сьпевамі.

№ 236.

— Ды жаль мáю, мой татулька, на цябе,
— Што ня знасіла лісавай шубы я ў цябе!
„Ай знасіла, маё дзіцятка, знасіла! —
„За гульнёю, за красою—забылася!“
— Ды жаль мáю, мая матулька, на цябе,
— Што ня знасіла тонкай кашулькі я ў цябе!
„Ай знасіла, маё дзіцятка, знасіла!—
„За гульнёю, за красою—забылася!“
— Ды жаль мáю, мой брацітка, на цябе,
Што ня з'ездзіла варанога коніка я ў цябе!
„Ай з'ездзіла, мая сястрыца, з'ездзіла! —
„За гульнёю, за красою—забылася!
— Ды жаль мáю, мая сястрыца, на цябе,
— Што ні знасіла з руты вяночка я ў цябе!
„Ай знасіла, мая сястрыца, знасіла!—
„За гульнёю, за красою — забылася“!

1929, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей мацi.

---

*) Варыянты сіроцкіх песень яшчэ запісалі: Яз. Кірстук—у в Якубава, С. П. Сахараў—у в. Скершканы і у в. Церахава, В. Гвозд—на хут. Бруніпіэкі, І. Ігнатовіч—у в. Іоніны, П. Пансуевіч—у в. Фермы, П. Міpановіч—у в. Стрымкі, Б. Станкевіч—у в. Станкевічы і Э. Казакевіч—на хут. Шмілгава.

№ 237.

Кукавала зязюлька ў барочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку:
— А хто мае яечкі пабярэць,
— Хто маё гнёздачка разаўець?
„Пабяруць яечкі вераб'і,
„Разаўюць гнёздачка салаў'і!"
Плакала (Ганулька) ў сьвятліцы,
Прылажыўшы галоўку к сястрыцы:
— А хто маю косаньку разпляцець,
А хто мае стужачкі пабярэць?
„Разплятуць косаньку брацяткі,
„Пабяруць стужкі сястрыцы!"

1929, Даўгавіэші (б Прыдруйск). С. Караткевіч ад сваей маці.

№ 238.

Ай, едуць сваты, едуць!
Едуць недалечка, толькі за ляском:
Ружжы заражаюць, перапёлак страляюць,
Перапёлкі—ў юшку, пер'я—ў падушку,
Юшку хлябаць, на падушцы спаць.

1927, Бартулі. М. Талерка ад Т. Сардыкі.

У той-жа самы час у хаце маладога йдзе падрыхтоўка к ад'езду да нявесты. Дружба жаніха садзіцца за стол, віюць маленькі вяночак для нявесты з мірты, ці руты, *) сьпяваюць песьні, потым моляцца Богу і багаслаўляюць жаніха.

№ 239.

Спяваюць, віючы вянок.

На тым, на сім круты-віты вяночак.
А, хто яго, гэты вяночак увіваў?
Увівала яго родная сястрыца,
Пры цёмнай ночкі, пры яснай сьвечкі сядзючы!
Ды вакол усё зьвяздою увівала,
У сярэдзіну зараначку ўвінула:
— Сьвяці, сьвяці, зараначка, да канца!
Каб заехаў цёмнай ночкай да вянца!

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

*) Для нявесты, гэткім чынам, робіцца два вянка: адзін застаецца ў яе на галаве ў суботу, а другі, меньшага памеру, ад жаніха ускладаецца на галаву нявесты ў нядзелю, калі зьбіраюцца ехаць да вянца.

## № 240.

### Сьпяваюць пры надзяленьні маладога.

У Дунаі вады многа —
Дзе тая вадя падзявалася?
Па крутым беражкам разьбяжалася!
Казалі: „У (Алеські) радні многа!“
Дзе-ж тая радня падзявалася?
Па цёмных куточках пасхавалася!
Казалі: „У (Алеські) радні—многа!“ —
Як сталі надзяляць — няма нікога!

1935, Ляудэры. Б. Юрэвіч ад Е. Прынц.

## № 241.

### Калі ў жаніха памёр бацька.

Па сеням, сеням, па новым сеням,
Там (Робертка) ходзіць, роднаго татухну будзіць:
— Устань, татухна, устань родны, парадухну дай!
— Хата – багата, расход—вялікі, парадухну—няма!
„Чую, (Робертка), чую дзіцятка!—Не магу ўстаці!
Грабовы дошкі сьціснулі ножкі,
Чорная смага на губы стала—не магу прагаварыць,
Жоўты пясочак засыпаў вочкі—не магу праглянуць,
Зялёны гаёк на грудцы лёг—не магу ўстаці!
З Богам, (Робертка), з Богам дзіцятка і з Прачыстай Мамкай!
Хай багаслаўляюць, хай надзяляюць
Цёткі ды дзядзькі, ды хросная мамка!“

1923, Церахава. А. Лапацёнак ад сваей маці.

## № 242.

### Калі жаніх ад'ежджае да нявесты.

Куды, куды, мой салавейка, паляціш?
— Я палячу цераз тры бары ў зялёны сад,
— Там мяне ўсе пташачкі любілі:
— Сьцюдёнаю вадзіцаю паілі,
— Рожнымі ягадкамі кармілі,
— На вылетаньне шэрую зязюлю дарылі!
Куды, куды, малады Ясенька, паедзеш?
— Я паеду цераз тры вёскі ў трэцці двор,
— Ды там мяне ўсе дзеванькі любілі:
— За столічак, за дубовенькі садзілі,
— Ды салоткімі напіткамі паілі,
— Ды рожнымі стравамі кармілі,
— На ад'ежджаньне маладу (Анэтку) дарылі! *)

1936, Бруніпэкі. ад А. Гвозд.

---

*) Ворыянты гэтае песьні яшчэ запісаны: Антонам Ворславым і Т. Бартулем—у в. Кісялёўцы і Яз. Кірстукам - у в Якубова.

№ 243.

Зялёны явор па панадвор'ю сьцеліцца,
Малады (Стасенька) ў дарожаньку строіцца.
Да выбраў ён сабе сваціцу—пяюху,
Да выбраў ён сабе скрыпачку—ігруху,
Да выбраў ён сабе шэсьць малойчыкаў маладых
І паехаў ён да (Бронічкі) ў сваты.
Ехаў ён чатыры мілі барамі,
А пятую зялезнымі мастамі,
А шостую зялёнымі садамі,
А сёмую к цясьцю на двор.
Цясьцю—ў ногі, а цёшчухны—мёду.
Скоранька з варана каня садзіцца,
Сваей цёшчvхны ў ногі кланіцца.

1937, Даугаўпілс, Ругелі. ад А. Шыліхі.

№ 244.

Лятаў салавей каля саду,
Пытаўся ў зязюлі: „Дзе ў сад ляцець?"
— Салавей, дурнінькі, неразумнінькі,
— Расхіні вінаград і ляці ўсад!
— Ляці ў сад, ляці у сад клюй ягады!"
Езьдзіў малойчык кала двара,
Пытаўся ў дзяўчыны: „Дзе на двор ехаць?"
— Малойчык малады, малады і разумны,
— Адчыні вароты і едзь на двор!
— Едзь на двор і зайдзі ў наш дом:
— Цётчухны, матухны—нізкі паклон,
— Маладой Ганначкі—добры вечар!

1930, Ляўдэры. Г. Лапчонак ад Е. Прынц.

№ 245.

За лесам, за лесам—сонейка йграіць.
Ой, рана, рана! (Прыпеўка пасьля кождага радка).
Там жа Ванічка коніка сядлаіць,
Сьлёзанька плачыць і цяжанька ўздыхаіць.
Прышла мамухна ў яго пытаіць:
„Чаго, Ванічка, чаго дзіцятка,
„Слёзанька плачыш, цяжанька ўздыхаеш?"
— Як мне ня плакаць, як мне ня ўздыхаць!
— Бяру паненку не к сабе раўненьку:
— Ні к людзям прыстойна,
— Ні к сям'е прылежна.
„Ні плач, Ванічка, ні плач, дзіцятка!
„У нас пабудзіць—такая будзець,
К людзям прыстанець—такая станець!" *)

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

---

*) Варыянты гэтае песьні запісалі: П. Лябёдка — у в. Дайлідава, Я. Кірстук—у в. Сіленэ.

№ 246.

Да-й хто там вылятаіць, да-й з зялёнага гаю?
Саколік вылятаіць з зялёнага гаю!
Да і ён сам—малюсенькі, на ім пер'е—драбнюсенька.
Да-й хто там выяжджаіць з багатага двору?
Да ён сам—маладзенькі, яго конік—вараненькі,
Да ён сам—як мак цьвіціць, яго конік—як жар гарыць,
Да ён сам—у аксаміце, яго служкі—ў атласе,
Ён сам—за столікам, яго служкі—пры століку,
Ён сам—мёд-віно п'ець, яго служкі—гарэліцу.

1935, Сіленская вол. Яз. Кірстук ад Г. Корзан-Паршута.

№ 247.

Ні сядзі (Яначка), ні сядзі за столікам!
Ідзі, (Яначка), ў стаіньку!
Вазьмі коніка за муздзяньку,
Выцірай коніка палою,
Абмывай коніка сьлязою:
— Ох ты, конь мой, сівы конь!
— Ці надзеісься, мой конь, на сілу?
— Ці падніміш маю дружыну
— Што й на тую гару крутую,
— Што у тую царкву сьвятую?
— Там даўно мяне чакаюць,
— Райскі дзьверы адчыняюць,
— Ясны сьвечы зацяпляюць! *)

1932, Рыўцаны. С. Сьлядзеўскі ад сваей мацi.

№ 248.

„Ой, кось, мой кося! Чаму смутны невясёлы?
„Ці-ж я табе цяжак, ці-ж сядзёлка залатое?"
— Ні ты мне—цяжак, ні сядзельца залатое!
— Ой, цяжка мне, цяжка — гэта цёмная ночка, гразная дарожка:
— Ты сам сядзеш—за столікам, мяне прывяжаш—ля коліка.
— Ты п'еш він-мядочак, а мне нету саломенкі.
— А як сядзеш-паглянеш—на мяне і не падумаеш,
— А я бягу, пабегаю, твой сорам пакрываю!

1931, Дразды. Яз. Клагіш ад Г. Маісей.

№ 249.

Пад кім, пад кім вараны конік гаворыць?
Пад (Антосікам)—як салавейка шчабечаць:
— Ня бі мяне, Антоська, па галоўцы!
— Я-ж табе надабен буду ў дарожцы!

*) Варыянт гэтае песьні запісаў Б. Юрэвіч — у сяле Ляўдэры.

— Я-ж цябе перад цесьціткам узьвялічу:
— Я цясьцёву вулку хвосьцікам вымяту,
— Я цясьцёвы вароціткі ножкамі адчыню,
— Я цясьцёў дварочак капыточкамі утапчу,
— Я вушкамі далёка войска пачую,
— Я вочкамі на небе зоркі палічу,
— Я цясьцёў ганачак грыўкай накрыю,
— Бокам пад ваконца падыйду,
— Я губкамі кубачкі віна перайму,
— Я сілкай тваю дружынку павязу.

1930, Дайлідава. П. Лябёдка ад Вялічкі.

№ 250.

А хто ў нас харошы,
А хто ў нас прыгожы?
Бронічка харошы,
Бронічка прыгожы:
Ён хораша ходзіць.
Майёрна ступаіць,
Сапог не ламаіць.
Ён каня сядлаіць—
Конік з ім іграіць.
На коніка садзіцца—
Конік весяліцца,
І сам паедзіць жаніцца. *)

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

Да маладой ад жаніха ўперад пасылаўся конны пасланец, які зваўся—„хорась“. Адзнакай ягонай быў даўгі белы балахон. „Хорась“ па дарозе заяжджаў ў кожную карчму, наказваючы, каб было-б мейсца для дружбы маладога. Згодна ранейшаму звычаю, дружба не павінна была мінаць карчом па дарозе. Прыехаўшы да маладой, „хорась“ паведамляў, што хутка прыезде малады.

Пакуль чакаюць жаніха, у хаце маладой сьпяваюць песьні:

№ 251.

Ня было вятроў—панавеяла,
Ня было дожджу—панабрызгала,
Не было гасьцей—панаехала.
— Ты выйдзі (Просенечка)!
— Ты вазьмі каня за муздачку,
— Маладога (Паўлічка) за ручаньку,
— Вядзі коніка—ў стаенку,
— Маладога (Паўлічка)—у высок цяро́м!
— Ты ўсып коніку аўса з сыто́й,
— Маладому—віна з мёдам!
Вараной конік—ні п'ець, ні есьць,
А маладой—не пакушаіць.

1932, Навумкі. М. Зуеўскі ад Г. Краўкліш.

*) Варыянты гэтай песьні запісалі: А. Маслоўскі—у в. Пугачы, А. Лукашэвіч—у в. Забіняки, Ст. Іонічонак—у в. Адамова.

№ 252.

Калі пад'ежджае ў суботу жаніх да нявесты і ў вёсцы маладой ўжо чуваць званкі.

Прысьцяражыся, прыбяражыся, Марылька,—
Твая няволя праз поля едзець, йіграець!
Марылька веры не даець, не плачыць.
Прысьцяражыся, прыбяражыся, Марылька,
Твая няволя вуліцай едзець, йіграець!
Марылька веры не даець, не плачыць.
Прысьцяражыся, прыбяражыся, Марылька,
Твая няволя ў панадворак едзець, йіграець!
Марылька веры не даець, не плачыць.
Прысьцяражыся, прыбяражыся, Марылька,
Твая няволя ў хату йдзець, йіграець!
Марылька веры не даець, не плачыць.
Прысьцяражыся, прыбяражыся, Марылька,
Твая няволя за ручку бярэць, йіграець!
Марылька веру даець і плачыць.

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

Каля паўночы, прыежджае ў хату нявесты малады са сваей дружбай: сват са свацьцяй, падмаладыя, кубельнік і музыканты. Калі маладзенец (жаніх) уз'яжджае на двор маладой з сваей дружынай, госьці маладой сьпяваюць:

№ 253.

Едзь на двор, адбей паклон! (2 разы)
Старому, малому—ды сырой зямлі, (2)
Татахну з мамухной—нізка ў ножухны, (2)
А ка мне маладой—з правай ручанкай. (2)

1939, Шушкі. ад Г. Марчонак.

№ 254.

Коціцца хмельнічык пад вароціткі.
Просіцца зяць у цешчухны:
— Цешчухна, мамухна, я—твой зяць буду!
— Я тваю дочаньку шанаваць буду,
— Таўчы, малоць застаўляць ня буду:
— Таўча, мяля—апыліцца.
— Дзяжу меся—абарвецца,
— Ваду нася—аблієцца.

1923, Піпіры. К. Сянкевіч ад А. Юрэвіч.

Жаніха спатыкаюць у панадворку: маці нявесты—з хлебам-сольлю, а бацька—з віном і водкай. Даюць усім выпіць па чарцы і потым уводзяць у хату. Музыка грае марш. Жанчыны сьпяваюць:

№ 255.

Ды ў барочку—шырокі вярбовы лісточак.
Малады Янчка—любы гасьцёчак.
Ганулька яму белую ручку падала,
Яна яго на коніку вітала,
Яна яму ўсю праўданьку сказала.

1928, Кісялёўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапіліхі.

У хаце стаяць два сталы, засланых абрусамі. За адзін стол садзіцца жаніх з сваей дружбай. Пасьля гэтага з каморы, з музыкай і песьнямі, выходзіць нявеста са сваей дружбай. Упарадзі йдзе з хлебам-сольлю бацька нявесты. Нявеста са сваей дружбай садзіцца за другі стол.

З-за столу маладога выходзіць сват з падмаладым і падыходзіць да столу маладой. Сват кажа „арацыю“, г. ё. асобную вясельную прамову, але гэта робіцца незаўсёды і залежыць ад сьмеласьці і ўменьня свата. А падмалады дае нявесьце ад жаніха вяночык на талерцы, прыкрытай хусткай. Старшая баярка здымае хустку, нявеста бярэ сябе вянок, а на талерку кладзе дзянкі для падмаладога.

Потым сват з падмаладым выкупаюць нявесту. Гэты абрад з'яўляецца адбіткам старадаўняй формы брака, куплі-прадажы. Сват і падмалады спачатку на талерку кладуць па медзянай манэце. Старшая баярка гэтыя грошы ня прыймае і кажа: „У нашым царстве гэтыя грошы ня ходзюць! Вашымі грашыма толькі катлы латаюць!“ Сват падае папяровыя грошы. На гэта баярка адказывае: „У нас такія грошы ня ходзюць! У нас гэтымі грашыма ногі абуваюць, анучамі называюць. Трапак нам ня трэба!“ І каб паказаць, якія грошы найбольш каштоўны, кладзе на талерку, як гэта была раней, залатую манэту. Сват і падмалады таксама кладуць залатую манэту і, такім чынам, выкупаюць нявесту.

Пасьля гэтага падмалады бярэ нявесту за руку, вядзе яе да столу жаніха і садзіць побач жаніха, а зварачваючыся ды баярак жартліва кажа: „Танна вы прадалі свой тавар: тавар—добры і мы за яго ў тры разы больш заплацілі-б!“ Баярка-ж яму адказвае: „Мы рады, што вы яго купілі: наш тавар — стары і гнілы, затое мы яго танна збылі“. Дружкам нявесты неабходна прадаць яе даражэй, каб потым ня сьмяяліся-б, што танна прадалі.

Пасьля абраду куплі-прадажы усе, памаліўшыся Богу, садзяцца за вячэру, пры чым йдуць за стол з аднаго боку, а выходзяць—з другога; захадзіць з рожных бакоў за стол нельга.

Пры стале сват усім распараджаецца; калі што бывае ненарэзана для ежы, дык ён павінен парэзаць на часткі.

За сталом сьпяваюць песьні.

№ 256.

На „зачын“ вясельля.

Ай, борам, борам, барамі—
Беглі конікі лугамі,
Зьбілі травіцу нагамі,
Да прыбеглі ў Антолькаў двор—заіржалі.
Ніхто тых коней не спазнаў.
Выйшла Ганулька—спазнала,
Узяла ў стаеньку загнала,
Прыйшла ў хатку, свайму татку сказала:
— Татульку родны, дай тым конікам аброку!
— Яны сягоньня пазьнюсенька прыбеглі,
— Яны заўтра ранюсенька пабягуць,
— Яны мяне, маладую, да шлюбу павязуць!

1928, Кісялёўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапілавай.

№ 257.

Вясёлую бяседаньку Бог нам даў!
Ды дай, Божа, на тэй бяседзе пабыць!
Ды дай, Божа, нам таго піва папіць!
Віно з мёдам зьліваюцца—дар Божы!
Тых пара людзей злучаецца—шчасьце Божа!

1935, Скерпканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 258.

Ад імя маці бабы сьпяваюць за сталом.

Усе дзеванькі сядзяць—
Як макавачкі цьвяцяць,
А на маеей дзіцятухне—
Чорная смага пала,
І цяжкае ўздыханьне,
І сьлязовае ўмываньне!

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 259.

Села малада—вышэй ўсіх,
Сашчапіла ручкі, спусьціла вочкі—ніжэй ўсіх.
— Вы, ручанькі, вы, бялюсенькі, вы мае,
— Ці будзеце ў сьвёкаркі белы, як цяпер?
— Хоць я буду ранюсенька ўставаць,
— Хоць я буду пазьнюсенька класца,—
— Некалі будзе беленькіх ручак памыць!

1937, Вайцюлева. ад П. Абалевіч.

№ 260.

Ад імя дачкі сьпяваюць маці:

„Пазнаеш, мая матулька, бяз дачкі,
„Заплодзюцца пад лаўкай казлячкі!
„Ня нада вам будзе ў зялёны бор хадзіць,
„Ня нада вам будзе старыя ножкі калоць,
„Ня нада вам будзе белыя ручкі мараць!“

1930, Саланайская вол. В. Воранаў ад сваей маці.

У суботу-ж за сталом часта адбываецца абрад абдарываньня ці „напява́ньня“ маладой. На стале стаіць талерка, пакрытая салфэткай, і на яе госьці кладуць грошы, а бліжэйшая радня стараецца падарыць што-небудзь бо́льшае з гаспадаркі. Так, напрыклад, дзядзька нявесты кажа: „Я напяваю табе, пляменніца, сечак *) грэцкі!“. Брат нявесты кажа: „Я напяваю табе, сястрыца, карову!“

У час абдарываньня бабы заклікаюць прысутных быць шчодрымі: „Хлопцы, нясіце чырвонцы! Дзеванькі-падружанькі, нясіце па стужанькі!“

№ 261.

Садовая яблынька, што ў цябе кветак многа,
А яблачка—ніводнага?
Далоўкі ні валюцца, па зямлі ні кацюцца!
Ганначка, што ў цябе радні многа, роднага—а ні воднага?
Да століка ні падходзюць, падарачкі ні падносюць!
Брацiткі-надкосьнічкі, нясіце чырвоньчыкі!
Сястрыцы-баярачкі, нясіце рукавічкі!
І дзе-ж тая радня падзявалася?
Па цёмных кутох пахавалася,
Піць-есьць—ёсьць каму, а даравaць — некаму!

1930, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

Кожнага дарыцеля маладыя дзякуюць нізкім паклонам, а маладая, апроч таго, дае дарыцелю чарку гарэлкі ці шклянку піва, ці чым-небудзь дробным аддаруець.

Бабы-сьпявачкі таксама сьпяваюць за вячэрай песьні, каб атрымаць падарункі.

№ 262.

„Ой, старшы сват, просім цябе ў хату!
„Ой, старшы сват, просім у нас пабываць!
„Піва, віна папіваць, ой, старшы сват!“

1932, Краслава. В. Воранаў ад сваей маці.

№ 263.

Наша сваццbackground—маладая,
На ей шуба—галубая.
Дзе сваццыя сядзіць—
Там ня трэба сьвяціць:
Сьвецюць яе каралічкі,
Залатыя персьцяначкі.
Прыехала сваццыя лёдам,
Прывязла гарэлкі з мёдам.

1932, Краслава. В. Воранаў ад сваей маці.

№ 264.

У добрага татухны—дзіця добрае:
Не пасьпелі песьню сьпець—падаркі шлець!

1932, Краслава. В. Воранаў ад сваей маці.

*) „Сечак“—гэта зробленая з лубу пляцёнка, якая служыць меркай для збожжа.

№ 265.

Цябе мамка выпраўляла—
Кішані сырам насыпала:
— Там будуць бабанькі пяяць,
— А ты будзеш сыры даваць!

1932, Краслава. В. Воранаў ад свасй маці.

Калі-ж бабы не задаволены пачастункам, ці падарункамі, дык яны выказваюць свае незадаваленьне ў гумарыстычных песьнях па адрасу сватоў, маладых, гаспадароў і гасьцей, напрыклад:

№ 266.

У нашага свата—
Курчавая галава,
Валасы, як вата,
Даўгі нос, крывыя ногі,
Галасок прыгожы,
А, як выйдзе, ды паскача—
Нікуды ня гожа.
Але розум, вось дык розум:
Асла абмануць зможа,
А варону яшчэ ляпей,
Хоць розум і слабей.
А скача, вось скача:
Як карова на гладкім лёдзе.
І ўвокал пазірае,
Хоць ня бачыць нікога.

1928, Даўгавіешы, Александрова. В. Пашкевіч ад бабкі-жабрачкі.

№ 267.

Добра табе, свацьцінька, ў піру сядзець,
Віннаю чарачку у руках дзяржаць!
Вінная чарачка не скалынецца,
Віно-зеляно ні разальецца,
Наша свацьцінька не разсьмяецца.

1939, Забінякі. А. Лукашэвіч ад С. Урбановіч.

№ 268.

„Надкосьніку", брату маладой.

Наш Юзінька прыйшоў з поля:
Забіў сароку—пасярод току,
Забіў ціцеру—сабе на вячэру,
Забіў дразда—сярод гнязда,
Забіў стрэпатку—віраб'ёву матку.

1939, Забінякі. А. Лукашэвіч ад С. Урбановіч.

Пасьля вячэры скачуць і гуляюць да раніцы. Маладыя, звычайна, ня танцуюць у гэты вечар. Пад раніцу маладога вядуць спаць у другую хату; маладая таксама йдзе на адпачынак; рэшта-ж, асабліва моладзь, стараюцца зусім ня класцца спаць.

Але вось наступае раніца нядзелі!

Пачынаецца падрыхтоўка да выпраўленьня маладых ў царкву ці ў касьцёл. Зноў убіраюць маладую, апранаюць

у падвянечнае адзеньне, на галаву надзяваюць фату („велюм“) і прыкалываюць вяночак.

Бабы у гэты час сьпяваюць:

№ 269.

Закукавала шэра зязюля ў садочку,
Прыклаўшы буйну галоўку к лісточку:
„Ты, лісточак, ты, зялёны, да ты мой!
„Ці будзеш зімой зялёны, як у леце?“
— Хоць я буду на ўслонейку стаяці —
— Я-ж ня буду зімой зялёны, як у леце;
— Будуць мяне буйныя ветры зьбіваці,
— Будуць мяне злыя марозы з'едаці!
Тады заплакала малада Мальвінка за сталом,
Прыклаўшы беленькія ручкі к століку:
— Вы, ручанькі, вы, белыя, вы мае!
— Ці будзеце ў сьвякроўкі белыя, як цяпер?
— Хоць я буду ранюсенька ўставаці —
— Некалі будзе гладка галоўкі ўчасаці,
— Некалі будзе беленькіх ручак умываці,
— Будуць мяне бліжнія суседкі гудзіць:
„Лянівая, драмлівая Мальвінка!“

1939, Індра. ад А. Невяроўскай.

№ 270.

Скажы, скажы, малада Юзэфка, усю праўду!
Ды хто цябе сёньня раненька пабудзжаў?
Ды хто табе гладка галоўку часаў?
Ды хто табе мірцяны вяночак ускладаў?
Ды хто табе вараных коняў запрагаў?
— Цёценькі, суседанькі, скажу я вам ўсю праўду!
— Пабудзжала сёньня раненька — мамунька,
— Учасалі гладка галоўку — сястрыцы,
— Ускладала мірцяны вяночак — мамулька,
— Прышпілялі мірцяны вяночак — сястрыцы,
— Запрагалі вараных коняў — брацікі!

1939, Індра. ад А. Невяроўскай.

№ 271.

Дзякавала белая бярозка дуброўцы:
— Дзякую, мая дубраўка, за тое
— За твае пастаянінька ціхое!
— Што я за табой буры, ветру ня знала,
— Што я за табой дробнага дожджу ня дбала.
Дзякавала малада (Анэлька) матульцы:
— Дзякую табе, матулька, за тое
— Да за твае гадаваньне мягкое!
— Я ў цябе гора, бяды ня знала,
— Я ў цябе на кірмашох гуляла.

1928, Пустынь. Ст. Рацынь ад сваей маці.

№ 272.

Чырвоная рожа вышы тыну стаяла.
Усё расой абнімала.
Стала раса ападаць —
Прышла Ганначка ваду браць.
Ты, Ганначка, умывайся,
Да царквы прыбірайся!
Там цябе дажыдаюць,
Царкву адмыкаюць,
Ясны сьвечы зажыгаюць,
І каўры расьцілаюць.
Там цібе павянчаюць:
Чуж з чужанінаю,
З векавечнай далінаю!

1930, Ляўдэры. ад Г. Лапчонак.

№ 273.

Шэрая зязюля да з дубу:
„Убірайся, Паўлінка, да шлюбу!“
— Што-ж табе, зязюлька, да таго?
— Ёсць ў мяне матулька на тое!
— Скажыць міне за стол сесьць — я й сяду,
— Запрагуць конікаў — паеду,
— Адамкнуць касьцёлы — я ўвыду,
— Засьцелюць каберцы — укленкну,
— Запалюць сьвечанькі — заплачу!

1932, Сіленэ. Яз. Кірстук ад сваей маці.

№ 274.

Ляцелі гусанькі, ды ня гаркалі,
Толькі адна гусанька загаркала:
Чула-ш яна зіманьку, ды ня леціка.
Сядзелі дзеванькі, ды ня плакалі,
Толькі адна (Просачка) плакала:
Чула-ш яна сьвёкарку, ды ня татульку,
Чула-ш яна сьвякроўку, ды ня матыньку.

1932, Рыўцаны. С. Сьлядзеўскі ад сваей маці.

Як да вянца адпускаюць, бабы сьпяваюць.

№ 275.

Не сядзі, маладая, параздумайся!
Пусьці думушкі па галовушкі:
Як пайсьці, пасіупіць у чужу сямейку?
Як назваць, папрасіць чужую мамухну?
Як назваць, папрасіць чужога татухну?
— Не ахвота татанькай назваць,
— Не ахвота маманькай назваць;
— Сьвёкарам назваць — худая славушка,
— Сьвякроўкай назваць—дурна славушка!

— Калі-ж ня зваць роднай матулькай,
— Калі-ж ня зваць родным татанькай —
— Яны мяне судзіць будуць:
— Мая нявестка — санлівая, драмлівая,
— За вадой ідзець — вёдры коцюцца,
— А ваду нясець — сама валіцца.

1923, Ракшына. С. Шаўцоў ад Г. Жыбінкавай,

На панадворку прыбіраюць коней. У грыву канём уплятаюць каляровыя істужкі, прывязываюць пад дугу званочак, а да хамута званкі і бубёнцы. Калі коні гатовы, маладыя і ўся дружба, па старадаўняму звычаю, садзяцца ля столу.

На стол бацькі ставяць хлеб-соль і крыж з дзьвюмя сьвячамі (у каталіцкіх сямейках), ці абраз (у праваслаўных сямейках).

Выходзяць з-за столу. Жаніх з нявестай становяцца на калені на пасланы саматканы каберац, за імі уся дружба, і моляцца Богу. Потым бацька і маці багаслаўляюць маладых і даюць ім пацалаваць абраз ці крыж.

Пад час багаслаўленьня бабы сьпяваюць сумную песьню:

№ 276.

Багаславіся (імя), багаславіся, маладая!
Багаславіся з татанькам, багаславіся з родным!
Няхай Бог багаславіць, Найсьвеншая Матка!
Багаславіся (імя), багаславіся, маладая!
Багаславіся з маманькай, багаславіся з роднай!
Няхай Бог багаславіць і Найсьвеншая Матка!
Багаславіся (імя), багаславіся, маладая!
Багаславіся з брацікам, багаславіся з родным!
Няхай Бог багаславіць і Найсьвеншая Матка!

1933, Путынава. С. Казэка ад А. Васілеўскай.

Пасьля гэтага адбываецца агульнае багаслаўленьне. Галоўны сват пры гэтым кажа „арацыю“, а ўсе да каго ён прамаўляе, адказываюць: „Бог багаславіць!“

„Ёсьць у гэтым піру вясёлым, у доме сьвянцоным ацец і маці радзімы? Калі ёсьць, прашу багаславіць пару людзёў гэтых на шчасьлівым мейсьцы сесьці!“

Бацька і маці адказываюць: „Бог багаславіць!“

„Ёсьць-жа ў гэтым доме свянцоным, у піры вясёлым татухі, мамухі, якія пад Божы хрэст паднасілі, у Бога шчасьця і долі прасілі? Калі ёсьць, прашу аказацца і багаславіць пару людзёў гэтых на шчасьлівым мейсьцы сесьці!“

Хросные бацькі адказваюць: „Бог багаславіць!“

„Ёсьць-жа ў гэтым доме сьвянцоным, у піры вясёлым цёткі, дзядзькі, братцы, сястрыцы, малады маладзенцы,

дзяцючкі-панічкі, дзеванькі-паненачкі, сабраныя, сазваныя, — прашу багаславіць пару людзёў на шчасьлівым мейсьцы сесьці!

Усе прысутные адказваюць: „Бог багаславіць!“

„Суседзі, суседачкі, маленькія дзетачкі і тыя бабылкі, што ня маюць ні коніка, ні кабылкі, на плечках дроўкі носяць, у Бога долі і шчасьця просяць, каб пабагаславілі пару людзёў гэтых на шчасьлівым мейсьцы сесьці!“

— Усе прысутныя ў хаце адказваюць: „Бог багаславіць!“

Нявеста і жаніх усім кланяюцца ў ногі і прашчаюцца з усімі. Бабы пры гэтым сьпяваюць:

№ 277.

Прыкланілася бела бяроза да зямлі —
Пакланілася малада дзеванька ўсей радні:
Ніжэй усіх — роднай матухны да зямлі!

1930, Саланайская вол. В. Воранаў ад сваей маці.

№ 278.

Пайшоў вінаград—пахіляецца,
Пайшла малада (Марылька) — пакланяецца,
Старога, малога ня мінаючы:
У старога, малога — шчасьця многа!

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 279.

Хілілася бела бярозка да зямлі,
Кланілася млода Паўлінка ўсей радні:
Сяму-таму нізюсенька кланілася,
Яшчо-ж ніжай роднай матульцы — ў ножкі:
— Дзякуй, дзякуй, родна матулька, за тое,
— Што ты мяне малюсеньку ўзрасьціла,
— А ўзрасьціўшы—у добры людзі пусьціла!

1935, Сіленэ. Яз. Кірстук ад сваей маці Мальвіны (па бацьку Лукашэвіч).

№ 280.

Перад адпраўкай да вянца.

Ні жалей, (імя), галованькі!
Ні жалей, маладая, галованькі!
Кланяйся татанькі нізка ў ножанькі,
Кланяйся роднаму нізка ў ножанькі!
Ні жалей, (імя), галованькі!
Ні жалей, маладая, галованькі!
Кланяйся маманькі нізка ў ножанькі,
Кланяйся родненькай нізка ў ножанькі!
Ні жалей, (імя), галованькі!
Ні жалей, маладая, галованькі!
Кланяйся ўсім родным нізка ў ножанькі,
Кланяйся ўсім родным нізка ў ножанькі!

1933, Путынава. С. Казэка ад А. Васілеўскай.

Пасьля гэтага вясельны поезд, праводжаны добрымі пажаданьнямі, накіроўваецца пад марш музыкантаў у касьцёл ці царкву. Уперадзе едзе сват са свацьцяй маладухі (назад уперадзе едзе сват са сваццей маладога), за імі едзе малады з падмаладым і сваей сястрой, далей — нявеста з братам, а за імі—рэшта надкосьнікаў з баяркамі і госьці. Едуць шпарка і па дарозе ўсім кланяюцца.

Ад вянца, звычайна, едуць у хату нявесты. Калі-ж нявеста далёка жыве ад царквы ці касьцёлу, ці калі ёсьць якія-небудзь іншыя перашкоды, дык едуць проста ў хату жаніха. Па дарозе вясельнаму поезду моладзь і дзеці робяць рожныя перашкоды, напрыклад, перагарожваюць дарогу жэрдзямі ці кладуць на дарогу барану і г. д.

Сват павінен адкупіцца цукеркамі, гарэлкай, ці грашыма.

Калі вясельны поезд пад'ежджае к хаце, дык яго спатыкаюць маршам і стрэламі. Маладыя, якія з вянца едуць умясьцёх, падыходзяць з дружбай да ганку. Тут іх спатыкаюць бацькі з хлебам-сольлю, сырам і гарэлкай.

А бабы сьпяваюць ад імя маці і дачцы-нявесты.

№ 281.

Сакалы-лебядзі з стараны ляцяць,
Шэрую лябёдку пад крылом нясуць,
Ня пусьцім лябёдку, ня зазначыўшы,
Зьнімім пер'я лябядзіныя,
Накладзём пер'я сакаліныя.
Сватаўя-братаўя з стараны едуць,
Маладу нявесту з сабой вязуць,
Ня пусьцім, ня зазначыўшы,
Зьнімім вянок—накладзём платок шоўкавы.

1922, Савельнікі. ад Юз. Сьлядзеўскай.

№ 282.

Дзеванька на двор уз'ежджала,
А ў яе матухна пытала:
— А ці гучна званы зьвінелі?
— А ці ясна сьвечы гарэлі?
— А ці голасна папы сьпявалі,
— Як вас, маладых, вянчалі?
„А гучна званы зьвінелі,
„Голасна папы сьпявалі,
„Шчасьліва маладыя стаялі!“

1929, Азерцы. М. Талерка ад М. Азерскай.

№ 283.

Стань, мая маманька, у парозе,
А ўжо-ж твая дочка ў дарозе!
Прыступіся да мяне блізенька,

Пакланюся табе нізенька,
Коскамі зямельку ўсьцялю,
Сьлёзкамі ножанькі абальлю.

1927, Азерцы. М. Талерка ад М. Азерскай.

Выпіваюць маладыя, а таксама дружба, перакусываюць хлебам і сырам. Маладыя бяруцца за каравай, які нясець бацька нявесты, і уваходзяць у хату. У гэты час маладых абсыпаюць аўсом, хмелям, ці жытам, каб яны багата жылі.

Адразу садзяцца за стол. З боку маладога садзяцца яго бацькі, сват са свацьцяй і яго дружба, а з боку маладой — яе бацькі і дружба. Выпіваюць за здароўе маладых, і ў некаторых мейсцох крычаць ім: „Горка!" каб прымусіць маладых пацалавацца. Музыканты вітаюць кождага з удзельнікаў вясельля, пачынаючы з маладых, маршамі называюць іх рожнымі чынамі, а за гэта іх павінны аплачываць грашыма.

Так сама і бабы сьпяваюць „усей кумпаніі" і кождаму удзельніку асобна, а за гэта іх абдарываюць цукеркамі, сырам і іншым.

№ 284.

Для „ўсей кумпаніі:"

Ешце, госьці, ў багатага мужа!
Ёсць піва—піўніца, мёду—медуніца,
Гарэлачкі—жбан. Даець ён ня скупа!
Вы, госьцікі любімыя, гасьціцё ў нас!
У нас піва наварана—усё для вас!
У нас віна накурана—усё для вас!
У нас хлебы пшанічныя—усё для вас!
У нас страўкі сахарныя—ўсё для вас!
Напітачкі салодкія—ўсё для вас!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак,

№ 285.

Сьпяваюць маладым.

Ягодка з ягодкай пры бару расьлі,
Узрошшы яны, вырашшы—сакаціліся,
Пётрачка з Адэлькай пры вёсачкі расьлі,
Узрошшы яны, вырашшы—схадзіліся,
Ды за адзін столік садзіліся,
Адным кавалачкам дзяліліся,
Адным кубачкам віталіся.

1939, Забіняки. А. Лукашэвіч ад С. Урбановіч.

№ 286.

Гаспадару.

У нашага гаспадара—курчавая галава,
Курчавая галава, шаўковая барада.

Ён кудзёрцам патрасе, гарэлачкі паднясе.
А нам бабам чатыром—гарэлачкі з лапыром! *)

1928, Ляўдэры. Б. Юрэвіч ад Е. Прынц.

№ 287.

Гаспадыне.

Дзе маманька сядзіць—там ня нада сьвета:
Сьвецяць яе каралічкі залатыя,
Шпоначкі сярабраныя,
Сярабраны пярсьцёначкі.
Ад серабра — плечы ломюцца,
Ад казловых боцікаў—масты ломяцца.

1928, Ламы. А. Маслоўскі ад К. Маслоўскай.

№ 288

Свату.

Ці любіш, сваточак, парасяцінку?
— Вось люблю, вось люблю то—ежа мая!
Ці любіш, сваток, сівага каня?
— Ах люблю, ах люблю, то—язда мая!
Ці любіш, сваточак, ці любіш сваю жоначку?
— Вось люблю, вось люблю, гэта—душа мая!

1931, Дайлідава. П. Лябёдка ад З. Вялічкі.

№ 289.

Мы на цябе, сваточак, спадзяваліся:
Тры полі, тры полі—пехатой ішлі,
Быструю рэчаньку—ў брод брылі,
Куню шубу на плячох нясьлі!
Дзякую, сваточку, за твае дары вялікія,
За тваю ветлівасьць кавалерскую!
Вумнага татухны і дзіця—вумнае:
Ня ўсьпелі песьню сьпець—і дары даець!

1929, Адамова. С. Іонічонак ад сваей маці.

№ 290.

Гэй, старшы сват,
Ня стаў каня пад вакнам!
Нашы дзеўкі—жартлівы:
Твайго каня ўкрадуць,
На рынак павядуць—
Твайго каня прададуць,
Табе грашоў не дадуць!

1931, Беляі, А. Хруцкая ад Ю. Транінкавай.

№ 291.

А сват сваццці паплёў лапці з тоўстых лык,
А сам ходзіць, чубуруець, як індык.
Сват свата просіць, у руках шапку носіць:

*) „Лапыр"—драўляная, выскрабаная, як раней рабілі, міска.

— Ой свату, мой свату, прашу свата ў хату!
— Папіваць наша піва, павідаць наша дзіва:
— Наша піва—п'яное, наша дзіва—дзіўное.

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

## № 292.

### Старшаму свату.

Добра сват прыбраўся:
Путам падпяразаўся,
Барада пянькой сшыта,
Галава клінам зьбіта,
Шубухна ў яго—цялячая,
Шапухна—сабачая,
Боцікі ў яго—парасячыя.
Ён шубухнай цірнець—
А цялёнак раўнець,
Ён шапухнай махнець—
І сабачка брахнець,
Боцікам цісніць—
Парасёнак пісьніць!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

## № 293.

Ядуць сваты, ядуць—
Як мяцёлачкай мятуць:
На стале—ні крошачкі,
Пад сталом—ні костачкі!
Ядуць сваты, ядуць
І да печы паглядаюць:
Ці тлуста капуста?
Ці вялікі гаршок кашы?
— Ешце, сваточкі, ешце!
— Тлуста капуста
— І вялікі гаршок кашы!

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

## № 294.

### Хроснаму бацьку.

У хроснага таткі кудрава галоўка,
Шаўковая бародка.
Вадзілі хроснага татку па піру,
Па дзявоцкаму весельлю,
Макаў бародку ў віно, у гарэлку,
У салодзенькі мядок.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

## № 295.

### Жанчынам-гасьцьцям.

А вумная, разумная Міхалінка:
Паставіла белы шацёр у полі,
Пад тым шатром дуды-музыкі граюць,
Там яе сынуленькі гуляюць.

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

## № 296.

### Баяркам.

Жаркі, жаркі у нашай баяркі каралькі!
Затое жаркі, што ўсю ночаньку ня спала,
Яна сваe караленькі чапала.
Гладка, гладка ў нашай баяркі галоўка!

Затое гладка, што ўсю ночаньку ня спала,
Яна сваю галаваньку часала.

1931, Беляі. А. Хруцкая ад Ю. Транінкавай.

№ 297.

Хараша, прыгожанька наша Ганначка,
Ёй ня многа нада прыбораў:
Толькі адны шаты *)—па пяты,
Чырвоныя істужкі па вушкі!

1939, Шушкі. ад В. Дамчовак.

298.

— Ты, Гэлічка, маладая, маладая!
— На табе сукня галубая, галубая.
— Ды дзе ты яе купляла, купляла?
„У Полацку на рынку, на рынку!"
Ды сто рублёў - ня грошы, ня грошы,
Ды тысяча—нямала, нямала!
Па ельніку хадзіла, хадзіла.
Сукеначку змачыла, змачыла.
Будзем лазьню, тапіць, тапіць,
Сукеначку сушыць, сушыць.

1930, Адамова. Ст. Іонічонак ад сваей маці Монікі.

№ 299.

Наша Гыленка—Полацкая мішчанка.
Казалі—ў цябе багаты падаркі!
Казалі—ў цябе салодкі цукеркі,
Вялікія абаранкі!

1989, Ластаўкі. А. Лукашэвіч ад Э. Барсук.

№ 300.

Гуц-гуц, гуца-ца, замуж хочацца!
Бог долі ні даець—ніхто замуж ні бярэць!

1939, Ластаўкі. А. Лукашэвіч ад Э. Барсук.

№ 301.

Ты, Маруля, ні сядзі лі сьценкі блізка!
Нашы мальцы праворы:
Сьценку прадзяўбуць,
Цябе маладую ўкрадуць
І на рынак павядуць—
На баранкі прададуць!

1939, Ластаўкі. А. Лукашэвіч ад Э. Барсук.

№ 302.

Шафяром.

Наш Стасік—паніч:
У Краслаўцы быў—вянок віў,

---

*) „Шаты"—дарагая і прыгожая сукенка, а ў старыя часы гэтак звалася даўгая накідка.

А ў Вільні давіваў,
Нашым дзеўкам дараваў!

1939, Ластаўкі. А. Лукашэвіч ад Э. Барсук.

№ 303.

Ды ня стаў, Юліська, коніка пад рабінаю!
Рабіна—дзераўца нешчасьлівая:
Рабіну з вярхоўкі—птушанькі клююць,
Рабіну з карэньня—чэрві точуць!
А стаў, Юліська, коніка, пад бярозаю!
Бяроза—дзераўца шчасьлівая:
На бярозе пташухны-салаўі пяюць,
У бярозе сучанькі сувіваюцца,
У бярозе лісьцянкі зьліпаюцца,
Маладому Юліські дзеванькі ўкланяюцца!

1939, Індра. ад А. Невяроўскай.

№ 304.

Наш Бронічка—прастата:
Купіў каня бяз хваста:
Паехаў жаніцца—
Прычапіў карыцца!
А карыцца шлапочыць—
Увесь народ хахочыць!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 305.

Музыкантам.

Бычкі ў смычкі йграюць,
А цёлачкі—ў сьвісьцёлачкі,
А сьвінка—задавілася,
Са сьмеху пакацілася,
А старая каровішча
Ударыла ў ладонішча!

1927, Азерцы. М. Талерка ад Азерскай.

Пасьля пачастунку пачынаюць скакаць. Першым скокам зьяўляцца лявоніха.

Пад час скокаў сват разносіць на талерцы, пакрытай ручнікам, кавáлкі каравая і сыру кождаму з гасьцей, а тыя, ў сваю чаргу, на талерку кладуць грошы.

Падвечар кубельнік зьбіраецца ад'ежджаць і вязьці кубел у хату маладога. Кубел—гэта пляцёная з саломы ці лазы вялікая, круглая, высокая кашолка, троху вузейшая ўгары з двумя вушкамі, цераз якія прадзяваецца кіёк і зашчапляецца замок. Зараз кубел замяняецца скрыняю, „куфрам", які хатнімі малярамі афарбоўваецца ў складаны арнамэнт, але назоў „кубельнік" усюды захаваўся і дагэтуль.

У кубел, ці ў скрынку, складываецца пасаг маладой: бялізна, палатно, вопратка і інш. Кубельнік павінен выкупіць кубел ад дзяцей, якія на ім сядзяць. Каб вынесьці кубел, ці скрыню, з хаты кубельнік наймае прысутных людзей, бо на кубел стараюцца пакласьці паленьня, карыта

ці яшчэ што-небудзь цяжэйшае. У час гэтага жартаўлівага змаганьня бабы сьпяваюць:

№ 306.

Вячэра, вячэра!—Павячэраўшы,
Будзім, маманька, дзяліцца!
Табе, маманька,—вугалкі,
А мне, маманька,—рубялькі!
Табе, маманька,—вяроўка,
А мне, маманька,—кароўка!
Вышла Танічка, вышла, маладая,
За вароты і плачыць.
— Чаго, дзіцятка, сьлезна плачыш?
— Што я маю—тое табе даю:
— Долі ня дам!

1939, Баравые. Г. Нікіфароўская ад Е. Шараковай.

Разам з кубельнікам адпраўляюць да маладога і жывёлу, якая дадзена ў пасаг нявесьце. Жывёлу звычайна гоніць адзін з гасьцей, якога называюць пастухом. Выпраўляючы кубельніка ад маладой, сьпяваюць:

№ 307.

Чыя-ж там мамухна
Усю ночаньку ня спала,
З яснай зарой размаўляла?
— Зара мая, зоранька!
— Няшчасьліва-ж мая долінька:
— З маей хаты кублы нясуць,
— З майго хлява кароў вядуць!

1933, Мельнікі. Г. Нікіфароўская ад Г. Хомчанкі.

Увечары, перад ад'ездам маладой ў хату маладога, яшчэ раз садзяцца за стол і адбываецца абрад абдарываньня яе, калі гэта ня было зроблена у суботу. Потым бацькі яшчэ раз багаслаўляюць сваю дачку і са сьлязамі адпраўляюць яе на новае жыцьцё.

Пры разьвітаньні маладой з роднай хатай і з роднай вёскай сьпяваюцца гэткія сумныя і хвілюючыя песьні, што ўсе прысутныя расчуляюцца і плачуць.

№ 308.

Рэчка з рэчухнай разьліваіцца.
Божа-ж мой!
(Прыпеўка пасьля кожнага радка).
А Кацярынка з мамкай разлучаіцца.
А як мне жаль, а як мне тошненька!
Рэчка з рэчухнай разьліваіцца,

А Кацярынка з таткай разлучаіцца.
А як мне жаль, як мне то́шненька!
Рэчка з рэчухнай разьліваіцца,
А Кацярына з сястрычкамі разлучаіцца.
А як мне жаль, а як мне тошненька!
Рэчка з рэчухнай разьліваіцца,
А Кацярынка з брацігкамі разлучаіцца.
А як мне жаль, як мне тошненька!

1939, Забіннкі. А. Лукашэвіч ад А. Урбановіч.

№ 309.

Кляновае лісьцінёнка, куды, куды цябе ветры веюць?
— Я і сам ня знаю, куды мяне вецер веіць:
— Ці ў лог, ці ў балота, ці ў чыстае поля,
— Ці ў сіняе мора!
Маладая Марылька, куды цябе мамка аддаець?
Ці ў багатую хату? Ці ў згодную сямейку?
— Я і сама ня знаю, куды мяне мамка аддаець!
„Маладая Марылька, ці баісься ты сьвякроўкі?“
— Я сьвякроўкі ні баюся: на скамейкі пасьцялюся,
— І раненька абачхнуся, і сьлязой аблюся,
— І рукаўком абатруся!

1939, Шушкі. ад Г. Марчонак.

№ 310.

Кальнула маткі ў грудзі,
Што нада дачку аддаць у людзі!
Кальнула маткі ў пяты,
Што некаму глядзець хаты!
Ды чыя там лялея
Сярод сталу цьвіцела?
Ды чыя там мамухна
Сярод хаты замлела?

1939, Зябінякі. А. Лукашэвіч ад С. Урбановіч.

№ 311.

Ходзіць-паходзіць ясны месяц па небе,
Лічыць-палічыць зорачкі на небе—
Не далічыўся аднэй зорачкі-зарыцы:
Пайшла зарыца яснаму сонейку служыці!
Ходзіць-паходзіць Ганулькі татка па хаце,
Не далічыўся аднэй Ганулькі-дзіцяткі:—
Пайшла Ганулька свайму Яначку служыці,
Не на дзянёчак, не на гадочак—на ўвесь век!

1929, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад сваей маці.

У маладога бывае такое-ж прыблізна спатканьне, як у маладухі пасьля вянца.

Бабы, як толькі пачуюць набліжэньне вясельнага поезду, пачынаюць пець:



Сьпявачка Гэлена Сімачыха, па бацьку Малаток, 67 г., радз. ў Саланайскай вол. (Ілукстэншчына); выйшла замуж у Краславу, дзе пражывае больш 30 год. Неграматная. Дабрв ведае беларускія песьні і звычаі.

№ 312.

Ой, чуваць званкі, чуваць!
Кованы колы грučаць!
Ой, равуць коні, равуць, —
Багатырачку вязуць:
З скрынамі, пярынамі,
З пуховымі падушкамі.
Німа ні клеці, ні павеці —
Нідзе скрыны падзеці!

ад Г. Сімачыхі.

1937, Краслава.

№ 313.

Госьці на двор едуць, —
Куры пад печ лезуць!
— Не пужайцеся вы, куры!
— Ня многа вас нада:
— Сем кур — на вячэру,
— А восьмая — на пячэньне,
— Дзевятая — на сьнеданьне,
— Дзясятая — на ад'еж-джаньне!
— Гуску — на закуску,
— Індыка — на прыкуску!

М. Талерка ад А. Гэндаль.

1925, Зарэкі.

№ 314.

Як запівалі ды зарvчалі, казалі: „Кароў — многа!"
А як прыйшлося — ў мейсьца сышлося:
Пайшлі ў хлеў кароў даіць і німа каго даіць —
Адзін бык стаіць і адна цялушка!

1937, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

Прыехаўшы, маладыя з гасьцямі зноў садзяцца за стол і тут адбываецца абдарываньне маладога, як абдарывалі нявесту. Іншы раз абдарываньне маладога адкладаецца на панядзелак. За сталом у маладога таксама сьпяваюць песьні.

№ 315.

Гаспадыня тужыла, што вялікая дружына,
А гаспадар таму рад, што селі госьці ў рад,
Да ў рад, у радочак, як пчолкі ў мядочак!
Слаўна, слаўна нашага (Адамкі) дружынка:

Прыехалі, паселі — як паненяткі,
А шчабечуць — як салавейкі,
А пашчабятаўшы, паляцяць — як пташачкі!

1939, Індра. ад А. Невяроўскай.

№ 316.

**Сьпяваюць маладой ў хаце маладога.**

Хадзілі сястрыцы ды па сьвятліцы,
Тужылі ды плакалі па сястрыцы:
— Сястрыца наша, перапёлачка!
— Атдалі мы цябе за адно словачка,
— Ды ня год, ня два — гадавалі,
— Ды за дзень, за два — прагулялі!

1939, Індра. ад А. Невяроўскай.

№ 317.

Вялік, вялік Юзэфка, а Мальвінка—малюсенька,
Яна яму—мілюсенька!
У мамкі гадавалася, яна яму спадабалася,
У шчасьлівы дзень радзілася —
Яна яму прыгадзілася!

1939, Індра, ад. А. Невяроўскай

№ 318.

Хваліўся Стасенька маладой жаной:
— Ёсьць ў мяне жоначка — як баярыня:
— Ростам яна — тонка, высока,
— Ліцом яна — бела, румяна,
— Броўцы яе — чарнабровыя,
— Глазкі яе — сакаліныя,
— Слоўцы яе — ўсе верныя!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 319.

Хараша, прыгожа Магдуся,
Знаць цябе мамка ў зялёным садце расьціла,
Знаць цябе мамка вадзіцай памыла,
Знаць цябе мамка сыціцай паіла,
Знаць цябе мамка чырвонай рожай ўцёрла.
Ад вадзіцы малада Магдуся бялеіць,
Ад сыціцы малада Магдуся паўнеіць,
Ад рожачкі малада Магдуся чырванеіць.

1923, Адамова. В. Даўгая ад сваей маці.

Потым танцуюць, колькі могуць, і пад-раніцу вядуць спаць маладых у клець. Перад гэтым зьнімаюць вянок у нявесты і сьпяваюць:

№ 320.

У нядзелю — мароз быў, (2)
У панядзелак — іній паў, (2)

На (Алеськаву) каморку, (2)
На (Хрузіну) галоўку. (2).

1932. Рыўцаны. С. Сьлядзеўскі ад сваей маці.

На другі дзень зраньня, з музыкай, усе ідуць будзіць маладых на сьнеданьне.

Перад дзьвярыма клеці нацягіваюць вяроўку і на ей навешываюць званочкі. Тады музыка грае марш, званочкі звіняць, бабы пяюць песьні. Маладыя выходзяць і разам з дружбай ідуць у хату. Тут нявесту садзяць на лаўку і з песьнямі „спавіваюць", г. ё. надзяваюць ей на галаву чапец, як адзнаку жанчыны, а паверх павязываюць галаву наміткаю, канцамі назад. *)

У час сьняданьня наліваюць гарэлку, прыгатаваную асобным спосабам у гліняным гаршку, які называецца „зелянік", і звараную ў прыпечку, куды адграбаюць жар. У гарэлку прыбаўлена бывае кміну і цукру. Такая гарэлка называецца „салодкія рожкі". Калі „салодкія рожкі" п'юць, дык сьпяваюць:

№ 321.

У нас сягоньня навіна:
Чырвона рожа расьцьвіла.
У нас сягоньня мароз быў—
Чырвону рожу змаразіў.
У нас сягоньня панядзелак—
Адлучылі Ганну ад дзевак.
У нас сягоньня аўторак—
Прылучылі Ганну да жонак.

Калі выйдуць з-за столу, сьвёкар і сьвякроўка пачарзе бяруць маладую і з ею танцуюць, ці павінны з ей хоць два-тры разы абкруціцца Маладая цалуе ім рукі і дае падарункі: сьвёкру – кашулю і сподкі, а сьвякрові — сукенку і хустку; абдарваець маладая і музыкантаў, даючы кожнаму з іх ці пояс, ці сподкі.

Потым маладую сьвякроўка навучае гаспадарыць каля печы.—Бабы пры гэтым сьпяваюць песьню:

№ 322.

Да дзякавала бела бяроза дуброві:
— Ды-й дзякую табе, дуброва!
— За твае, за добрае стаяньне! —
— Ні было-ж на мяне ні дробных дажджоў за табой,
— Ні было-ж буйных вятроў за табой!
— Ды-й, як я стала ў чыстым полі на гары—
Аткуль тые дробные дажджы ўзяліся?
— Ды-й аткуль тые буйные ветры ўсталі?
Да дзякавала дзяўчына матульцы:
— Ды-й дзякую табе, матулька!

*) „Намітка" – убор на галаве жанчын—даўгі кавалак вузкага палатна з каляровым тканьнём па канцох

— За тоя, ды за тваё, за добрая гадаваньня! —
Ні было на мяне ні цяжанькай працы, ні ліхой журботы,
— І ні было на мяне люцкой абмоўкі!
— А як я стала ў чужой матулькі-сьвякроўкі—
— Аткуль тыя цяжкія працы ўзяліся?
— Ды аткуль тыя ліхія журботы ўвяліся?
— Ды аткуль тыя люцкія абмоўкі ўзяліся?—
— Санлівая, драмлівая—нявестка!

1930, Даўгаўпілс. Я. Каваленак ад сваей бабкі.

Вясельле гуляецца аж да серады.

У гэты дзень надкосьнікі і падмаладыя павінны прыгатаваць поўднік. Для гэтага яны стараюцца ўкрасьці ад гаспадыні курыцу і зарэзаць, а на дровы пілуюць драбіны і разводзяць вагонь у печцы, а потым плацяць гаспадыне грошы, каб яна далей поўднік гатавала. На разьвітаньне, за поўднікам сьпяваюць песьні, напрыклад:

№ 323.

Браціткі на коніках у золота ўвіваюцца —
Сястрыца за столікам сьлёзкамі абліваецца:
„Вазьміце і мяне з сабой!“
— Сястрыца наша, родная!
— Не на тое давалі, каб назад бралі,
— А на тое атдалі, каб за табой пагулялі,
— Твайго сьвёкру, а нашага свата, піва папівалі!
— Яго піва — п'яная, яго дзіва—дзіўная!

1939, Індра. ад А. Невяроўскай.

Раз'езд гасьцей па хатах — гэта адзін з гучнейшых і вясялейшых момантаў ў беларускім вясельлі: бязладна скачуць, як пападзя; праданыя (т. наз. радня маладой таму, што яны быццам прадалі маладую) лезуць з нагамі на лаўкі і стараюцца скакаць і прыгаць, такім чынам, каб абавязкова хоць адну лаўку зламаць. Ім сьпяваюць жартаўлівую песьню:

№ 324.

Праданыя, удалыя, гуляйце ў нас!
Ёсьць бочка піва — ўсё для вас!
Праданыя курку з'елі, а дзе яны скурку дзелі?
Скурку — на панчошкі, а кішачкі—на падвязкі.

1937, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 325.

Сват за сватам ходзіць,
У руках шапку носіць:

— Ах, сваця, мой сваця!
— Пабывай у маей хаце,
— Папей майго піва,
— Паглядзі майго дзіва!
— Маё піва — піўна, маё дзіва — дзіўна:
— На хаце расьце зельле,
— А ў хаце вясельле!
— Бычкі ў смычкі йграюць,
— А бараны — ў арганы,
— А цёлкі — у сьвірэлі!
Вось як сівая сьвіньня
Са сьмеху паваліласяя
І пад гару пакацілася.

1923, Зэйлева. Я. Кудраўцаў ад П. Старычэнкавай.

Надкосьнікі перапранаюць маладую і стараюцца ўкрасьці яе ад маладога, а ён павінен пільнаваць, каб яе ня ўвязьлі. Калі коні запрэжаны, дык робяць так, каб лейцы прывязаны былі да гужэй.

Гасьцём і сватом так сама сьпяваюць песьні:

№ 326.

Едзьце, госьці, да дому!
З'елі коні салому,
Каля плоту — крапіву,
Каля току — мякіну.
Валіцеся, шапачкі, з паліцы!
Вяртайцеся, госьцікі, да дому!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 327.

Едзьце, сваты, дамоў—ня гудзьце *) нашых двароў!
Нашы двары пагудзіце — і самі паблудзіце,
Ды па мхах, па балотах, па дубовых калодах!

1939, Індра. ад А. Невяроўскай.

№ 328.

Паехаў Яначка жаніцца —
Цётка Хадора сварыцца:
— Да дому, сваточкі, да дому!
— Паелі конікі салому!
— Валіцеся, шапачкі, з паліцы!
— Вяртайцеся, госьцікі, да дому!

1932, Даўгаўпілс, Ругелі. В. Сахарава ад А. Шыліхі.

Перад ад'ездам праданых, усе садзяцца за стол, зусім апрануўшыся „як у дарогу", і сьпяваюць ад'ездную песьню:

---

*) „Ня гудзьце"—ня ганьце, не абгаварывайце двароў. „Гудзіць"—абгаварываць, хуліць.

## № 329.

Мы паедзем горы, даліны раўнаваць,
Пакідаем сваю сястрыцу ў вас.
Гаруй, гаруй, наша сястрыца, ня кайся!
Прыехаўшы да мамкі ў госьці, ня жалься!

1937, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

Потым, зьвяртаючыся да маладога, праданыя пяюць:

## № 330.

Ды бяры, (Антось), бяры!
Ды умей шанаваць:
Не давай жоначкі заганяць,
Ні давай ваду насіць, ні давай дзяжу мясіць,
Ды каб ня стаяла ў цёмную ночку пад вакном,
Каб ня ўцірала дробныя сьлёзкі рукаўком,
Ды каб ня была, што паветка, то—хатка,
Ды каб ня была, што суседка, то—матка! *)

1937 Прыэдайне. Г. Сахарава ад М. Наваенкавай.

## № 331.

**Сьпяваюць браты і сёстры нявесты, пакідаючы яе на новае жыцьцё ў маладога мужа.**

Вы, сваточкі-галубочкі, просім вас —
Пакідаючы сваю сястрыцу ў вас —
Толькі яе ў абіданьку ня дайце!
Хоць вы яе па вадзіцу пашліце —
Толькі вы ей шчырую праўду скажыце!
Каб ня была ей паветачка за хатку!
Каб ня была ей суседачка за матку!
Каб ня стаяла-б у цёмную ночку пад вакном!
Каб ня ўкрывала-б белыя ножкі падалком!
Каб ня ўцірала дробныя сьлёзкі рукаўком!
Каб ня была ей ў канцы стала вячэра!
І каб ня была ей ў парожанькі пасьцеля!

1926, Даўгаўпілс-Ругелі. В. Сахарава ад Г. Шыліхі.

Наканец з жартамі, прыказкамі ўсе раз'яжджаюцца па хатах і для маладых пачынаецца новае жыцьцё з усімі сялянскімі радасьцямі і сумам.

Паступова маладую ўводзяць у курс яе цяжкіх гаспадарскіх турбот.

---

*) Варыянты гэтай песьні запісалі: І. Ігнатовіч—у в. Іовіны і П. Лябёдка—у в. Дайлідава.

## 6. Хаўтурныя галашэньні.

Абавязковай прыналежнасьцю кождых хаўтураў зьяўляецца „галашэньне“.

Як толькі нябожчык абмыты, апрануты і пакладзены на куту пад абразамі, блізкія яму людзі — маці, жана, дачка, сястра—пачынаюць „галасіць“.

Вялікім сорамам для аўдавеўшай жанчыны лічылася-б, напрыклад, калі-б яна не галасіла па нябожчыку-мужу толькі таму, што ён пры жыцьці сваім ставіўся да яе кепска.

Галашэньне адбываецца ня толькі ў хаце нябожчыка (пакуль стаіць цела у хаце, у каталіцкіх сямейках жанчыны сьпяваюць рэлігійныя гімны па кантычках, а ў праваслаўных—чытаюць псалтыр), але і пры вынасе цела з хаты і на могілках.

Пасьля хаўтур галашэньне бывае яшчэ на магіле нябожчыка ў агульныя задушныя, памінальныя дні, на так званыя „дзяды“.

„Галашэньні“—гэта глыбокае выяўленьне жалю і суму па нябожчыку яго блізкіх і таму яны адзначаюцца паэтычнаю прыгожасьцю.

У кождым галашэньні многа пэрсанальнай творчасьці самой галашэльніцы. Тут яна, стараючыся зьмякчыць сваё гора, ўспамінае ўсё жыцьцё нябожчыка, яго працавітасьць, яго любоў да жаны і дзетак.

№ 332.

Дачка галосіць па маці.

Мая маманька, радзіцелка!
А куды-ж ты адлетаеш?
На каго-ж ты нас пакідаеш?
А скажы-ж ты нам вернае слоўца—
З якой старонкі нам цябе пераймаць?
Ці з тэй старонкі, дзе ясна-сонца ўсходзіць?
А ці з тэй, дзе ясна-сонца заходзіць?
У якое намваконца пагглядаць,
Калі цябе пераймаць?
Ці ў суботу—позна, ці ў нядзельку—рана?
Да каго-ж мы цяпер прыхілімся?
Зацямнелі ўсе нашы куточкі і відныя ваконцы,
Як адлетаіць наша маманька-радзіцелка!
Ні ад каго-ж мы не пачуем добрага слоўца!
Ні з якой старонкі ні павеюць на нас цёплыя вятры!
Ні ад каго-ж нам ня будзе ні абароны, ні жаласьці!
Мая маманька-радзіцелка! Зарастуць сьцежкі-дарожкі
Дубняком, бярэзьнікам, маладым алешнікам!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 333.

Дачка па бацьку,

А мой-жа ты, татанька, а мой-жа ты, родненькі!
Куды-ж ты паедзеш? Каму-ж ты нас кідаеш?
Каго-ж мы будзем цёмнаю ночанькай пераймаць?
Каму-ж я буду белыя ножанькі разуваць?
Каму-ж я буду белую пасьцелічку слаць?
Калі-ж мы цябе дачакаемся?
Ці цёмненькай ночанькай, ці буйненькім ветрыкам?

1940, Рыга. ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 334.

Маці па дзяцёнку.

А мая-ж ты, буйная галованька! Што-ж ты раненька адкацілася?
Мае-ж, ясныя вочанькі! Што вы раненька замурыжыліся?
А мае-ж вы белыя ручанькі! Што-ж вы раненька сашчапіліся?
А мае-ж вы рэзвыя ножанькі! Што-ж вы раненька прытаміліся?

1940, Рыга. ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 335.

Па бацьку, калі яго выносяць з хаты.

Радзімы мой, кармілец, родны татулька!
Куды ўцякаеш ад нас, горкіх сірацінак!
Кідаеш нас сіротанькамі, малымі-маленечкімі!
Закацілася цяпер нашае яснае сонейка,
Што ня грэець нас, горкіх сірацінак!
Веюць на нас ветры буйныя-сьцюдзёныя:
Куды ветрачкі падуюць—туды мы пацягнемся.
Ні з каторай старонухны німа нам цёплага ветру,
Німа нам, горкім сіротухнам, крэпкіх заступнікаў,
Апусьцела наша цёплая хатанька!

1923, Зэйлева. Я. Кудраўцаў ад П. Старычэнкавай.

№ 336.

На могілках.

Пераймаў мяне, кармілец, родны татухна,
На шырокім сваім падвор'іцы—
Пераймі мяне, горкую сірацінухну,
Абхапі мяне за буйную галованьку,
Прытулі мяне, сірацінухну, да грудзей сваіх!
Запытай мяне, сірацінухну,
Пра маё горкае-горачка
Бяз цябе, кармільца-татухны!

1923, Зэйлева. Я. Кудраўцаў ад Т. Старычэнкавай.

## 7. Паміnаньне нябошчыкаў жабракамі.

20 ліпеня 1939 году, у Ільін дзень, давялося мне быць на кірмашу ў сяле Ляўдэры Лудзенскага павету. Каля царквы разьмясьціліся жабракі, якія ня толькі просяць міластыню, але памінаюць нябошчыкаў і атрымовываюць за гэта хлеб, яйкі і грошы.

Прыслухоўваюся да іхніх малітваў. Вось набожная жанчына падыйшла да аднэй старухі-жабрачкі і кажа: „Памяні, бабка, маіх!“ І затым пачала называць па чарзе імёны сваіх памёршых родзічаў і знаёмых.

За кожным імём жабрачка казала: „Памяні, Госпадзі, Матроніну душачку у царсьцьвіі нябесным! Памяні, Госпадзі, Сьцяпанаву душачку у царсьцьвіі нябесным!“ і гэтак далей.

Пералічыўшы імёны, жанчына прамовіла: „Ну, дзе іх усіх успомніш! Памаліся за ўсіх!“

І тады жабрачка голасна праказала агульную формулу-малітву:

№ 337.

Памяні, Госпадзі! — Дзядоў і прадзедаў,
Бабкаў і прабабкаў, унукаў і праўнукаў,
Сьвёкраў і сьвякровак, дзевяроў і ятровак,
Братоў і сёстраў, малых дзетак,
Цясьцёў і цёшчаў, швагроў і швагерак,
Сваякоў і сваячаніц, кумоў і кумушак,
Хрэсьнікаў і хрэсьніц,
Хросных татак, хросных мамак,
Каторыя к храсту паднасілі,
Ад Бога шчасьця прасілі,
У хрысьцьянскую веру ўвадзілі!
Памяні, Госпадзі! — Да пары неданошаных,
Каторыя хрыста ня дасьпелі, сьвятых таін ня прынялі,
У царквы ня ўспамінаны!
Памяні, Госпадзі! — На полі брані убіенных,
Гразой забітых, на агне гарашчых,
На вадзе патапяшчых, паўсюды лежашчых!
Усе душачкі, Госпадзі, памяні у царсьцьвіі тваім!
І прасьці ім грахі вольныя і нявольныя!

1939, Ляўдэры. ад жабрачкі.



# ЧАСТКА III.

## Бытавыя песьні.

Да ліку бытавых песьняў адносяцца тыя песьні, што не зьвязаны ні з выкананьнем якіх-колечы абрадаў, ні з пэўнаю парою году. Яны сьпяваюцца тады, калі песьні гэтыя самі просяцца з грудзей сьпявака, або сьпявачкі, і адпавядаюць іхнім настроям і думкам у пэўныя моманты і пры пэўных абставінах іхняга жыцьця.

У зьвязку з гэтым тэматыка, якую ахопліваюць бытавыя песьні, зьяўляецца дужа багатаю і шырокаю, а вывучэньне гэтых песьняў дае магчымасьць пазнаёміцца з бытам і характарам ўзаемаадносінаў на беларускай вёсцы.

Найбольш багата адбілася ў бытавых песьнях доля жанчыны, пачынаючы з дзявочых гадоў жыцьця ў сямейцы бацькоў і ахопліваючы далей: гады маладога каханьня, выхад замуж, жыцьцё ў сямейцы мужа, адносіны з ягонай раднёй, каханьне да мужа і дзяцей, удовыя гады ды іншыя моманты і здарэньні з жыцьця жанчыны. Дзеля таго, што абставіны жаночае працы ў хаце ды за праллкай больш спрыяюць сьпяваньню, чым праца мужчыны за сахой, ці ў марозны дзень ў лесе, а таксама і таму, што песьня зьяўляецца, часам, адзіным спосабам для больш чулай жанчыны выліць сваё пачуцьцё і думкі, дык можна сказаць, што найбольш песьняў прысьвечана доле жанчыны і што сама жанчына беларуская ў большай меры, чым мужчына, зьяўляецца аўтарам беларускае народнае песьні.

Аднак, ня мала песьняў прысьвечана і апяваньню долі мужчыны. Песьні гэтыя пачынаюцца з першых заляцаньняў маладога, нерашучага хлапца, праходзяць праз заpraўднае каханьне, праз гады салдаччыны, праз жаніцьбу і жыцьцё мужа.

Значная лічба беларусаў Латгаліі, у зьвязку з многасямейнасьцю і невялікімі хутарнымі надзеламі, адыходзе штогодна на сельска-гаспадарчыя працы ў іншыя раёны Латвіі, а таксама працуе на фабрыках і заводах; многа дзяўчат служыць па гарадох найміткамі ў прыватных асобаў. Гэтыя моманты таксама пачынаюць ўжо адбівацца ў народнай творчасьці асаблівымі песьнямі наймітак, пастушкоў і інш.

Да бытавых песьняў трэба аднесьці і тыя ваяцкія песьні, у якіх ёсьць некаторыя ўспаміны аб гістарычных

падзеях. Зусім мала сярод беларусаў Латгаліі і Ілукстэнскаго павету захавалася старадаўніх песьняў пра разбойства, пра турэмную няволю і прыгон.

Значную групу бытавых песьняў складаюць яшчэ песьні: жартаўлівыя і песьні-прыпеўкі да танцаў і гульняў.

Ніжэй надрукаваныя песьні падзелены на вышэй паказаныя групы, аднак трэба адзначыць, што далучэньне тэй ці іншай песьні да пэўнае групы зьяўляецца, часам, даволі спрэчнаю справаю, бо ёсьць песьні, якія сваім зьместам закранаюць, напрыклад, у раўнай меры і долю жанчыны-жонкі і мужчыны-мужа, ці хлапца і дзяўчыны. У гэткіх выпадках трэба прыслухоўвацца да таго, куды адносіць даную песьню сам выканаўца яе.

## 1. Доля жанчыны.

Ужо ў шчасьлівейшыя гады дзявочага жыцьця ў бацькоў задумваецца беларуская дзяўчына аб сваім будучым жыцьці і баіцца яго: найстрашней за ўсё—трапіць за нямілага, або за п'яніцу. Песьні аб гэтым—поўныя трывогі.

Першае каханьне—найшчасьлівейшая пара. Песьні аб каханым напоены шчыраю пяшчотаю і надзеямі на шчасьлівае жыцьцё з каханым чалавекам.

Песьні аб замужным жыцьці — дужа сумныя і вымалёўваюць непрыязныя адносіны ўсей радні мужа, асабліва-ж маці-сьвякроўкі, да прыйшоўшай у іх сямейку маладой нявесткі.

№ 338.

Ой зара наша вячорная вышэй лесу падымалася,
Вышэй лесу, вышэй цёмнага, вышэй садзіку зялёнага!
У тым саду дзеўка мылася, яна мылася, умывалася,
Сваей красой дзівавалася:
— Ой краса мая, краса! Каму ты застанешся?
— Ці старому, ці малому, ці малойцу удалому?
— Калі старому застанешся, краса мая,—нагаруешся!
— Калі малому застанешся, краса мая,—набазцяешся!
— Калі малайцу застанешся, краса мая,—накрасуешся!

1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 339.

Чуй, мамка, чуй, дзе малайцы ідуць!
Развясёла тая вуліца, дзе малайцы пяюць!
Знай, мамка, знай, дачку замуж аддай!
Ні давай-жа за п'яніцу—потым будзіць жаль!
П'яніца п'ець і з карчомкі ня йдзець,

Прышоўшы да дому – мяне маладу б'ець,
Прымушаець разуваць-распранаць, белы ручкі марацъ,
А мне, маладой, ня хочацца каля п'яніцы варочацца!
1937, Цеплішы. Яз. Цепліш ад сваей маці Розалії.

№ 340.

Раскашавала шэра зязюлячка ў барочку —
Ці будзе так раскашаваць у садочку?
Хоць і будзе раскашаваць — усё ня так:
Ягадак будзе, а вадзіцы ня будзе.
Раскашавала маладая дзевачка ў матулькі —
Ці будзе так раскашаваць у міленькага?
Хоць і будзе раскашаваць — ды ўсё ня так:
Долячка будзе, а волі ня будзець – усё ня так!
1928, Індраўская вол. Зап. Я. Заракоўскі.

№ 341.

Як пайду па саду, па зялёных вішнях!
Ня выбяру хлопца я па сваіх мысьлях:
Каб гарэлкі ня піў, тытуну ня курыў,
Чужых жонак ня любіў і зводаў ня слухаў.
1923, Адамова. В. Даўгая ад сваей маці.

№ 342.

Дзяўчына малода хадзіла каля гарода,
Хадзіла, кветкі рвала, службачку праклінала:
— Дай, Божа, каляд даждаць! – Не пайду болі служыць:
Місачкі, падушачкі, усё мне – клапатушачкі!
1930, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад сваей маці.

№ 343.

Над ракой верба стаяла.
Там дзяўчына ваду брала,
Тую вярбінку прыклінала:
— Пад табой, верба, вада – горка!
— А мне, маладзе, жыцъ нялоўка!
— Ды каб я была перапёлка —
— Куды здумала — паляцела:
— Ці ў шчыры бары па ягодкі,
— Ці ў крынічынку піць вадзіцу.
1927, Канецполь. М. Шчавінскі ад сваей маці.

№ 344.

Там ясьнінька, дзе сонейка ўсходзіць,
Там яшчэ ясьней, дзе міленькі ходзіць!
Калі на працы — памажы, Божа, яму!
Калі ў даму — прынясі, Божа, яго! —
На позныя падвячоры, на мілыя разгаворы!
1937, Цеплішы Яз. Цепліш ад сваей маці Разалії.

№ 345.

Ці высока сонейка, ці далёка міленькі?
Ні высока сонейка, а далёка міленькі:
Сем міль—ракой плысьці, другіх сем—дарожкай ісьці!
Паплыла-б я вуткай — зловяць рыбалоўцы,
Паляцела-б зязюлькай— застрэлюць стральцы!

1937, Цепліішы. Яз. Цепліш ад сваей маці Разаліі.

№ 346.

Я-й па садочку хадзіла!
Я-й па садочку хадзіла,
Я-й па зялёным хадзіла,
Руту я мяту садзіла.
На руце-мяце — жоўты цьвет,
Майго мілога — дома нет:
Ды ён паехаў ваяваць,
Мяне пакінуў гараваць!

1935, Сіленэ. Яз. Кірстук ад сваей маці Мальвіны.

№ 347.

Як на горкі, на гары—тры сады зеляны.
У першым садзе-вінаградзе расла кустом рожа —
Любіць мяне друг сярдэчны, хоць я ніпрыгожа.
У другім садзе-вінаградзе расла трава мята —
Любіць мяне друг сярдэчны, хоць я нібагата,
У трэцім садзе-вінаградзе расло дрэва ліпа —
Любіць мяне друг сярдэчны, хоць я невяліка.

1930, Шкавенская вол. А. Лейтан.

№ 348.

Пайду з гора ў чыста поля шырокай далінкай!
Шырокай далінкай стаіць куст калінкі.
Ссяку, зрублю чырвону калінку роўна карашочка,
Панясу я чырвону калінку міламу пад ваконца.
Саджу, саджу, паліваю чырвону калінку:
— Расьці, расьці, чырвона калінка!
— Расьці ня шатайся!
„Жыві, мая мілая, жыві не печалься!
„А пасьля, са мной спаткаўшыся,—мне не жалься!"

1936, Краслава. ад Г. Сімачыхі.

№ 349.

А раненька-раненька, на зары, на зары,
Шчабятала пташачка на моры, на моры,
На беленькім каменьку, каменьку.
Ішоў там дзедка па далі, па далі.
— Хадзі, хадзі, дзядулька, да мяне, да мяне!
— Зьнімі, зьнімі с белага каменька, каменька!

У дзядулькі жаласьці нямнога, нямнога—
Ня зьняў з белага камянька, камянька.
А ранелька-ранелька, на зары, на зары,
Шчабятала птушачка на моры, на моры,
На беленькім камяньку седзячы, седзячы.
Ішоў там міленькі па далі, па далі.
— Хадзі, хадзі, міленькі, да мяне!
— Зьнімі, зьнімі з белага камянька, камянька!
У міленькага жаласьці балей, балей—
Зьняў з белага камянька, камянька.

1927, Мердзенская вол. Я. Заракоўскі ад бабулі.

№ 350.

А ў небі, небі—зорачкі ясны,
А ў нашай вуліцы—дзеванькі красны!
Ой, красны красны, ды усё з касьнякамі,
Танцуюць, гуляюць, ды усё з казакамі!
— На пячы гаршок—поўны з вадой,
— Ня люблю таго, хто з барадой!
— Ах, люблю, люблю мёд салодзенькі,
— Люблю малойца, хто малодзенькі!

1923, Райкі. В. Козлоўская ад сваей маці.

№ 351.

У бары зязюля закукавала—
Ды па мне матулька забядавала:
— Дзе-ж мае дзіцятка заначавала?
— Ці ў бару, ці ў бару, ці ў бярэзьнічку?
— Ці ў мяду-саладу, ці ў гарэліцы?
— Ці ў свайго міленькага ў пасьцеліцы?
„Ні ў мяду-саладу, ні ў гарэліцы —
„У свайго міленькага ў пасьцеліцы,
„Правай палою закрыўшыся,
„Гарачымі сьлязамі заліўшыся!“

1936, хут. Еудрабі. В. Гвозд ад У. Нэйжборт-Беляўскай.

№ 352.

Каля балоцітка, там хадзіла сіроцінка, зьбірала ягадзінкі.
Набраўшы—паставіла, паставіўшы – заплакала:
— Да вы, мае ягаданькі, да вы, мае зялёныя!
— Каму-ж я дастануся?
— Німа ў мяне ні таткі, ні мамкі,
— Ні сястрыцы, ні брацітк,
— Адна я сіротухна!

1926, Церахава. ад І. Лапацёнак.

№ 353.

Па багатую сястру, па багатую сястру—
Тры пасла пасылаюць,
А па мяне, бядняжачку, а па мяне бяздольную—

Праз людзей наказываюць!
Ды багатую сястру, ды багатую сястру —
Сярод поля пераймаюць,
А мяне, бядняжачку, а мяне, бяздольную,—
У хаце, на парозі!
Ды багатую сястру, ды багатую сястру —
За прыбраны стол сажаюць,
А мяне, бядняжачку, а мяне, бяздольную,—
За печы, на лаўцы!
Ды багатую сястру, ды багатую сястру —
Сахарнымі страўкамі кормюць,
А мяне, бядняжачку, а мяне, бяздольную,—
Поснай капусткай.
Ды багатую сястру, ды багатую сястру —
Усей сямейкай прапушчаюць,
А мяне бядняжачку, а мяне, бяздольную —
Ня відзяць, як ад'яжджаю.

1929, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

## № 354.

— Ты, мой мілы, ты, мой міленькі дружочак!
— А куды-ж ты паедзіш? Вазьмі мяне з сабою!
„Мая міла, дарагая, там—палі далёкія!"
— Ты, мой мілы, ты мой міленькі дружок!
— Я і гэтаму прыгадаю: я праз палі палячу сініцаю!
„Мая міла, дарагая, а там лясы вялікія!"
— Я і гэтаму прыгадаю: я праз лясы пабягу лісіцаю!
„Мая міла, дарагая, а там—рэкі глубокія!"
— Я і гэтаму прыгадаю: я праз рэкі паплыву вуціцаю!
„Мая міла, дарагая, а ў мяне ёсьць там—другая!"
— Я і гэтаму прыгадаю: я буду вернаю слугою,
— Буду ножкі разуваць, буду мягку пасьцельку слаць!

1929, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

## № 355.

Ляцелі гусі із пад Белай Русі,
Селі яны палі над ціхім Дунаем.
А бадай тыя гусі, як хмара, прапалі!
Як мы любліся—мы бяды ня зналі!
Як мы любіліся—нас гора ня знала,
А як разайшліся—гора нас спаткала!
Як мы любіліся—як ластаўкі ў стрэсе,
А як разыйшліся—як ягадкі ў лесе!
Як мы любіліся—як галубкі ў пáры,
А як разыйшліся—як цёмныя хмары!

1928, Пустынь. Ст. Рацынь ад сваей маці.

№ 356.

У нядзельку спараненьку маладая Марусенька сына радзіла.
— Нет у цябе, Дунаёчак, ні дна, ні канца!
— Нет у цябе, мой сыночак, ні маці, ні айца!
Ды ўчулі два малойцы, ў начлезі сьпя,
Ды ўзялі Марыльку за ценькі бокі,
Ды ўкінулі Марыльку ў Дунай глыбокі.
Ды як стала Марылька да дна прыпадаці,
Ды як стала Марылька мамку ўспамінаці:
— Ёсьць у цябе, мамка, ў доме сыноў пяць—
— Ня пушчай-жа па начлегах, няхай ў доме сьпяць!
— Ёсьць у цябе, мамка, ў доме дачкі дзьве—
— Ня давай-жа такой волі, як давала мне! *)

1935, Сіленэ. Я. Кірстук ад сваей маці.

№ 357.

Ты дубочак, зялёненькі!
Ты, хлопчык, малодзенькі!
Худа слава пра цябе!
Ах, ты кляўся, ты бажыўся:
— Ні пакіну я цябе!
Як прыйшлося худа ўрэмя—
Пакідаеш ты мяне!
Пайду з гора ў цёмны лес,
Няхай мяне зьвяры з'ядуць!
— Ах, вы, зьвяры, вы лясныя!
— Раздзярыце вы мяне!
— Ах вы, птушкі, дробныя,
— Пахавайце вы мяне!

1930, Станкевічы. Бр. Станкевіч ад сваей маці.

№ 358.

Я й сама іду і бяду вяду, і бяда не вядзеццца:
— Ды-й пад соснаю, пад раскошнаю, бяда спаці кладзецца,
— Ах, вазьму бяду, пакладу бяду на ўсю ночаньку спаці,
— А сама пайду, маладзюсенька, у карчму гуляці!
І гуляючы, і думаючы, яна яго праклінаіць!
— А бадай жа-ж ты, маё дзіцяці, з калысанькі выпала!
— Да як ты-ж мяне, маладзюсянькай, увесь век зьвязала!
— Да-й за лесамі, за маразамі, мая рута ня ўсходзіць,
— Да-й за людскімі перамоўкамі—да мяне мілы ня ходзіць!
— Узыдзі, ўзыдзі, мая рутанька, хоць з зямлі пакажыся!
— Ох, прыдзі, прыдзі, мой мілюсенькі, хоць людзям наругніся!
— А ўзыдзі, ўзыдзі, мая рутанька, хоць адзін лісточак!
Ох, прыдзі, прыдзі, мой мілюсенькі, хоць адзін вечарочак!

1935, Сіленэ. Яз. Кірстук ад сваей маці.

---

*) Варыянт гэтае песьні запісаны З Чэкелем—у в. Юраны.

### № 359.

Ялушка-ёлушка, што ня зеліна стаіш?
Ой, ха-ха, ха-ха! — Што ня зеліна стаіш?
Ды як-жа мне зілянюсінькай быць?
Ой, ха-ха, ха-ха! — Зілянюсінькай быць.
З-пад карэньня ёлушкі быстра рэчанька бяжыць.
Ой, ха-ха, ха-ха! — Быстра рэчанька бяжыць.
Па вярху ёлушкі быстры пташанькі клююць.
Ой, ха-ха, ха-ха! — Быстры пташанькі клююць.
Дзяўчына, дзяўчына, што нявесіла сядзіш?
Ой, ха-ха, ха-ха! Што нявесіла сядзіш?
Як-жа мне вісялюсінькай быць?
Ой, ха-ха, ха-ха! — Вісялюсінькай быць.
Спалюбіла вось такога, што ні маіць нічога.
Ой, ха-ха, ха-ха! — Што ні маіць нічога.
Толькі люльку ды цыбук.
Ой ха-ха, ха-ха! — Люльку ды цыбук.
А сам ходзіць, як кадук. *)
Ой, ха-ха, ха-ха! — Ходзіць як кадук.
Чорна шляпа — на баку, застаўлена ў кабаку.
Ой, ха-ха, ха-ха! — Застаўлена ў кабаку.
Сам гарбаты, а жывець — як багаты.
Ой, ха-ха, ха-ха! — Жывець — як багаты.

1939, Бірасьні. А. Лукашэвіч ад Ф. Залтан.

### № 360.

Ды дзе-ж тая крынічанка, што арлы ваду пілі?
Ды дзе-ж тая дзяўчыначка, што хлопцы любілі?
Ды тая крынічанка - травой зарасла!
Ды тая дзяўчыначка — замуж пайшла!

1935, Скершканы. ад М. Скершкан-Варонкі.

### № 361.

Што найлепшаму дзераўцу Бог лісту ня даў,
Што найлепшай дзеванькі Бог долі ня даў.
Аддаў мяне татулька дальма-далёка,
Прыказаў мне татулька ў госьцікі ня йсьці.
Пражыла гадочак, пражыла другі,
А на трэці гадочак зажурылася,
Да татулькі ў госьці захацелася.
Абярнуся, малада, шэрай зязюлей,
Палячу я, малада, к татулькі ў сад.
Як закукую я жальма-жалосна!
Ці ня ўчуець татачка, па двару хадзя?
Ці ня ўчуець матулька, абед гатуя?
Ці ня ўчуець сястрыца, сьвятліцу мяця?

---

*) „Кадук“ — злы дух.

Ці ня ўчуюць брацíткі, конікаў пая?
Старшы брацітка — страляць хоча,
А сярэдні брацітка — стрэльбу падае,
Самы малодшы брацітка — страляць не дае:
— Калі шэра зязюля — ляці ў зялёны бор,
— Калі наша сястрыца — хадзі к нам у двор! *)

1936, Кісялеўцы — А. Ворслаў ад Т. Шапілавай.

№ 362.

Ах, Божа мой, Божа, гора-ж мяне з'ела!
Не аддаў мяне мой татанька за каго я хацела:
Я хацела, маладзенька, за пісара—пана,
Аддаў мяне мой татанька за мужыка—хама!
Я думала, маладзенька, буду панаваці,
Аж прышлося, маладзенькай, век свой гараваці!
Я думала, маладзенька, ў золаці хадзіці,
Аж прышлося, маладзенькай, торбы валачыці!

1936, Брунініэкі. — В. Гвозд ад сваей маці Анэты.



Сьпявачка Анэта Гвозд, 72 г., пісьменная; увесь час жыве ў Ілукстэнскім павеце, да замуства служыла ў панскім двары, ведае многа беларускіх песень.

№ 363.

Як выйду за вароты—трава мурава!
Як выйду за другія—чужа старана!
Нікаму так ня бедненька, як мне маладзе:
Расплылася ўся радзіма, як ліст на вадзе!

1935, Скершканы. — ад М. Скершкан-Варонкі.

№ 364.

Ляцелі голі цераз тры полі, зязюля—ўпярод!
Ішлі дзевачкі цераз сенечкі, а маладая—ўпярод!
Дзеванькі селі—песенкі запелі, а маладая—заплакала:
— Ах, Божа-ж мой, Божа, якая мая доля!
— З кім я жыла, ўцішалася, з тым — расталася!
— З каго сьміялася—таму дасталася!

1939, Бірасьні. — А. Лукашэвіч ад Ф. Залтан.

---

*) Варыянты гэтае песьні запісаны: А. Лукашэвіч—у в. Бірасьні, Яз. Кірстуком—у в. Сілэнэ і Э. Казакевіч—ў Індраўшчыне.

№ 365.

Я ў горы ня была, ня жыла́,
Я ў горы ні радзілася —
Ка мне гора прыкацілася!
Ужо сонейка за лес коціцца,
Бяседанька раз'ежджаецца,
Мая маманька дамоў ладзіцца.
Я матульку прапушчаць пайду:
Праз два палі чыстыя,
Праз два лугі, лугі зялёныя,
Праз дзьве гары камяністыя,
Праз дзьве ракі, ракі быстрыя,
Праз два лясы, лясы цёмныя.
Толькі з маманькай распрашчалася,
Аж матулька аглянулася,
Як дзяцятка паваліласяІ.
— Дзіцятка маё, роднае!
— Чаго-ж ты паваліласяІ?
— Ці ў травіцы заплуталася?
— Ці ў расіцы замачылася?
„Ні ў травіцы заплуталася,
„Ні ў расіцы замачылася:
„Заплутала вялікае гора,
„Замачылі дробны сьлёзанькі.

1929, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад сваей маці.

№ 366.

Ходзіць-бродзіць па сьвятліцы,
Тужыць-плачыць па сястрыцы:
„Аддаў сястру ў тую вёску,
„Аддаў сястру ў бязхлебную!“
А ў нядзелю па абедзе,
Сястра ў госьці к брату едзе.
Убачыў брацец, спалохаўся,
З соляй, з хлебам пахаваўся.
— Стой, брацец, ня пужайся!
— З соляй, з хлебам не хавайся!
— Я ўчора вячэрала
— І сягодня абедала, твайго жыцьця адведала.
— Учора ела хрэн да рэцьку,
— А сягодня — капустачку!

1929, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапілавай.

№ 367.

Пайду я ў каморанньку, прыкладу я галованьку,
Спаць хачу — спаць мне ні даюць!
Ідзець сьвёкарка каля маей каморанькі, гаворучы:
— Сьпі, нявестка, сьпі, нягодная!

— Пшонка-ярыца — нямолата,
— Белы кужаль — непраджаны,
— Сьпіць нявестка, сьпіць нягодная!
Пайду я ў камораньку, прыкладу я галованьку,
Спаць хочу — спаць мне ні даюць!
Ідзець сьвякроўка, стуча, груча, каля маей каморанькі:
— Сьпі, нявестка, сьпі нягодная!
— Кароўкі — нядоіны, у поля нягоняны!
— Спіць нявестка, спіць нягодная!
Пайду я ў камораньку, прыкладу я галованьку,
Спаць хачу — спаць мне ні даюць!
Ідзець міленькі ціхусенька,
Адчыняець дзьверкі памалюсеньку:
— Сьпі, жонухна, сьпі мілая!
— Кароўкі — падоіны, у поля прагонены,
— Пшонку-ярыцу — на млын зьвязу,
— На бел кужаль — пральлю найму!
— Сьпі, жонухна, сьпі мілая! *)
1929, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

№ 368.

Засьвяціла цёмна ночка яснымі зарамі,
А мой мілы п'ець-гуляіць з чужымі жанамі.
Каля яго я стаяла — яго ня чапала.
Тошна майму сэрцу стала, што я ня чапала!
Пайду-ж я пажалюся сваей роднай мамцы:
„Ці мне жыці, ці мне быці, ці мне валачыцца?"
— Жыві, жыві, дзіця мае сэрца дарагое!
1935, Якубова, Яз. Кірстук ад Г. Паршуты.

№ 369.

— Ты, мой мілы, ты, мой міленькі дружок!
— А куды-ж ты паедзіш?
„Дзе дарожка будзе — туды я паеду!
„А прэч! — Адстань, жана нялюбая!"
— Ты, мой мілы, ты, мой міленькі дружок!
— „Дзе-ж будзеш начаваць?
„Дзе ночка спаткаець — там заначую!
„А прэч!—Адстань, жана нялюбая!"
— Ты, мой м лы, ты, мой міленькі дружок!
— А дзе-ж твае падушкі?
„На полі гарушкі—там мае падушкі!
„А прэч! — Адстань, жана нялюбая!"
— Ты, мой мілы, ты, мой міленькі дружок!
— А дзе-ж твае пярыны?
„У лесе лісьціны — там мае пярыны!
„А прэч!—Адстань, жана нялюбая!
1930, Іоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

---

*) Варыянт гэтае песьні запісаны Э. Казакевіч ў Індраўшчыне.

№ 370.

Лучына, лучыначка,
Не ясна гарыш!
Ды што-ж ты, лучыначка,
У печы ні была?

—Ліхой сьвёкар-бацюшка
—Сьнегу налажыў,
—Ліхая сьвякровухна
—Вады падліла!

1930, Шкавенская вол. А. Лейтан.

№ 371.

Ці ня Бог даў у каго многа сыноў?
Сярод поля мамку перайма́юць,
Пераняўшы — пад ручанькі бяруць,
А ўзяўшы—да хатачкі вядуць,
Прывёўшы — на крэсельца садзюць,
Пасадзіўшы — вячэрацць падносяць,
Павячэраўшы — пасьцеленьку сьцелюць,
Паслаўшы—ножанькі разуваюць,
Разуўшы — спатанькі ўкладаюць,
Палажыўшы—мамку накрываюць,
А накрыўшы—мамку пытаюць:
„Ці лёганька пасьцель наша, мамка?“
— Мякусенька пасьцель ваша,
— Толькі ня мягкі вашай жаны словы!
— Ідзі, сынок, у новую клетку,
— Вазьмі са сьценкі раменную плетку —
— Вазьмі, сынок, жонку навучаці!
Ды ўзяў раменную плетку,
Ды узяў-жа я жонку навучаці.
А, дзякуй Богу, за маю натуру,
Што я сваей жаны не калечыў —
Толькі сваю матухну пацешыў! *)

1929, Саланай (б. Тартакі.). ад Ю. Смаргун.

№ 372.

Га́ю мой га́ю, гай зеляненькі!
У цябе, гаю, церамкі стаялі:
У адным церамку — зязюля кукуіць,
У другім церамку — ўдовушка гаруіць,
У трэцьцім церамку — маці сына убіраіць.
Маці сына ўбіраіць, у сынка пытаіць:
„Ах, сыночку, мой сыночку, каго табе жалка?“
— Жалка мне цёшчу, цёшчу — для прывету,
— Жальчэй—цябе, мамка, як белага сьвету!
— Ты-ж мяне насіла, цяжынька ўздыхала,
— Ты-ж мяне радзіла, кроў разьлівала,
— Ты-ж мяне гадавала, ночкі ня спала!

1929, Шылава. В. Андрушонак ад І. Малашонкавай.

---

*) Варыянт гэтае песьні запісаны І. Ігнатовічам у в. Іоніны.

№ 373.

У полі бяроза стаяла,
Там малада лісьці ламала,
Ды ў стары сені кідала,
Ды старога дзеда будзіла.
— Устань, устань, дзед, прабудзіся!
— На табе памыек — памыйся!
— На табе атнімку *)—утрыся!
— На табе заслонку—маліся!
— На табе скарынку — жывіся!
У полі бярозка стаяла,
Там малада лісьці ламала
Ды ў новыя сені кідала,
Маладога мужа будзіла.
— Устань, устань, муж, прабудзіся!
— На табе вадзіцы — памыйся!
— На табе ручнічок — утрыся!
— На табе ксёнжачку—маліся!
— На табе піражок—жывіся!

1929, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад сваей маці Югань.

№ 374.

Шкада дубу зялёнага, што за сухім лесам!
Шкада маей маладосьці, што за старым бесам!
Ні я ўпіла, ні я ўела, ні добра ўхадзіла,
Толькі свае малады годы пазгубіла.

1935, Сіленская вол. Яз. Кірстук ад А. Пячонкі.

№ 375.

Дзякуй Богу, што вясна прышла!
Я малада ў грыбы пашла,
А з грыбоў у хорам зайшла.
Я ў хораме трох паноў знашла,
Я з панамі разгукалася,
А з паненкамі разгулялася.
Пявун пяе — я дамоў ня йду,
Другі пяе — я й ня думаю!
Зара ўзышла — я й дамоў пайшла!
Вароцечкі адчыняюцца,
Мой дзядочак прачыхаецца.
„Жонка, жонка, дзе дасюль была?“
— Мой дзядок, каля цябе спала!
— Белы ручкі на цябе ўсклала.
Мой дзядочак ачмурачыўся,
Што праз ночку не адварачваўся.

1930, Юраны. З. Чэкель ад сваей маці.

---

*) „Атнімкай“ — завецца кавалак старое тканіны, з дапамогаю якой зьнімаюць з прыпечку чугуны.

№ 376.

Ня ў піру была я — у бяседанцы,
Я ня мёд піла — ўсе гарэліцу.
А я піла, піла — ня ўпівалася,
А я дамоў йшла — ня шаталася.
У варотачках пашанулася —
За ляленку затрымалася.
— Ты, ляленка, добра зёлачка!
— Затрымай мяне, жонку п'яную,
— Жонку п'яную, бабу хмельную!

1929, Саланай (Тартакі). ад Ю. Смаргун.

№ 377.

На гары карчма, карчма новая, ясянёвая.
У той карчомцы мой татухна п'ець,
І вось ён п'ець, п'ець — пахмеляецца,
Ён сваей дачкой выхваляецца,
Што аддаў дачку ня ў ходобачку:
Чаравічкі з ног ня разуваюцца,
Сукеначкі з плеч ня зьнімаюцца.
Як учула ягона дзіця
І прыйшла к татку яна, плачучы:
— Не хваліся ты мной, татухна!
— Учора з вячору ў нас журба была:
— Ліхі свёкарка ён журыў мяне,
— Журыў, журыў, набіць хацеў,
— На двор выйшаўшы, пахваляецца,
— Што добра біці чужое дзіця —
— Нікому яно не пажаліцца,
— Толькі сьлёзкамі умываецца,
— І рукавічкамі ўціраецца.

1929, Саланай (Тартакі). ад Ю. Смаргун.

№ 378.

Загудзела пшчоланька,
Па бару лятаючы,
Салодкі мёд зьбіраючы,
У караднічкі складаючы.
Заплакала ўдованька,
Па панадворку ходзючы,
Сухі дроўкі зьбіраючы,
Вячэраньку гатуючы.
—Вячэр' мая, вячэранька,
—Вячэр' мая, смачненькая!
— С кім я буду вечараці?
—Ночка-ж мая, цямненькая!
—С кім я буду начаваці?

1935, Якубава. Яз. Кірстук ад Г. Корзан-Паршуты.

№ 379.

Жыла ўдованька-ўдава, жыла дужа не багата,
І маленькая ў ей хата, ды пры ей два сына сядзелі,
Мусіць есьці хацелі.
У караблік ўдованька сваіх сыноў усадзіла

І па рэчанькі пусьціла, а сама дамоў прышла.
Чэраз некалькі гадоў пайшла ўдава за вадой.
Не дайшла яшчэ да рэчкі—два караблікі плывуць,
А ў іх два хлопчыка сядзяць.
Адзін кніжачку чытае, другі ўдованьку пытае:
— Ах ты, ўдованька-ўдава, ці пойдзеш ты за мяне?
„За аднаго — я пайду, за другога—дачку аддам!“
— А ці можа гэта быць, мамку з сынам ажаніць?
— А ці можа гэта стаць, сястру з братам павянчаць?
„Калі дзеці вы мае, дык хадзіце вы ка мне!“
— Калі маленькі мы былі, вам няпатрэбны зусім былі,
— А цяпер, як падрасьлі, нам не патрэбна нікаго,
— Акрамя Бога аднаго! *)

1930, Гуменіцы. В. Чаркоўскі ад сваей маці.

№ 380.

— Шынкарачка малада, дай мне мёду і віна!
„Як я табе мёду дам, калі ў цябе жупан дран?“
— Хоць у мяне жупан дран, а са споду злотам слан!
„Калі ў цябе злотам слан, я за цябе дачку аддам.
„Хоць дачку—ні дачку, добрую наймітку“.
У карчомцы згукалі, а ў царкоўцы шлюб бралі.
Пытаецца Ясенька: —Адкуль родам, Касенька?
„А я родам—вайтоўна, а прозьвішча—Скарбоўна.“
— Бадай бабы прапалі—сястру з братам зьвянчалі!
— Ідзі, сястра, ў цёмны лес – няхай цябе зьвяр'ё з'есьць!
— А я пайду—утаплюся!
Дунай кажыць: „Ня пушчу!“ Хваля кажыць: „Выкіну!“
Вецер кажыць: „Высушу!“ Сонца кажа: „Сагрэю!“
Бог кажыць: „Долю дам!“ А кароль кажыць: „Дачку аддам!“

1930, Гоніны. І. Ігнатовіч ад сваей маці.

№ 381.

Як пашоў мой мужык у поле араці,
У поле араці—каня здаганяці,
А я, маладзенька,—ў карчомку гуляці.
Як прышоў мой мужык із поля,араўшы,
А я, маладзенька, з карчомкі, гуляўшы.
— Ах мужу, мой мужу, што я ўчыніла!
— Ня ведала дзе араў — па полі блудзіла!
Дай загневалася жонка на мужа,
Узлезла на печ, сказала: — Нядужа!
Як пашоў мой мужык і вырубіў дубіну на жонкіну сьпіну.
Як мужык на парог—жонка яму аж да ног:
— Дзякуй, дзякуй, мужычок, што ты дагадаўся!
— Не балела галава, не балелі косьці,
— Толькі ляжала дзеля сваей злосьці,
— Толькі чакала мужыка мілосьці.

1935, Якубова. Яз. Кірстук ад Г. Корзан-Паршуты.

*) Варыянты гэтае песьні запісаны яшчэ: б. вучыцялем Яз. Клагішам — у в. Дразды і Яз. Кірстуком—у в. Сілэнэ.

## 2. Доля мужчыны.

Задужа пасыўным і нерашучым вымалёўваецца ў народных песьнях беларускі мужчына. Малады хлапец, заместа таго, каб знайсьці сабе жонку і ажаніцца, сумуе аб тым, што бацькі памёрлі, не пасьпеўшы яго ажаніць, і вырашэньне свайго лёсу аддае выпадковым людзём, рыбалоўцам. Дарослы мужчына не адважваецца пярэчыць маці, якая не ўзьлюбіла яго каханую і ім самім абраную жонку, выбіраючы лепш сьмерць, чым змаганьне за свае правы і шчасьце. Часта знаходзіць мужчына забыцьцё і ў гарэліцы.

Гэтая пасыўнасьць асталася ў псыхіцы беларуса, як цяжкая спадчына яго бязпраўнага жыцьця з часоў паншчыны, калі кожды крок селяніна бызначаўся волею пана і старэйшых у сям'і.

№ 382.

Зялёны дубочак на лес спахіліўся—
Малады дзяцюк рана зажурыўся.
Затое зажурыўся, што бяз долі радзіўся!
— Бацька з маткай памёрлі, а я не жаніўся:
— Затое не жаніўся, што бяз долі радзіўся!
— Пайду я з гора ў чыста поля—
— Сачыць сабе долю, хлапцу маладому.
— Рыбалоўцы, хлопцы удалыя, маладыя!
— Закіньце вы сетку цераз быстру рэчку,
— Злавеце мне долю, хлапцу, маладому!
„Не злавілі мы долі, а злавілі мы рыбы!"

1927, Мердзенская вол. (б. Міхалоўская)
Я. Заракоўскі ад бабулі.

№ 383.

Сюды еду, туды еду—карчмы не мінаю!
А дзе-ж гэта карчоманька, дзе грошы мяняюць?
А дзе-ж тая крынічанька, дзе голуб купаўся?
А дзе-ж тая дзяўчыначка, што я заляцаўся?
Ужо тая крынічанька—траванькай зарасла!
Ужо тая дзяўчыненька—даўно замуж пошла.

1929, Рыга. Яз. Каяла ад М. Каялы.

№ 384.

„Малады чумак, аб чым зажурыўся?
„Ці валы прысталі? Ці з дарожкі зьбіўся?"
— Валы ня прысталі, з дарожкі ня зьбіўся,
— Таго зажурыўся, што бяз долі ўрадзіўся!
— Пайду ў чыста поле шукаць сабе долю!
— Ні знайшоў я долі, знайшоў рыбалоўцаў.
— Рыбалоўцы-хлопцы, удалыя малойцы!
— Вы закіньці сеці цераз быстру рэчку,
— Вы злавіце долю хлопцу маладому!

Рыбалоўцы-хлопцы, удалыя малойцы,
Закінулі сетку цераз быстру рэчку—
Ні злавілі долі хлопцу маладому,
А злавілі рыбу—шчупака.
Рыба-шчупак злая—сеці разадрала.
— Пайду я ў карчомку, п'яненькі нап'юся!
І пайшоў ў карчомку, п'яненькі напіўся,
З карчомкі выйшаў—на тын нахіліўся,
На тын нахіліўся—чуць не паваліўся!

1939, Шушкі. ад М. Быдзан- Дамчонак.

№ 385.

Капаў, капаў крынічаньку я ў сваім саду,
Любіў, любіў дзяўчыну я ў сваім краю.
Ох жаль, жаль німалы—любіў я дзяўчыну змала,
Любіў яе ні мала, любіў—ды ні ўзяў!
Ні жаль мне тэй сьцежанькі, што я пратаптаў,
А жаль мне тэй дзяўчынкі, што любіў, ды ні ўзяў!
Ох жаль, жаль мне будзе—возьмуць яе людзі,
А мая ня будзе!
Ні жаль мне тых падарункаў, што я накупляў,
А жаль мне тых чырвоных губак, што я цалаваў!
Ох жаль, жаль німалы—люб ў я дзяўчыну змала,
Любіў яе ні мала, любіў—ды ня ўзяў!
З маей крынічанкі арлы ваду п'юць,
А маю дарагую—да шлюбу вядуць!
Ох жаль, жаль мне будзе—возьмуць яе людзі,
А мая—ня будзе!
Адзін бярэць за ручаньку, другі—за рукаў,
А я стаю і шкадую, што вадзіў—ды ня ўзяў!
Ах жаль, жаль німалы—любіў я дзяўчыну змала,
Любіў яе ні мала, любіў—ды ня ўзяў!

1927, Цеплішы. Яз. Цепліш ад сваей маці.

№ 386.

З'ездзіў я каня, з'ездзіў варанога,
Дзеля сваей дзяўчыны, дзеля яе твару румянога.
— Скажы, дзяўчына, праўду мне:
— А ці будзеш мая, ці не?
„Я табе казала і ўсяму твайму роду,
„Што ня будзе ў нас з табой сходу—
„У мяне пасагу німа, возьмуць мяне добры людзі!"
— Мне твайго пасагу ня пільна патрэбна,
— Бог мяне нагародзіць з высокага неба!
— Ты сама мне—пасага, як на небе ясна зара.
„А цяпер ты кажаш, што ясная зара,
„А потым ты скажаш—няшчасная доля!
„Хаця ня ты скажаш—твая маці—
„На што-ж было бедную браці?"

— Ня ўважай, дзяўчына, што нам маці скажа,
— Пойдзем да касьцёлу, нам ксёндз рукі зьвяжа,
— Ксёндз рукі зьвяжыць стулою, а нам жыці з табою.
„Цяпер мяне бачыш харошаю,
„Як дапусьціць Бог да тугі,
„Не заглядайся тады на другіх!“
— Пакарай мяне, Божа, на гладкай дарозе,
— Калі я памысьлю, ах, мой мілы Божа!
— Хоць я памысьлю — не скажу,
— Сваё сэрца—ўсушу! *)

1929, Індраўшчына. Э. Казакевіч ад М. Ляшчыхі.

## № 387.

Чаго ты, Валодзенька, сам ні жаніўся?
Ці ў цябе, Валодзенька, дзевак ня было?
Ці ў цябе, Валодзенька, саладок ня рос?
— Рос, рос саладок—куры склівалі!
— Віўся хмялёк, віўся хмялёк—козы згладалі!
— Былі дзеўкі—замуж павышлі!
— Да ёсьць дзеўкі—да ўсе маленькі!

1930, Пугачы. А. Маслоўскі ад В. Куксінскай.

## № 388.

Што ты, салавейка, рана не лятаеш?
Ці ты, салавейка, голасу ня маеш?
— Страціў я галасок у зялёным садочку,
— У зялёным садочку, у вішнёвым садочку!
Што ты, малойчык, ні п'еш, ні гуляеш?
Ці, малойчык, доленькі не маеш?
— Страціў я долю праз сваю сваволю!
А ў чысьценькім полі карчомка стаяла,
А ў тэй карчомцы калыска вісела,
А за тэй калыскай дзяўчына сядзела.
Дзяўчынка сядзела—дзяцю калыхала,
Дзяцю калыхала—моцна праклінала:
„Бадай ты, дзяцяці, з калыскі выпала,
„Як я, маладзенька, за табой прапала!“
— А ты, дзяўчына, не кляні ты майго сына!
— Дам табе, дзяўчына, сто рублёў грашыма,
— Сто рублёў грашыма, каня варанога!
— На вараным кані раз'ежджаці будзеш,
— А тымі грашыма купчаваці будзеш,
— Майго сына ты гадаваці будзеш!

1928, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад Ю. Бартуль.

---

*) Варыянты гэтай песьні мной запісаны ў в. Скершаны ў в. Ругелі.

№ 389.

Маці сына расьціла,
Вырасьціўшы—не жаніла.
Паехаў сынку сам жаніцца.
Яго маці ноч ня спала—
Горкую атруту гатавала:
Для сына свайго — зеляно віно,
Для нявестачкі—горкую атруту.
Прыехаў сын, ажаніўшыся,
А яго маці вышла вітаці:
У правай руцэ—зеляно віно,
У левай руцэ—горкая атрута.
А сын узнаў і віна ня піў,
Віна ня піў—на каня узьліў,
А горкую атруту—папалам пілі.
— Ой, маці, маці!—Ня ўмела вітаці —
— Умей-жа, маці, нас пахаваці!
— Мяне пахавай—ля царковачкі,
— Жану маю—каля боку майго.
А маці яго не паслухала:
Пахавала сына—каля царковачкі.
А жану яго—за царкоўкай.
На сыне вырас зялёны явор,
А на нявесткі вырасла бяроза.
Яны расьлі, сарасталіся,
Умейсца макаўкі зьвіваліся,
Шырокае лісьцьцё ўмейсца саліпалася.
Ехалі там князі-баяры,
Яны ехалі—дзіваваліся:
— Ды хто тут схаваны?
— Ці брат з сястрой?
— Ці муж з жаной?
— Калі брат з сястрой—
— Па крыві сваей!
— Калі муж з жаной—
— Па любові сваей!
А маці яго дазналася,
Узяла сякеру, пайшла і зрубіла:
Зялёны явор—на звонкі гусьлі,
Белу бярозу—на жаркі агонь.
— А вось табе, нявестачка,—
— Карэнькі вон! *)

1939, Шушкі. ад М. Быдзан-Дамчонак.

*) Варыянт гэтае песьні запісала Бр. Станкевіч у в. Станкевічы.

№ 390.

Пры даліне, пры зялёнай, два дубочкі стаяць.
Па дарозе, па шырокай, два брацітнкі ідуць.
Яны ідуць і гаворуць пра жанібаньку сваю.
„Ці ўдалася, ці ўдалася, брат, жанібанька твая?“
— Ня ўдалася, ня ўдалася, брат! — Ня любая жана!
— Ох, вазьму-ж я, павяду-ж я, да-й на быстраю раку,
— А сам выду, пагляжу я на высокаю гару.
— Ох, вярніся, ох, вярніся, хоць ня любая, жана!
„Не вярнуся, не вярнуся, бо ня любая была!“
— Хоць не для мяне, хоць не для мяне,
— То для дзетак малых!

1935, Якубава. Яз. Кірстук ад Г. Корзан-Паршуты.

## 3. Ваяцкія песьні.

Песьні ваяцкія магчыма было-б аднесьці да песьняў, якія абмалёўваюць долю мужчыны наагул, але па свайму характару і зьместу ваяцкія песьні стаяць зусім асобнай групай. У іх мы знаходзімо іншы раз і некатўрыя гістарычныя весткі і малюнкі, як, напрыклад, малюнак лоўлі рэкрутаў у часы прыгону, калі не было яшчэ агульнай вайсковай павіннасьці. Таму песьні гэтыя выдзеляемо мы ў асобны раздзел.

№ 391.

Калі лавілі рэкрутаў.

У нашага караля —
Прыявілася навіна.
Прыявілася навіна —
Клічуць войта са двара:
Будуць яны раду брацъ,
Каго ў рэкруты ўзяць.
—А дзе шэсьць—
— Там ня ўлезьць!
—Ёсьць удовін сын —
—Той падходзіць пад аршын!
Яго сястра чула —
Пайшла брату сказала.
Тады ён—пад снапок,
За ім соцкі у сьлядок,
Ды там яго злавілі,
Ножкі, ручкі—скруцілі,
Ручкі, ножкі—зьвязалі,
Ды да двору падалі.
Ды ў нядзелю парана—
Заганяюць хурмана,
Заганяюць хурмана —
Садзюць рэкрута ў сані.
Ён у санкі сядае,
І нічога ня дбае
Ад'яжджае ад дварца:
—Бывай, родная матанька!
Ад'яжджае ад ганка:
—Бывай, мілая каханка!
Ад'ежджае ад варот:
—Бывай, мілы мой народ!
У чырвоных каўнерах:
—Ступай, рэкрут, да меры!
—Рэкрут мерай не дайшоў!
Пан з каскаю падыйшоў —
Рэкрут мераю дайшоў.
Ах ты, горад-гарадзец,
Харош рэкрут-маладзец!

1928, Драздьі. Я. Клагіш ад Г. Маісей.

№ 392.

Расьцець траўка зялёная,
Цячэць рэчка шырокая.
А ў тэй траўкі — маладец ляжыць.
Над ім конік сівы стаіць.
— Бяжы, кося, дарогаю!
— А там стаіць малая хатка,
— Выйдзець старая матка,
— Будзець яна ў цябе пытаці,
— А ты ўмей, кося, адказаці!
„А ты, кося, сівусенькі!
„Дзе гаспадар твой, маладзюсенькі?
„Ці ты яго на вайне забіў?
„Ці ты яго ў палку згубіў?
— Ні я яго на вайне забіў,
— Ні я яго ў палку згубіў —
— Забілі яго цёмныя ночкі
— У дзеванькі-чарнаброўкі:
— Мяне прывязаў да тычыны,
— А сам пайшоў да дзяўчыны;
— Мяне прывязаў да сасонкі,
— А сам пайшоў ў карчомку.
— З карчомкі ідзець — хістаецца,
— На ім твар мяняецца.
— У цёмным лесе ваўкі выюць —
— Пада мною ножкі млеюць!

1937, Ругелі. ад А. Шыліхі.

№ 393.

У зялёным садзе вятры гудзелі.
Там сьвякроўка нявестку рана будзіла:
— Устань, устань, нявестачка, устань, дзіцятка!
— Твой муж, а мой сын — на вайне забіты!
„Сьвякровухна, мамухна, а хто табе весьці даў?"
— Нявестухна, дзіцятухна, — прыбег сівы конь!
— На коніку—сядзельца, а ў сязельцу—кашулька:
— Уся шпагамі сколата, уся крывёй заліта.
— Вазьмі гэту кашульку, вымый яе сьлязамі,
— Высушы дыхамі, звалкуй яе рукамі
— І складзі — слоўцамі.

1931, Дайлідава. П. Лябёдка ад І. Вялічкі.

№ 394.

Каля лесу, каля цёмнага,
Пралягала там дарожухна шырокая.
Па тэй дарожанькі бягіць конік, варанюсенькі,
На тым коніку сядзіць малойчык, маладзюсенькі.
Бягіць конік — разлягаецца,
Сядзіць малойчык — хістаецца.

Яго мамка пераймаіць, у яго пытаіць:
— Ох, ты, сынку мой, сынок!
— Нашто так ківаесься?
— Што на коніку хістаесься?
„Ох, ты, маці мая, матулька!
„Ні сам я ківаюся —
„Упаіў мяне татарскі сын:
„Тром ножыкам вараўскім,
„А чацьвёртай — шаблей войстрай,
„А пятай—куляй простай!“
1939, Шушкі. ад В. Дамчонак.

№ 395.

Зялёнае арэхаўя чэраз тын перавісла.
Што з пад таго арэхаўя бяжыць сівы конік,
Што на тым коніку Яначка з вайны едзе.
Яго мамка спатыкае і ў яго пытае:
„Яначка, дзіцятка, ці не адзін з вайны едзіш?“
— Я не адзін з вайны еду:
— Гасподзь Бог — нада мной,
— Сівы конік—пада мной,
— Уся дружынка—за мной і маладая—са мной! *)
1929, Стругі. В. Андрушонак ад сваей бабулькі Кацярыны.

№ 396.

Ой паехаў Ясінька на Русь на вайну,
Ды пакінуў Марысю адну у даму.
А Марыся, малада, ўсю ночку ня спала —
Да Ясінькі лісточкі ўсё пісала.
А Ясева матулька — блізка дарогі,
Усі тыя лісточкі пераняла.
Пераняўшы лісточкі, перапісала:
Што Ясева Марыся — двор спуставала,
Вараныя конікі — папрадавала,
Палавыя волікі — папрапівала,
Дарагія сукенкі—на танцы дала.
Як прыехаў Ясінька з Русі, з вайны,
Да пашоў-жа Ясінька ў новую клець,
Вось ўзяў-жа Ясінька раменную плець,
Да стаў-жа Марысі белы плечы сеч!
Пайшоў да стаенькі — конікі стаяць,
Пайшоў ён да аборы — волікі ляжаць,
Пайшоў ён да каморы — сукенкі вісяць!
Каб ня ясна сонейка — пя піў бы вады!
Каб ня родна матуля — ня біў-бы жаны!

---

*) Варыянт гэтае песьні запісаны мной у в. Шушкі ад Г. Марчонак.

А як ясна сонейка засьвяціла — напіўся вады,
А як родна матуля пазвадзіла — набіўся жаны! *)

1928, Пустынь. Ст. Рацынь ад сваей маці.

№ 397.

Устану, устану я раненька,
Я памыюся бяленька,
Прыбяруся харашэнька.
Ды я сяду пад ваконца,
Проці яснага сонца —
Ці ня ўбачу чорнаморца?
Чорнаморац полем едзіць,
Сямярых коней гоніць,
А восьмага — варанога.
Станавіўся проці мора.
Сталі коні ваду піці,
Капытамі зямлю біці.
Сталі коні націскаці –
Стала вада прыбываці,
Стала вада прыбываці,
Чорнаморца заліваці.
Чорнаморца залівае,
Чорнаморац патапае.
Чорнаморац патапае
Ды да мілае гукае:
—Ратуй, ратуй, мая міла!
—Калі верна ты любіла!
„Я бы рада ратаваці—
„Нет ні лодкі, ні вясельца,
„Не ўратую, мае сэрца!
„Пабягу я ў добры людцы!"
Пакуль людзі сабраліся —
Чорнаморац патапіўся.

1933, Мельнікі. К. Езавітаў ад Г. Хомчанкі.

## 4. Песьні да скокаў.

Беларускія народныя танцы, ў большасьці выпадкаў, выконываліся раней пад гукі песьняў, нават і тады, калі ў распараджаньні танцуючых быў які-колечы народны інструмэнт, дуда, або цымбалы. Песьні ня толькі давалі танцам рытм і тэмп, але зьместам сваім дужа часта надавалі танцу характар гульні, у часе якой пачарзе сьпявалі паасобныя адзінкі і групы танцуючых, адказуючы песьнямі адзін аднаму, а іншы раз сьпяваючы ўсе агульным хорам. Інструмэнт і музыка ў такіх выпадках акампанавалі сьпеваючым танцорам і давалі правідловы тон.

Толькі пасьля таго як зьявілася і шырока пашырылася на вёсцы галасістая „гармонь-разуха", разам з якой прыйшлі і новыя танцы, да якіх народ не пасьпеў скласьці сваіх песьняў,—танцы пачалі выконвацца бяз сьпеваў.

№ 398.

„Лявоніха".

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў!
Лявоніха, душа ласкавая, —
Чаравічкамі паляскавала!
„А Лявоніха ня жонка была —
„Нямытую мне кашульку дала,

*) Варыянты гэтае песьні запісаны яшчэ: Яз. Заракоўскім у Мердзенскай вол. і С. П. Сахаравым – у в. Ругелі каля Даўгаўпілсу.

„Нямытую, някачаную,
„У суседа пазычаную!“
— Як я, малада, ў матульки жыла —
— Як вішанька у садочку цьвіла!
— Цьвіла, цьвіла ды пацьвітывала!
— З малайцамі ды пагулівала!
— Ой, згубіла-ж мяне мамачка мая,
— Што за цябе мяне замуж аддала!
— Ой, чаму-ж цябе пярун не забіў?
— Як ты мяне маладзеньку згубіў?
„Ай, Лявоніха, Лявоніха мая,
„Няхай цябе любіць чорт, ды ня я!“
А дзе-ж тыя кавалёнкі жывуць,
Што новыя тапорыкі куюць?
Куюць, куюць—ды падварываюць,
Чужых жонак ды падманіваюць!
Нашы жонкі, як жабы, паўзуць,
Чужы жонкі, як бабы, ідуць!

1937, Краслава. Г. Сахарава ад Я. Высоцкай.

## № 399.

### „Растрападка“ *).

У гародзе капусьцінка—
Шырокі лісточак!
Хто гарэлкі ня п'ець—
Баліць жываточак!
А я піла, а я піла—
І піць-жа я буду!
Біла мужа, біла мужа—
І біць-жа я буду!
Рукі ногі закасаўшы,
К сталбу прывязаўшы—
Калі ўсыплю па сьпіне,
Кій у рукі ўзяўшы!

Сядзіць жонка на куце,
Ножкі падагбаўшы,—
Стаіць мілы пры парозе,
І шапачку зьняўшы.
— Дзякуй, дзякуй, мая міла,
— Што ня многа біла!
— Куплю табе чарку мёду
І конаўку піва!
„Мне ад піва баліць сьпіна,
„А ад мёду галава —
„Ты купі-тка мне гарэлкі,
„Как я была здарава!“

1933, Мельнікі. К. Езавітаў ад Г. Хомчанкі.

## № 400.

### Полька „трасуха“.

Піва—п'яна, піва—п'яна, гарэлачка—горка!
Распушчонка, раздуронка Хвёдарова жонка!
Яна п'ець, прапіваець, дома ня бываець.
Ды хто-ж ў цябе, Насьценька, хату даглядаіць?
„Есьць у мяне сад, вішнёвыя кветкі,—
„Даглядаюць мяне дома—малыя дзеткі!“

1939, Шушкі. ад В. Дамчовак.

---

*) Пад словы песьні, ў шпаркім тэмпе, танцуюць вольны танец „Растрападку“, ў якім кожды стараецца паказаць свае здольнасьці, танцуючы „што каму ўздумаецца“. Назоў „Растрападка“ паходзе ад словаў: „растрапацца“, „трапаць“, адсюль паходзе і назоў другога агульнавядомага танцу—„Трапак“.

№ 401.

Прыпеўка да 1-е часткі „кадрылі“.

На гарушкі — хатка, пад гарою—ўхватка!
Там граюць і сьпяваюць малыя рэбяткі:
Адну звацъ Мальвінкай, другую—Кацярынкай,
А трэцьцю—сам ня знаю—малада дзяўчынка!

1939, Савельнікі. ад Г. Сьлядзеўскай.

№ 402.

Ці я мужу ні жана? Ці не гаспадыня?
Сем дзён хаты ні мяла́, шумы не насіла!
Ох, ты б'еш мяне, б'еш!—За які учынкі?
Ці я-ж табе не напрала за год тры пачынкі? *)
Я ня сама прала—кума памагала!
Кумы дала міску пшоны і тры кускі сала.
Ды яна ня сама прала: у ей была памачніца —
То за хлеб, то за паляніцы. **)
Ах, ты б'еш мяне, б'еш!
Можа я й рабіла-б, ды німа матавіла: ***)
У печы дровы не гарэлі, дык я падпаліла!

1936, Бруніпэкі. ад А. Гвозд.

## 5. Жартаўлівыя песьні.

№ 403.

У цёмным лесе, у гусьцяры, калыхаліся камары.
Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе!—Калыхаліся камары!

(Прыпеўка „Гэй, гэй, ў лесе, ў лесе!“ паўторываецца пасьля кожнага радка, пры чым за прыпеўкай паўторываецца і другая палова кождага радка песьні).

Дуб да дуба пахіліўся, камар з дуба зваліўся,
Разьбіў камар галоўку аб дубовыя карэні,
Разьбіў камар калені аб дубовы карашок,
З камаровай тоўстай губы вываліліся ўсе зубы.
Ляціць муха ратаваці, зімнай вадой адліваці.
— Ах, камарык, родны браце!—Як-жа цябе ратаваці?
„Дайце у бальніцу знаці і мяне там палажыце!“
„А там добры дахтары!—вырвуць душу бяз пары!“
— Ах, камарык, родны браце!—Дзе-ж мне цябе пахаваці?
„Ня хавайце пры дарогі—там патопчуць людзей ногі!
„Ня хавайце пры даліні—там вырыюць мяне сьвіньні!
„Пахавайце мяне ў лесі, пры зялёненькім гарэсе —
„Будуць дзеўкі гарэшкі йрваці, і камарыка ўспаміна̀ці!“

---

*) „Пачынак“—вялікае верацяно, на якое наматваецца пража з некалькіх малых верацёнаў.

**) Паляніцы—бліны.

***) Прылада для наматваньня нітак.

— А чый-жа гэта помнік?—Ці маёр тут, ці палкоўнік?
—Ні маёр і ні палкоўнік—тут ляжыць камар-пакойнік!

1937, Цеплішы. Яз. Цепліш ад сваей маці Разаліі.

№ 404.

Былі ў цёшчы сем зяцьцёў:
Грышка—зяць, Мікішка—зяць, Захарка—зяць,
Макарка—зяць, Вікенці—зяць, Кляменці—зяць,
Ванюшачка-душачка—любімы быў зяцёк!
Стала цёшча ў госьці зваць:
— Грышка, ў госьці! Мікішка, ў госьці! Захарка, ў госьці!
— Макарка, ў госьці! Вікенці, ў госьці! Кляменці, ў госьці!
Ванюшачку-душачку—за ручку прывяла.
Стала цёшча гасьцёў частаваць:
Грышцы—румку, Мікішкі—румку, Захарцы—румку,
Макарцы—румку, Вікенцю—румку, Кляменцю—румку,
Ванюшачцы-душачцы дзьве румкі паднясла!
Стала цёшча спаць лажыць:
Грышку—на лаўку, Мікітку—пад лаўку,
Захарку—на лаўку, Макарку—пад лаўку,
Вікенція—на лаўку, Кляменція—пад лаўку,
Ванюшачцы-душачцы пярыну дала!
Стала цёшча іх будзіць:
Грышку—ў шыю, Мікітку—ў шыю, Захарку—ў шыю,
Макарку—ў шыю, Вікенція—ў шыю, Кляменція—ў шыю,
Ванюшачку-душачку за ручку правяла!

1923, Пасінь. Зап. П. Масальскі.

№ 405.

Дваранін к селяніну:
—Будзем жонак мяняць!
—Твая—тонка, высока,
—Мая—груба, касавока.
—Дам табе прыдатачку:
—Сто рублёў бумажачку,
—Коніка і хатачку.

„Я жоны ня міняю,
„І прыдачы не жадаю!“
—Да хоць я і ў бяду ўпаду,
—А ад селяніна жонку ўкраду!
„Да хоць я паналюся,
„А за жоначкай паганюся!“

1926, Кісялеўцы. Т. Бартуль ад Т. Шапілавай.

№ 406.

Чаму мне ня пець.

Чаму мне ня пець? Чаму ня гудзець?
Калі ў маей хатанцы—парадак ідзець!
Чатыры—аруць а пяць—барануюць,
За мяне, маладзенькую, гора гаруюць.

1929, Шылава. В. Андрушонак ад Г. Малашонкавай.

№ 407.

Пасьціла дзеўка чорных валоў.
Пасючы — пагубіла,
А сама, шукаючы,—заблудзіла

І спаткала трох малайцоў.
„Ці ня відзелі чорных валоў?“
— Хоць відзелі — ня скажам!
— Загадаем сем загадак:
— Што расьцець бяз карэня?
— Што ляціць бяз павада?
— Што шуміць бяз ветру?
— Што гарыць бяз полымя?
— Што чорна — ня чарнёна?
— Што бела — ня бялёна?
— Што раба — ня пісана?
„Камень расьцець бяз карэня!
„Вада ляціць бяз павада!
„Трасьця шуміць бяз ветру!
„Зара гарыць бяз полымя!
„Чоран воран ня чарнёны!
„А лебядзь белы — ня бялёны!
„А дзяцел рабы — ня пісаны!

1937, Краслава. Г. Сахарава ад Я. Высоцкай.

## № 408.

„Юзэфка!—Ты замуж хацела!—
„Што ты на Болюську не глядзела?“
— А ён—такі не харошы! А ён—такі ня прыгожы:
— У яго ногі—крывыя, у яго вочы—рудыя!
— Наша мыла—панскае, у яго твар—цыганскі,
— Мы хунт мыла змылілі, яго твару ня вымылі!
— Прынясіце барану, пачэшым галаву!
— Барану паламалі, галаву ня рашчасалі!

1938, Індра. ад А. Невяроўскай.

## № 409.

Ай, люлі, люлі!—Сядзіць баба на ялі!
А дзед—на дубу, ён іграе у дуду,
У жулеячку, памаленечку!
Баба лупы надула—па лужаны паплыла,
А дзед ручку адвёў—бабы па вуху аплёў.

1929, Адамова. С. Іонічонак ад сваей маці.

## № 410.

Мой міленькі захварэў—кіселіку захацеў!
Ай люлі, люлі! Ай люлі, малады!
(Прыпеўка пасьля кождага радка).

Яшчэ кісель ні ськіпеў—мой міленькі адурэў!
Яшчэ кісель ні зварыўся—мой мілы з печы зваліўся!
Мілага ў труну ўлажу—вось тады я патужу!

Мілага ў труну ўлажыла і тагды я ні тужыла:
Я міленачка схавала і ножкамі прытаптала,
Як да хаты я прыйшла і ў прысядачку пайшла!

1931, Даўгаўпілс. В. Сахарава ад В. Люблінскай.

№ 411.

Прахадзіў я цёмныя лясы і цёмныя ночы,
Сядзіць жаба на купоне *) вылупіўшы вочы.
Я на яе: „Гіля, гіля!"—А яна падсела да мяне.
Каб ня гэта ў мяне палка, дык яна-б мяне з'ела шпарка.

1937, Разулі. ад Ю. Акулы.

№ 412.

Дзіва, дзіва за ракою—
Дзіўней таго ў нашым баку!
Качарга яйко зьнісла,
Памяло—высядзела, перапёлку вывадзіла!

1929, Шмілгава. Э. Казакевіч ад М. Ляшчыхі.

№ 413.

Купіў мужык шубу.—Жонка кажа: „Фрак! фрак!"
— Нехай—так, нехай—сяк! Нехай шуба будзе фрак!
Купіў мужык рыбу.—Жонка кажа: „Рак! Рак!"
— Нехай—так, нехай—сяк! Нехай рыба будзе рак!
Сеяў мужык рэпу.—Жонка кажа „Мак! Мак!"
— Нехай—так, нехай—сяк! Нехай рэпа будзе мак!
Купіў мужык бізун.—Жонка кажа: „Пастэрнак! Пастэрнак!"
— Калі гэта пастэрнак—пакаштуй-жа яго смак!

1937, Каплаўшчына. Г. Сахарава ад Я. Врублеўскай.

№ 414.

Вось сякія, вось такія ў Нэйжбартах **) дзяўчаты!
Яны трапкі сабіраюць, хвалюцца, што багаты!
Пашыюць яны моды—юбкі з абручамі,
Як пайдуць скакаць—толькі з панічамі!
Запрасілі яны панічоў толькі сесьці,
Пасулілі берабулі ***) з пендзюрамі ****).
— Я на гэты берабулі мала уважаю,
— На паліцы—варэнікі, я на іх міргаю!

1937, Разулі. ад Ю. Акулы.

*) На купоне—на купіне.

**) Нэйжбарты—былы маёнтак у Ілукстэншчыне.

***) Берабуля—бульба.

****) Пендзюры—бульба з шалупой.

# IV. Дадаткі і паказьнікі

Мэлёдыі да тэкстаў песень *)

№5 Ця-рэш-ка, ця-рэ-шух — на, ця-рэш-ка ва-ло — чыц-ца
Це-раз бор да-ро-жух — на жа-ніц-ца яму хо — чац-ца.

№8 У — дзём, пан-дзём Хрыс — тос сын бо — жы.

№16 вя-сё-лая вя-сё-ла ся-гонь-няш-ні дзень, толькі раз-вя-сё-лень-ка но-неш-ні — час.

№50 А на Я-на ноч-ка ма-ла, я ма-ла-да не дас-па-ла.

№89 І — ду, бя-гу, і — ду, бя-гу да — рож- ка — ю.

№153 А ў цём-ным ле — се, а ў цём-ным ле — се ра — на, ра-на
мядзь- ведзь ры-ка-ець мядзьведзь ры-ка — ець ра — на, ра-на.

№127 А ў бару ця-ця-рук бал-бо-чыць ён рана ён і пець ня хо — чыць.

№187 цю-ці, лю-лі дзі-ця спаць, а я бу-ду ка-лы-хаць.

№230 За ле-сам, ле — сам-сонейка сы-хо-дзіць, ой ра-на, ра-на-сонейка сы-хо-дзіць.

№275 Не ся-дзі, ма-ла-да-я, па-раз-ду — май-ся, а ты пусь-ці, пусь-ці ду-пуш-кі па-га-ло-вуш-кі, па га-ло-вуш-кі.

№291 А сват сваць-ці пап-леў лап-ці з тоў-стых лык, а-сам ходз-іць чу-бу-ру-ець, як ін — дык

№312 Ой, чу-ва-ць зван-кі, чу — ва-ць! Ко — ва-ны-я ко — лы гру-чаць!

№328 Па-е-хаў Я-на-чка жа-ніц-ца цёт-ка ха-до-ра сва-рыц-ца.

№348 Пай — ду, з го-ра ў чы — ста по — ля шы-ро-кая да — лі — ная!

---

*) Мэлёдыі песень запісаны: 1.) М. Ф. Грыўскім—№ 16 ад У. Нэйжбарт-Беляўскай, № 275 ад старыка Вароны, каля Зілупэ і № 348 пераклаў на ноты з фонсграфічнага запісу, зробленага мной ад Г. Сімачыхі; 2.) Д. А. Косьмінскім — №№ 89, 153, 187 і 312 ад Г. Сімачыхі; 3.) Н. Н. Словецкай—№№ 5, 50 і 291 ад Г. Сімачыхі і №№ 127 і 328 ад В. Ф. Сахаравай; 4.) Я. Я. Каяла — № 8 ад А. Навіцкай і 5.) С К. Казэка—№ 230 ад А. Васілеўскай. Музычная карэкта зроблена М. Ф. Грыўскім, за якую аўтар прыносіць яму, а так сама і ўсім запісаўшым мэлёдыі, сваю падзяку.

# Альфабэтны сьпіс песень.

(Лічбы азначаюць №№ песень).

* * *

З вышэй пералічаных песень некаторыя ўжо былі апублікаваны раней: у вучнёўскім штомесячніку былое Лудзенскае беларускае гімназіі „Ластаўка“ (1923—1924 г. г) і ў вучнёўскім часопісу былое Даўгаўпілскае беларускае гімназіі „Школьная Праца“ (1926—1929 г. г.).

З штомесячніка „Ластаўка“ перадрукаваны №№: 41 42, 70, 147, 275, 325, 335, 350, 404.

З часопіса „Школьная Праца“ перадрукаваны: №№ 9, 28, 36—1, 39, 43, 73, 74, 86, 93, 117, 168, 220, 228, 234, 255, 256, 266, 311.

Песьні 99 і 162 перадрукаваны з „Беларускаго календара“ на 1937 г., вышаўшага ў Даўгаўпілсу.

---

## 3. Паказнік мясьцовасьцей і асоб, ад якіх зроблены запісы.

(Лічбы з літарай „г“ азначаюць колькі год было асобе ў часе запісу ад яе песень; далейшыя лічбы азначаюць, №№ запісаных песень).

### Даугаупілскі павет.

Даўгаўпілс:

Ядвіга Кавалёнак — 322
Вера Люблінская — 410
Антон Міхалок—8 г. — 201
Вольга Сахарава—53 г.—191, 194, 195, 196, 197, 209

Краслава:

Ядвіга Высоцкая—74 г. — 66 67, 157, 398, 407
Антось Ермак—7 г.—202, 203
Віктар Панкін—11 г.—210
Гэлена Сімачыха — 5, 11, 18, 48, 50, 54, 89, 103, 118, 127, 143, 174, 180, 182, 218, 224, 5, 226, 235, 239, 258, 278, 291, 312, 314, 321, 324, 329, 348

Асунская воласьць:

Ферма — Папсуевіч—51—I

Вышкаўская воласьць:

Ругелі—Анэля Шыліха — 60 г.—17, 52, 53, 96, 148, 189, 243, 328, 331, 392

Індраўская воласьць:

Азерцы—Марыля Азерская —39, 93, 117, 131, 282, 283, 305
Марыля Ласурская—168
Аізупэ (Зарэкі) — Анэта Гэндэль—65 г.—129, 232, 313
Александрова—Ю. Тарлецкая—160
Бабка-жабрачка—266
Бартулі—Барысёнак—75, 134, 135, 154
Тэкля Сардыка—238
Вайцюлева — Петрунэля Абалевіч—80 г. — 259
Глінаўка—К. Заракоўскі,— 9, 340
Дайлідава — Ізабэля Вялічка—249, 288, 393
Індра—Агата Невяроўская—66 г.—59, 83, 172, 269, 270, 303, 315, 316, 317, 323, 327, 408
Кісялёўцы — Югана Бартуль—55 г. — 28, 311, 342, 365, 373, 386
Тэофілія Шапіліха—140, 158, 171, 176, 220, 255 256, 366, 405
Даўгавіешы (б. Прыдруйск) —А. Караткевіч—237
Г. Пашкевіч—234
Стрымкі—Анэта Косман — 60 г. — 23, 104, 108
Шмілгава — Магдалена Ляшчыха—85 г.—36—3, 62, 120, 144, 386, 412

Капінская воласьць:

Станкевічы — Гэлена Станкевіч—58 г.—60, 357

Краслаўская воласьць:

Скершканы — Марыя Варонка-Скершкан—46 г.— 9, 100, 101, 102, 121, 21 , 221, 252, 257, 293, 360 362
Рубені—Ева Высоцкая— 56 г. — 105
Баркевічы—Антаніна Кобзар—56 г. — 215
Крываны—Агнэся Габовіч 70 г. — 124
Гэля Крыван 6 г.—18 198, 199
Аполёнія Шляпіна—4 г —50з, 81, 130
Цэплішы—Розалія Цэпліш

—62 г. — 22, 37, 339, 344, 345, 385, 403

**Ліксненская воласьць:**

Маставая — Антось Мазалеўскі — 8 г. — 208

**Пустынская воласьць:**

Дубрышкі — бабка Пелагея — 15

Іоніны — Юзэфа Ігнатовіч 107, 125, 133, 175, 178, 181, 236, 261, 353, 354, 367, 369, 380

Падазерцы — Домініка Парфен—72 г.—36—II

Піпіры—Ганна Юрэвіч—254

Пустынь—Саламея Рацынь —271, 355, 396

Юраны—Ю. Чэкель—50—I, 219, 375

**Скайсьценская воласьць:**

Дразды—Ганна Маісей—78 г. —68, 97, 122, 233, 248, 391

## Лудзенскі павет.

**Брыгаўская воласць:**

Рэйкі — Валентына Казлоўская — 350

**Звіргзденская воласьць:**

Путынава—Анна Васілеўская —67 г. — 230, 276, 280

**Істрэнская воласьць:**

Баравые—Еўдакея Шаракова — 53 г.—34, 306

Беляі — Усьціньня Тронінкава—110, 153, 229, 290, 296

Гуменіцы — Ірына Чаркоўская—24, 35, 65, 166, 379

Канецполь—Шчавінская—343

Лазары—Г. Скрыбан—71, 90

Ламы—Е. Маслоўская—36—I, 86, 145, 287

Ляўдэры—В. Барада—43, 74

Бабка-жабрачка—337

Г. Лапчонак—272

Елізавета Прынц — 35 г.—73, 240, 286

Н. Прынц—161, 213, 214, 216, 231, 244

Мельнікі—Ганна Хомчанка 51 г. — 33, 44, 72, 79, 123, 136, 137, 138, 139, 141, 193, 205, 307, 397, 399

Пугачы—В. Куксінская—165, 222, 387

Вецслабада—Грыгор[illegible] віцкі 67 г. — 14?

Бабка Луцэя—150

Домна Скрыбан—85 г.—184, 192, 204

Шакуры—Любоў Чыўчыш — Чаркоўская—38, 190

**Мэрдзенская (б. Міхалоўская) воласьць:**

ад бабкі — 349, 382

**Пасінская воласьць:**

Адамова—Доўгая—41, 42, 70, 319, 341

Моніка Іонічонак—19, 25, 26, 27, 51—II, 91, 98, 289, 298, 409

А. Мяшкоўская—40

Навумкі—Гэлена Краўкліш —60 г. 109, 251

Пасінь — 404

Ракшана—Ганна Жыбінкава—223, 275

Рыўцаны—Сьлядзеўская—247, 274, 320

Савельнікі — Гэртруда Сьлядзеўская — 40 год—13, 14, 82, 87, 111, 152, 200, 206, 245, 401

Сьлядзеўская Юзэфа — 281

Стругі—Кацярына Андрушонак — 36—VI, 395

Церахава—Зося Лапацёнак—36, 228, 241, 352

Шылава—Ірына Малашонкава 80 г.—372, 406

**Пылдзенская воласьць:**

[illegible]лева — Палута Стары[illegible]кава—325, 335, 336

**Рунданская воласьць:**

Зубрава — Ізабэля Врублеўская—53 г.—6,411

